КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!
פּראָלעטאַריער פֿון אַלע לענדער, פֿאַראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visú šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.



КРАСАВІК
1931 год.

№ 2 (43)

КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну.)

Пралетары! ўсіх краёў злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

№ 2 (43) Вільня, Красавік 1931 г. № 2 (43)

## ПЕРШАЕ МАЯ 1931 году.

Міжнародны пралетарыят пад кіраўніцтвам Камуністычнага Інтэрнацыяналу дае рашучы адпор наступленьню капітала і праз рэвалюцыйную барацьбу, якая пераходзіць у некаторых краінах у контр-наступленьне, а таксама на прыкладзе СССР, паказвае для шырокіх сялянскіх мас і паняволеных народаў адзіны выхад з голаду, беспрацоўя, роспачы, адзіны шлях да сацыяльнага і нацыянальнага вызваленьня,— гэта ўзбройнае зваленьне панаваньня эксплёататарскіх клясаў. Роля пралетарыята, як баявога кіруючага авангарду працоўных мас, як галоўнейшай рухавай сілы рэвалюцыі, з кожным днём становіцца ўсё больш адчувальнай і грознай для капіталу. Вось чаму кожную чырвоную маёўку—дзень баявых салідарных выступленьняў пралетарыяту ўсіх краёў—капіталізм сустракае з жахам і з узмножанай лютасьцю.

1-е мая ў гэтым годзе праходзіць у варунках нячуванага па сваім размаху і вастрыні эканамічнага крызысу капіталізма, праходзіць напярэдадні імпэрыялістычных войнаў і магутных баёў пралетарыяту за ўладу.

Наперакор прадраканьням II Інтэрнацыяналу і яго падпявалаў, правых ухілістаў у Камінтэрне, аб „міры ў прамысловасьці", аб „арганізаванасьці капіталізму", эканамічны крызыс, ахапіўшы прамысловасьць і сельскую гаспадарку, ідзе па нахіленай зыгзагаватай лініі. Рост манапалістычных аб'яднаньняў капіталізму ня толькі не паслабіў крызысу, але яшчэ больш паскарае яго тэмп, усё мацней уцягваючы ў вір крызысу ўсе капіталістычныя краіны, усе галіны капіталістычнай эканомікі. Эканамічны крызыс ні ў водным яшчэ буржуазным краі не дасягнуў найвышэйшага пункту свайго разьвіцьця. Аб гэтым сьведчыць дынаміка лічбаў у буржуазнай статыстыцы, гэта сьцьвярджаюць нават буржуазныя эканамістыя. І надалей будзе працягвацца, ня гледзячы на сэзонныя хістаньні, рост беспрацоўя, выцісканьне апошніх сіл з пралетарыяту, руйнаваньне шырокіх мас сялянства, а таксама гарадзкой дробнай буржуазіі.

Усё больш відавочна жыцьцё пацьвярджае ацэнку Камінтэрну аб далейшым завастрэньні сусьветнага крызысу капіталізму, завастрэньні міжнародных і ўнутраных супярэчнасьцяў капіталізму, галоўным чынам, завастрэньні супярэчнасьцяў паміж капіталістычным сьветам і СССР. Эканамічны крызыс, парастаючы ў некаторых капіталістычных краёх у палітычны (Польшча, Нямеччына), падрываючы падставы капіталізму, усё мацней б'е па версальскай згодзе, распаляе хцівасьць імпэрыялістаў за новы перадзел сьвету, за новыя рынкі збыту, за новыя масы для эксплёатацыі, за вырашэньне крызысу шляхам разгрома СССР.

Па меры разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, па меры ўзрастаньня значэньня СССР, як палітычнай і эканамічнай сілы, узрастаюць супярэчнасьці ў сучасным сьвеце, узмагаецца антысавецкая палітыка міжнародных капіталістаў, якія праводзяць у паскораным парадку падрыхтоўку інтэрвэнцыі. Факты апошняга часу яскрава сьведчаць аб шалёнай арганізацыі нападу на СССР з боку міжнароднага імпэрыялізму, а перадусім з боку Фран-

цыі і Польшчы. На эўрапейскім кантынэнце шпаркім тэмпам адбываецца кансалідацыя і актывізацыя антысавецкага блёку. Нядаўна заключаная военная згода паміж Францыяй, Англіяй і Італіяй, якія далучыліся да такой-жа згоды паміж Паўночна-Амэрыканскімі Злучанымі Штатамі і Японіяй, узможаныя перагаворы аб военнай згодзе паміж Францыяй і Нямеччынай, а таксама паміж Нямеччынай і Польшчай,—усё гэта кажа аб тым, што як ні глыбокі супярэчнасьці паміж буржуазнымі краямі, аднак імкненьні імпэрыялістаў сарваць пяцігодку, зьнішчыць СССР, адсоўваюць на другі плян усе капіталістычныя супярэчнасьці.

Падрыхтоўку і арганізацыю інтэрвэнцыі міжнародных імпэрыялістычных драпежнікаў асабліва яскрава аголілі перад працоўнымі масамі ўсяго сьвету працэсы ў Маскве над „прампартыяй" і ў апошні час над меншавікамі—Громанам, Сухановым і іншымі, якія ў СССР складалі так званае „саюзнае бюро" ЦК меншавікоў.

Разгорнутае сацыялістычнае наступленьне на рэшткі капіталізму ў СССР, посьпехі ў справе рэалізацыі пяцігодкі выклікалі шалёнае супраціўленьне кулацтва, актывізавалі ўсе контр-рэвалюцыйныя групоўкі, гэтыя агентуры міжнародных імпэрыялістаў. „Прампартыя", украінскія і беларускія нацыянал-дэмакраты, кандрацьцеўшчына, меншавіцкае „саюзнае бюро"—усе яны працавалі ў шчыльным кантакце паміж сабою, з замежнымі белаэмігранцкімі коламі, II Інтэрнацыяналам, працавалі пад кіраўніцтвам міжнародных імпэрыялістаў і іх генэральных штабаў. Усіх гэтых вялікарасейскіх, украінскіх, беларускіх, яўрэйскіх шавіністаў, эсэраў, меншавікоў, кадэтаў, манархістаў лучылі буржуазныя кулацкія клясавыя інтарэсы, гуртавала нянавісьць да савецкай улады, да сацыялістычнага будаўніцтва. Меншавіцкае „саюзнае бюро", як і іншыя контр-рэвалюцыйныя арганізацыі, ня гледзячы на ўзможаныя спробы пранікнуць у гушчу працоўных мас СССР, ня мела посьпеху, яна прымушана была, што прызнаюць самі меншавікі, канцэнтраваць свае сілы на арганізацыю меншавіцкіх недабіткаў у СССР, на вербаваньне буржуазнай інтэлігенцыі. Спаткаўшы рашучы адпор з боку рабочае клясы ў СССР і бачучы, што пралетарская дыктатура штогод усё замацоўваецца, меншавіцкае бюро, згодна дырэктыў II Інтэрнацыяналу, тварыла сваю падрыўную працу па зрыве пяцігодкі, шляхам арганізаванага шкодніцтва, каб гэтым падрыхтаваць глебу для імпэрыялістычных інтэрвэнтаў.

Усе падсудныя меншавікі прызналі сябе вінаватымі ў контр-рэвалюцыйнай чыннасьці, якую праводзілі пад кіраўніцтвам ЦК меншавікоў (Дан, Абрамовіч і інш.) і II Інтэрнацыяналу. Працэс над меншавікамі ў Маскве—гэта фактычна працэс над II Інтэрнацыяналам і ўсімі яго агентурамі. Сарваная пралетарскай дыктатурай маска з агентаў і саюзьнікаў міжнародных імпэрыялістаў выклікала вялікую трывогу сярод лідэраў II Інтэрнацыяналу накшталт Вандэрвэльдэ, Каўцкага, Гільфэрдынга і інш. Яны ўразумелі, што працэс над меншавікамі ўвачавідку пераконвае рабочыя масы ўсіх краін, што II Інтэрнацыянал ня грэбуе ніякімі сродкамі ў сваёй контр-рэвалюцыйнай барацьбе супроць рабочай клясы, што ён зьяўляецца агентурай міжнароднага імпэрыялізму і нароўні з белагвардыйскімі генэраламі, рымскім папай і нафтавымі каралямі праводзіць падрыхтоўку і арганізацыю вайны супроць СССР. Вось чаму ўсе яны сьпяшаць адмежавацца ад Громанаў, Сухановых і іншых і хочуць выкарыстаць працэс для сваёй антысавецкай агітацыі, абвінавачваючы ЎсеКП і савецкую ўладу ў тэрары і іншым. Працэс меншавіцкага бюро дае для кампартыяў усіх краін магутную зброю ў справе барацьбы супроць інтэрвэнцыі і адваяваньня працоўных мас, якія яшчэ ідуць за сацыял-пуанкарыстамі, сацыял-цэргібелямі і іншымі сацыял-інтэрвэнтамі.

Разгром меншавіцкай контр-рэвалюцыйнай арганізацыі ўдарыў таксама і па польскім фашызме, па яго імпэрыялістычных антысавецкіх плянах. Усе польскія буржуазныя газэты паднялі вой у абарону Громана, Суханава, Шэра і іншых меншавікоў, разьвіваючы пры гэтым шалёнае антысавецкае цка-

ваньне. Польшча ўсё больш нахабна, асабліва ў апошнія часы, выяўляе сваю экспансыю на Ўсход, што тлумачыцца паглыбляючымся эканамічным і палітычным крызысам у краіне, а таксама рольлю Польшчы, як аванпоста міжнароднага капіталізму. Крызыс у Польшчы мае асабліва востры характар і разьвіцьцё яго ідзе значна шпарчэй, чым у іншых буржуазных краёх. Тыя сэзонныя ажыўленьні прамысловасьці, ці то ажыўленьне ў вытворстве, выкліканыя заказамі ў сувязі з падрыхтоўкай вайны, бязумоўна не зьяўляюцца агульным зьмякчэньнем крызысу, як аб гэтым трубіць буржуазны друк.

Асабліва паказальным паглыбленьнем прамысловага крызысу зьяўляецца шалёны рост беспрацоўя (30 студзеня 1931 г.—250 тыс., а 30 студзеня 1931 г. 345 тыс.), якое расьце нават ня гледзячы на ўзможаныя ваенныя ўрадавыя заказы па мэталюргіі і тэкстылю (у сакавіку каля 400 тысяч беспрацоўных). Няўхільна падае прамысловая прадукцыя, агульны паказальнік якой выражаецца ў лістападзе мінулага году ў 109,7% у сьнежані 102%, у студзені гэтага году — 95% (1927 г. — за 100%). Ударам крызысу падпадаюць і ў далейшым больш за ўсё тэкстыльная і дрэваапрацовачная прамысловасьць, якія маюць на ЗБ першараднае значэньне: тэкстыльная скарацілася на 15% у студзені месяцы, а дрэваапрацовачная на 26%. Па паведамленьні „Кан'юнктурн. господар." такога катастрафальнага становішча ў гэтых прамысловасьцях яшчэ не наглядалася ў Польшчы.

Яшчэ больш вострых форм набірае аграрны крызыс у Польшчы, галоўным чынам у Заходняй Беларусі, дзе насельніцтва на 83% складаецца з тых, хто займаецца земляробствам і дзе каленіяльная палітыка фашыстоўскага ўраду давяла шырокія масы да дна галечы. Падатковы прыгнёт, які сыстэматычна ўзмацняецца, і растучая запазычанасьць сялянскіх мас, кабальная прыгонная форма эксплёатацыі вясковага пралетарыяту і вясковай беднаты прыводзіць да нябывалага яшчэ беспрацоўя на вёсцы, да крайняй нэндзы шырокіх сялянскіх мас. Ня гледзячы на ўсё ўзмацняючуюся нэндзу мас, урад сыстэматычна павялічвае падатковы цяжар, што відаць з наступных лічбаў: у даваенныя часы падатак на асобу складаў 48 злотых, у 1925 г.—71 злот., у 1930 г.—100 злотых.

Крызыс фашыстоўскай Польшчы нішчыць усе галіны эканомікі краю, ня выключаючы і фінансаў. Побач з узмацненьнем падатковага націску, дзяржаўная прыбытковасьць рэзка падае. За 1930 г. гэтая прыбытковасьць паменшылась на 260 мільёнаў злотых, за гэты-ж год скараціліся і валютныя запасы з 520 мільён. зл. да 230 мільён. зл.

Рыхтуючыся да вайны, фашыстоўскі ўрад павялічвае дзяржаўны бюджэт да 3-х мільярдаў злотых, што перавышае ўвесь грашовы зварот краю на 50%. Сродкі гэтыя зьдзіраюцца з шырокіх працоўных мас па найрознастайнейшых повадах, пачынаючы ад беспасрэдных і пасрэдных падаткаў, да штрафаў, прымусовых збораў на розныя ваенныя афёры.

Абвастрэньне эканамічнага крызысу ўзмацняе рост элемэнтаў палітычнага крызысу; гэтаму ў значнай меры спрыяе страшэнна рэзкі кантраст, які бачаць працоўныя масы Польшчы, у прыватнасьці ЗБ, паміж сацыялістычнай сыстэмай гаспадаркі ў СССР і капіталістычнай тут. Ажыўленьне забастовачнага руху, які мае бурны ўпорлівы характар, масавыя паўсямесныя баявыя выступленьні беспрацоўных зьяўляюцца паказьнікамі таго, што пралетарыят усё больш пераконваецца ў тым што палепшаньне яго становішча ляжыць не ў буржуазных рэформах, не ў барацьбе за так званую парлямэнцкую дэмакратыю, а ў рэвалюцыйнай барацьбе, у зьнішчэньні капіталістычнага ладу.

Рэзка абвастраецца нездавольства фашыстоўскім рэжымам сярод шырокіх мас сялянства, а таксама зруйнаванай гарадзкой дробнай буржуазіі, ўсё больш узмацоўваецца іх саюз з пралетарыятам, і ўзмацоўваецца яго кіраўніцтва ў барацьбе супроць падатковага ярма, за зямлю бяз выкупу.

Нацыянальна-вызваленчы рух у ЗБ і ЗУ, наперакор усім махінацыям беларускіх і украінскіх нацыянал- і сацыялфашыстаў, ня гледзячы на карныя эк-

спэдыцыі і шаленства белага тэрару, прымае ўсё больш вострыя і магутныя формы і праходзіць пад лёзунгамі „супроць фашыстоўскай акупацыі, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня з брацкімі рэспублікамі БССР і УССР“.

Усё больш моцным становіцца рэвалюцыйны фэрмэнт у арміі, усё часьцей выбухаюць салдацкія бунты і непадпарадкваньні буржуазнаму рэжыму.

Выступленьні беспрацоўных у кампаніі міжнароднага дня беспрацоўя, ня гледзячы на дзікі тэрар і забарону масавых выступленьняў, адзначаюцца баявым характэрам—яны мелі месца ў самых глухіх кутках (Маладэчна, Паставы, Граева), што сьведчыць аб узмацаваньні рабоча-сялянскага саюзу, аб сіле і росьце ўплыву кампартыі.

Гаспадарчы крызыс, які ўсё паглыбляецца, і ўзрастаючая пагроза пралетарскай рэвалюцыі ўзмагае ў фашыстоўскім лягеры цярці і спрэчкі. Створаная выбарамі ў сойм вонкавая паказная кансалідацыя груповак фашыстоўскага лягеру вакол пілсудчыкаў, вельмі хутка выявіла далейшае загніваньне і расхістаньне ў фашыстоўскім лягеры. Бярэсьцейскі алярм, так раздуты Цэнтралевам і эндэцыяй, а таксама працэсы замахаў на Пілсудзкага, па прычыне дэманстрацыі 14 верасьня і іншыя, выявілі наступнае:

1) Узрост цярцёў у фашыстоўскім лягеры і аслабленьне ўрадовай групы пілсудчыкаў. Масавы пратэст буржуазнай інтэлігенцыі і афіцэрства, які праводзіцца пад кіраўніцувам ППС і эндэцыі, сьведчыць аб нездавольстве гэтых пластоў кіруючай групай, як няздольнай абараняць інтарэсы буржуазіі.

2) Ні ў якім разе нельга рабіць вывадаў згодна тэорыі Кастшэвы, быццам польскі фашызм на руінах другіх партыяў, а перадусім сацыял-фашызму, імкнецца стварыць у чым бы ня было адзіную зьнітаваную партыю. Фашызм усямерна імкнецца сканцэнтраваць уладу, узмацніць апарат ня толькі сіламі пілсудчыкаў, але і сіламі эндэцыі і Цэнтралеву. Бярэсьцейскі мэтад пілсудчыкаў супроць правадыроў ППС зусім не накіраваны на іх дыскрэдытацыю ў вачох мас, не скіраваны на ліквідацыю ППС, а мае на мэце зрабіць яе лідэраў больш паслухмянымі і карыснымі для фашыстоўскага рэжыму. А ў той жа час мэтад уплыву на непакорлівых нізавікоў рабочых з ППС зьяўляецца простай клясавай расправай фашызму нароўні як і з іншымі рэвалюцыянэрамі.

3) З усёй вачавіднасьцю выявілася далейшае зрастаньне ППС з фашыстоўскім апаратам і актыўнае падтрыманьне праз ППС усёй фашыстоўскай палітыкі. Адначасова, улічваючы рост рэвалюцыйных мас, ППС выяўляе вялізную манэўраную гнуткасьць, узмагае дэмагогію асабліва вакол пытаньня аб беспрацоўі.

Асабліва яскрава сьведчыць аб нарастаньні палітычнага крызысу ў Польшчы звужэньне масавай базы фашызму. У шэрагах ППС, Бунду, Строніцтва Хлопскага і фашыстоўскіх арганізацый як „Стралец“ і т. п., адбываецца масавы адыход ад гэтых арганізацый, уліваньне ў рэвалюцыйны лягер, які ідзе пад кіраўніцтвам Кампартыі.

Працэс разьвіцьця палітычнага крызысу ў Польшчы яшчэ не дасягнуў непасрэднай рэвалюцыйнай сытуацыі, але аб'ектыўныя варункі ў краі такія, што „пралетарыят Польшчы можа апынуцца ў рэвалювыйнай сытуацыі хутчэй, чым пралетарыят іншых імпэрыялістычных краёў“. (V Зьезд КПП).

Каб папярэдзіць пралетарскую рэвалюцыю і захаваць капіталістычны лад Польшчы ад згубных удараў узрастаючага крызысу, польскі фашызм ліхаманкава рыхтуецца да вайны супроць СССР з мэтай пэратварыць БССР і УССР у калёніі польскага імпэрыялізму. Шалёнаму разгортваньню гэтай падрыхтоўкі спрыяюць вонкавыя і ўнутраныя акалічнасьці: узмагаючаяся кансалідацыя і актывізацыя антысавецкага блёку імпэрыялістаў, а ўнутры краю націск крызысу і грозны ўзрост рэвалюцыйнага руху, якім кіруе Кампартыя. Выхад з крызыснага палажэньня толькі ў вайне супроць СССР—вось сэнс усёй палітыкі фашыстоўскага ўраду. З пункту погляду мэтазгоднасьці ваенных плянаў праводзяцца ўсе мерапрыемствы ўраду, будуецца ўсё эканамічнае, палітычнае і грамадзкае жыцьцё краю.

На ажыцьцяўленьне гэтай крывавай авантуры мабілізуюцца ўсе атрады фашыстоўскага лягеру, усе рэсурсы краю. Дзеля ўзбраеньня і мілітарызацыі выціскаюцца апошнія сілы з рабочае клясы, урэзваюцца нават жабрачыя грашы ад беспрацоўных, распрадаецца за падаткі апошні жывы і мёртвы інвэнтар зруйнаванага сялянства. Ад непамерна цяжкага падатковага ярма масава руйнуецца гарадзкая дробная буржуазія. У выніку эканамічнага крызысу выкідваюцца і асуджаюцца на беспрацоўе тысячы служачых. Ніколі ў Польшчы ня было такой мільённай масы нездаволеных сучасным становішчам, якія ўпэўнены, што далей гэтак жыць нельга.

Фашыстоўскі ўрад, манэўраная база якога няўхільна звужваецца, усё больш рэзка ідзе на ўзмацненьне сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня, белым тэрарам, крывёю і жалезам душыць абурэньне мас, карнымі экспэдыцыямі праводзіць „пацыфікацыю" у паняволеных ЗУ і ЗБ. Белы тэрар—асноўнае аружжа фашыстоўскага ўраду ва ўсёй яго палітыцы і перадусім у справе падрыхтоўкі інтэрвэнцыі, у справе ачышчэньня пляцдармаў для вайны г. зн. ЗБ і ЗУ. Узмацненьне белага тэрару сьведчыць аб набліжэньні вайны, як вышэйшай формы гвалту буржуазіі ў яе палітыцы эксплёатацыі і ўціску. ППС і Бунд—сябры II Інтэрнацыяналу—зьяўляюцца найбольш яскравымі дапаможнікамі імпэрыялізму і актыўнымі праваднікамі падрыхтоўкі інтэрвэнцыі супроць СССР. Працуючы на адказным вучастку сусьветнага імпэрыялізму, на яго стыку з СССР, ППС і Бунд праяўляюць асаблівую актыўнасьць, у іх выпрацавалась асаблівая спрытнасьць у двурушніцтве і ашуканстве мас. Яны ўхітраюцца праводзіць фашыстоўскую палітыку прыгнечаньня і вызыску і выяўляць сабе, як абаронцаў інтарэсаў працоўных мас. ППС і Бунд—гэта лепшая пара борздых сабакаў з капіталістычнага выхавальніка—II Інтэрнацыяналу.

Перад пралетарыятам і працоўнымі масамі ЗБ і ўсёй Польшчы ляжыць адзіны выхад з крызысу—гэта рэвалюцыйная барацьба да канца, да перамогі. Задача партыі—укараніць гэтую ісьціну ў сьвядомасьць самых шырокіх мас і заваяваць большасьць гэтых мас пад свой уплыў. Даны этап разьвіцьця рэвалюцыйнага руху патрабуе ад партыі падрыхтоўкі і арганізацыі пралетарскай рэвалюцыі на падставе мабілізацыі мас вакол барацьбы за іх набалеўшыя патрэбы, аб'яднаньня распарушаных выступленьняў мас (стачкі, дэманстрацыі беспрацоўных, антыпадатковыя выступленьні сялян, бунты ў войсках і іншае), ядканьне пад гегемоніяй пралетарыяту сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху ў адну магутную рэвалюцыйную струмень.

Падрыхтоўка і правядзеньне 1-га мая гэтага году павінна паслужыць разьвіцьцю і арганізацыі рэвалюцыйнага руху на ЗБ. Гэта кампанія павінна падсумаваць усе папярэднія кампаніі, падвесьці вынікі нашым дасягненьням, зьнітаваць усе сілы антыфашыстоўскага лягеру і ўзьняць рэвалюцыйны рух на вышэйшы палітычны зровень.

Асноўным палітычным зьместам майскай кампаніі павінна быць барацьба за рэвалюцыйнае разьвязаньне крызысу супроць імпэрыялістычнай вайны ў абарону СССР. 1-е мая гэтага году—гэта праверка сіл рэвалюцыйнага лягеру, праверка баяздольнасьці мас і іх гатоўнасьці стаць на актыўную абарону СССР іператварыць надыходзячую імпэрыялістычную вайну ў грамадзянскую.

Каб зрабіць 1-е мая днём агляду нашых сіл, праверкі мабілізацыйнай і баявой здольнасьці, належыць у часе ўсей кампаніі напружыць ўсе высілкі, каб фронтавай атацы фабрыкантаў, абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў супроцьпаставіць контр-наступленьне рабочае клясы і ідучых за ёю шырокіх мас сялянства, а таксама зруйнаванай гарадзкой дробнай буржуазіі. Зрабіць гэта можна тслькі пры ўмове, калі партыя здолее павесьці масы на барацьбу за ўсякае іх часткавае патрабаваньне, у абарону і пашырэньне сацыяльных заваёваў пралетарыяту, калі партыя здолее падягнуць за асноўнымі рухавымі сіламі рэвалюцыі і астатнія, няхай сабе і нязначныя, адсталыя атрады народнай рэвалюцыі.

Перад партыяй стаіць ударная задача—майскую кампанію ператварыць у магутную рэвалюцыйную хвалю рашучага адпору супроць падрыхтоўкі новай контр-рэвалюцыйнай імпэрыялістычнай бойні. У адказ на кансалідацыю імпэрыялістаў у антысавецкі блёк, у адказ на пан-Эўропу, належыць правесьці баявую чырвоную маёўку, рэвалюцыйную пераклічку працоўных усіх краёў, узмацніць баявы саюз рабочых і сялян. Трэба перашкодзіць Брыянам, Пілсудзкім, II Інтэрнацыяналу, ППС, Бунду і нацыянал-фашыстам узброенай інтэрвэнцыяй сарваць пяцігодку. Трэба дапамагчы пралетарыяту і ленінскай УсеКП(б) пабудаваць сацыялізм. Гэтага можна дасягнуць толькі праз разгортваньне контр-наступленьня пралетарыяту на фашыстоўскую дыктатуру і яе агентаў—сацыял- і нацыянал-фашыстаў.

Факты палітычнай дыскрэдытацыі, а перадусім працэс над меншавікамі ў Маскве, і ўзмагаючыся стыхійны адплыў мас з-пад уплыву сацыял-фашызму дае партыі магчымасьць асабліва выразна і рашуча ставіць барацьбу супроць ППС, Бунду і нацыянал-фашызму. Цяпер больш чым калі-кольвек партыя мае ў сваіх руках зброю для шырэйшага дэмаскаваньня перад масамі ўсіх гэтых інтэрвэнтаў з II інтэрнацыяналу.

Дзеля выкананьня сваёй ролі сацыялпатрыётаў і саюзьнікаў фашызму, ППС, Бунду і нацыянал-фашыстам неабходна гаварыць пра СССР, але гаворачы аб будуючымся сацыялізме, яны нямінуча дэмаскоўваюць сябе перад масамі, як ворагі бацькаўшчыны працоўных усіх краёў. Пралетарыяту усё больш становіцца вачавіднай фашыстоўская роля сацыял-фашыстаў ня толькі ў дачыненьні да барацьбы пралетарыяту за штодзённыя патрэбы, але і іх дапамога ў справе інтэрвэнцыі супроць СССР, іх роля як агентаў фашыстоўскай дыктатуры. Таму ў тактыцы адзінага фронту зьнізу, побач з частковымі эканамічнымі патрабаваньнямі, неабходна больш выразна уводзіць палітычныя лёзунгі, накіраваныя супроць верхавіны ППС, Бунду і іншых, бо гэтыя лёзунгі будуць яшчэ больш садзейнічаць пашырэньню адзінага фронту зьнізу.

Трэба выкарыстаць майскую кампанію дзеля паскарэньня раскладу сацыял-народніцка- і нацыянал-фашыстоўскіх партый і арганізацый і дзеля ўцягненьня адыходзячых ад іх мас у рэвалюцыйныя арганізацыі. Мы павінны заваёўваць кожную масоўку ППС і Бунду, кожны сход Стронiцтва Хлопскага і нацыянал-фашыстаў. Мы павінны разьбіць фашыстоўскія і сацыялфашыстоўскія прафсаюзы, заваяваць большасьць рабочае клясы—на ўсё гэта маецца зусім рэальная магчымасьць і гэтую задачу кожны партыец павінен усьвядоміць і давесьці гэта на справе, давесьці самастойным кіраўніцтвам барацьбой пралетарыяту.

Барацьба супроць сацыял- і нацыянал-фашыстаў неадлучна ад барацьбы супроць усіх варожых антыпралетарскіх ідэолёгіяў, якія імкнуцца пранікнуць рознымі каналамі ў шэрагі нашай партыі. Больш рэвалюцыйнай ініцыятывы, шырэй бальшавіцкую самакрытыку, больш пільнасьці ў барацьбе з усякімі памылкамі і ўхіламі ўнутры партыі, а перадусім супроць правага апартунізму, — вось патрэбныя ўмовы для пасьпяховага правядзеньня майскай кампаніі, для разгортваньня рэвалюцыйнай барацьбы. У цяперашні час нарастаньня рэвалюцыйнай сытуацыі партыя павінна асабліва хутка рэагаваць на ўсякую чуждую партыі праяву як у тэорыі, так і на практыцы. Нерашучасьць і прымірэнцтва ў такіх выпадках роўназначна гэтым памылкам і зьяўляецца згубным для бальшавізацыі партыі. Ленін вельмі рэзка асуджаў усякую мяккацеласьць у палітыцы партыі, што цяпер напярэдадні гістарычных падзеяў асабліва небясьпечна для партыі. „Чалавек, які сумленна аб'явіў сябе камуністам — пісаў Ленін—які на справе замест бязьлітаснай цьвёрдай, няўхільна рашучай, самаахвярна сьмелай і геройскай палітыкі, хістаецца і маладушнічае,—такі чалавек сваёй бесхарактарнасьцю, сваімі хістаньнямі, сваёй нерашучасьцю творыць такую ж здраду, як і беспасрэдны здрайца“.

Належыць завастрыць увагу ўсей партыі на барацьбе супроць недаацэнкі рэвалюцыйнага ўздыму сярод мас, супроць панікёрства і легалізму, якія выявіліся ў некаторых таварышоў у часы выбарнай кампаніі і якія асабліва небясьпечны для пасьпяховага правядзеньня майскай кампаніі. З такой-жа рашучасьцю трэба выкараняць усякія адрыганьні апартуністычных тэорый Кастшэвы і Стэфанскага, якія ідуць па лініі ілюзій у дачыненьні да сацыялфашызму.

У дзень 1-га Маю цэнтральным тактычным зьвяном партыі зьяўляюцца масавыя палітычныя стачкі, вывядзеньне рабочых на вуліцу для супольнага баявога выступленьня з беспрацоўнымі, для заваяваньня вуліцы.

Бязумоўна, што фашыстоўскі ўрад прыложыць усе высілкі, каб не дапусьціць да мабілізацыі мас, каб тэрарызаваць і абезгаловіць шырокі рух мас. У дзень 1-га Мая, як ужо прызвычаіліся ў Польшчы, а ў гэтым годзе тым больш, будуць забаронены усякія масавыя першамайскія выступленьні, а стачка будзе аб'яўлена антыдзяржаўным злачынствам. Досьлед 25-га Лютага кажа, што ўрад зрабіў усё магчымае, змабілізаваў усе свае сілы, сканцэнтраваўшы іх у пралятарскіх асяродках, каб у зародку па адзінках разьбіваць дэманстрацыі і масоўкі пралетарыяту. Адсюль вывад, што рэвалюцыйны рух пралетарыяту настолькі ўзрос і ўзмацаваўся, што ўрад прымушаны супроцьставіць яму свае мабілізаваныя сілы, прымушаны ўвесь час павялічваць іх, узбройваць газамі, танкамі і іншымі „удасканаленьнямі“. Партыя павінна прыкласьці ўсе высілкі, каб у майскую кампанію, і ў дзень 1-га Мая асабліва, ўзьняць паўсюдную масавую акцыю, каб раскрышыць і дэзарыентаваць сілы клясавага ворагу, каб агульным масавым напорам працоўных гораду і вёскі, упартымі баямі за ўсякі крок вуліцы, напорам мас з усіх бакоў, шляхам арганізаванай барацьбы, пры дапамозе масавай самаабароны, апанаваць вуліцу, перарваць ланцуг белага тэрару.

Першамайская кампанія сёлетняга году, якая праходзіць у асабліва напружанай сытуацыі, ставіць перад партыяй актуальнейшую задачу—рэвалюцыйным прыкладам і словам укараніць у сьвядомасьць пралетарыяту і яго саюзьнікаў, што толькі Кампартыя зьяўляецца штабам рэвалюцыйнага руху і адзіным арганізатарам народнай рэвалюцыі, што толькі ўзбройным паўстаньнем рабочых, сялян і салдат, пад кіраўніцтвам Кампартыі можна нізрынуць фашыстоўскую дыктатуру і заваяваць фабрыкі, зямлю і ўладу.

**Ю. Ленскі.**

# 2-гі пленум ЦК Кампартыі Польшчы.

Пленум ЦК Кампартыі Польшчы, які нядаўна адбыўся, зьяўляецца сур'ёзным крокам наперад па шляху правядзеньня рашэньняў V Зьезду, які адыграў аграмаднейшую ролю ў працэсе бальшавізацыі партыі.

З часу зьезду прайшло чатыры месяцы. Шпарка разгортваючыяся падзеі цалкам пацьвердзілі правільнасьць ацэнкі і тактычна-арганізацыйнай лініі зьезду.

Зусім правільнай аказалася перспэктыва паглыбленьня і перарастаньня эканамічнага крызысу ў агульна-палітычны.

Усялякія патугі фашыстоўскага ўраду паслабіць крызыс скончыліся няўдачай. Наступіў востры спад прадукцыі ва ўсіх галінах прамысловасьці, за выключэньнем ваеннай. Беспрацоўе перавысіла мінулагодні зровень. Нават па афіцыйных справаздачах у пачатку студзеня г. г. было на 108 тысяч больш зарэгістраваных беспрацоўных, чым у той-жа час мінулага году (300 тысяч супроць 192 тыс.). Сельска-гаспадарчы крызыс набраў катастрафальных разьмераў. Амаль беcперапынна адбываецца скарачэньне фінансавых рэзэрваў. Польская буржуазія прымушана прызнаць выключную вастрату і глыбіню эканамічнага крызысу ў Польшчы. Усё больш яскрава выступае яго структурны характар.

Адначасова абвастраюцца элемэнты палітычнага крызысу фашыстоўскай дыктатуры. Здабытыя санацыяй посьпехі на соймавых выбарах не азначалі пашырэньня яе масавага базысу і паслабленьня ўнутраных супярэчнасьцяў у фашыстоўскім лягеры. Наадварот. Узмацнілася нянавісьць сярод мас. Узрасла іх рэвалюцыйная актыўнасьць. Пашырыўся ўплыў Кампартыі. Глыбокае бушаваньне ў масах, новая хваля дэманстрацый беспрацоўных, якія алярмуюць магістраты, шэраг баявых забастовак, новыя—пасьля крывавай „пацыфікацыі“ — выступленьні ўкраінскіх сялян, антыпадатковы рух сярод эксплёатаванага сялянства карэннай Польшчы, рост нездавольства сярод гарадзкой дробнай буржуазіі—вось адваротны бок посьпехаў Пілсудзкага. Трашчаць пасеяныя санацыяй ілюзіі. Звужваюцца магчымасьці манэўраваньня фашыстоўскай дыктатуры, што не выключае яе далейшых манэўраў, аслабяваюць яе прывадныя пасы да масаў. Падае ўплыў сацыял-фашызму ў рашаючых пралетарскіх асяродках. Узмацняецца працэс раскладу ўнутры сацыял-фашыстоўскіх партыяў; цэлыя групы рабочых з ППС, Бунду і іншых уваходзяць у антыфашыстоўскі лягер.

Пілсудзкаму не ўдалося таксама спыніць ўнутраны разброд у фашыстоўскім лягеры. Спрэчкі і цярці працягваюцца, вядучы да новай сямейнай грызьні, якая выразна выступае на фоне дыскусіі вакол Бярэсьця.

Адзначыўшы асноўныя моманты рэвалюцыйнага ўздыму ў Польшчы, пленум падкрэсьліў яшчэ вялікую няроўнамернасьць працэсу рэвалюцыянізаваньня мас, шырокія яшчэ разьмеры хістаньняў сярод мас, узмоцненую манэўраздольнасьць фашыстоўскіх, сацыял-фашыстоўскіх і народніцка-фашыстоўскіх партыяў, раскладаньне якіх яшчэ далёка ад поўнага развалу, пасобныя толькі сымптомы бушаваньня ў арміі, урэшце—і гэта самае важнае—слабасьць нашай партыі, як арганізатара руху.

Кампартыя стаіць перад прылівам абвостраных баёў і магчымымі выбухамі, якія пры яе актыўнасьці будуць перарастаць у масавыя баі за ўладу. Разгорнутым фронтам ідзе шалёнае наступленьне капіталу на працоўныя масы, якім гэтая зіма прыно-

сіць нябывалы жах беспрацоўя, голаду і нэндзы. Пры дапамозе лёкаутаў, тэрару і арбітражу буржуазія прабуе зламаць супраціўленьне рабочых, зьнізіць іх жабрацкія заробкі на 15—40%, падоўжыць рабочы дзень, які дасягае ўжо ў большасьці фабрык 10—12 гадзін, абвострыць драпежніцкую рацыяналізацыю. Усё новыя катэгорыі беспрацоўных пазбаўляюцца ўсялякай дапамогі. З палмільёну выкінутых на вуліцу рабочых толькі 80 тысяч атрымліваюць мізэрную дапамогу. Каля мільёну прамысловых і сельска-гаспадарчых рабочых асуджаны на голад. Мільёны сялянскай беднаты заткнуты ў вёсцы, якая руйнуецца крызысам і падаткамі. Рост картэльных цэнаў павялічвае дарагоўлю, усялякія-ж гутаркі аб іх паніжэньні зьяўляюцца толькі дэмагагічнай балбатнёй.

Фашыстоўскі ўрад пераходзіць да ўвядзеньня сваёй манаполіі на прафсаюзы разам з фашызацыяй бальнічных кас, якія пазбаўляюцца рэшткаў унутранай самастойнасьці. Фашыстоўскі тэрар прымае формы грамадзянскай вайны. Карныя экспэдыцыі ўводзяцца ў сыстэму. Катаваньні, зьдзекі і катаржныя прысуды для падазроных у камунізьме становяцца штодзённым зьявішчам. Прадстаўніцтву рэвалюцыйных рабочых і сялян у сойму зачыняюць рот.

Усе гэтыя спробы ўвесьці „парадак" на ўнутраным фронце адбываюцца побач з шалёнай падрыхтоўкай да вайны супроць СССР. У гэтым напрамку ідуць „законадаўчыя рэформы" сойму, далейшая ваенізацыя ўсяго дзяржаўнага апарату, насаджэньне палкоўнікаў і генэралаў ва ўсіх міністэрствах, ваенная рэарганізацыя міністэрства прамысловасьці, аднаўленьне ўмовы з Румыніяй, узмоцненая работа над скалачваньнем прыбалтыцкага і балканскага блёку, перагаворы аб ваеннай пазыцыі ў Францыі, спробы зьбліжэньня з Нямеччынай. Пагроза нападу на СССР прымае ўсё больш непасрэдны характар. У рашаючых для буржуазіі пытаньнях барацьбы з рэвалюцыйным рухам і вайны супроць СССР урад Пілсудзкага—Славэка можа разьлічваць на далейшае падтрыманьне ўсіх фракцый фашыстоўскага лягеру. Вось чаму, напрыклад, правадыры УНДА (партыя ўкраінскіх нацыяналістаў), шумна выступаючы на словах супроць „пацыфікацыі", лічаць лёяльнае супрацоўніцтва з урадам неабходным варункам паходу на Кіеў.

У гэтых варунках пленум ЦК паставіў у цэнтры задач партыі арганізацыю барацьбы супроць інтэрвэнцыі і наступленьня капіталу, паскарэньне тэмпу заваяваньня рашаючай большасьці пралетарыяту і падставовых мас сялянства, а таксама арганізацыйнае замацаваньне вынікаў выборчай кампаніі.

Надаючы антыінтэрвэнцыяніскай кампаніі ўдарны характар, пленум у падставу яе палажыў актуальныя праявы падрыхтоўкі да вайны супроць СССР і цяжары, якія прыгнятаюць масы. Крывавая „пацыфікацыя" на Зах. Украіне і працэс шкоднікаў у Маскве становяцца вузлавымі пунктамі шырокай мабілізацыі мас. З барацьбой супроць інтэрвэнцыі партыя ўвязвае кожнае масавае выступленьне, сыстэматычна дэмаскуючы ваенную ролю фашыстаў і сацыял-фашыстаў. Партыя змагаецца з настроямі пасыўнага чаканьня вайны, як магільшчыка фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы, указваючы масам, што імпэрыялістычная вайна азначае ўзмацненьне прыгнёту і вызыску, катаржны рэжым на фабрыках, мільёны пабітых і параненых.

Выходзячы з установкі на актыўнае, сталае і масавае супроцьдзейнічаньне ваенным плянам польскага фашызму, пленум распрацаваў вызначаныя V зьездам формы барацьбы, асабліва пытаньне аб палітычных забастоўках і дэманстрацыях. Спэцыяльную ўвагу пленум надаў мэтадам і арганізацыйным формам працы ў арміі.

Паводле рэзалюцыі VI кангрэсу пленум вызначыў таксама задачы партыі на выпадак вайны, завастрыўшы ўвагу на масавай палітычнай забастоўцы, на масавых выступленьнях у сувязі з мабілізацыяй, на шырокай працы сярод мабілізаваных, на кіраўніцтве ўсялякімі праявамі масавага адпору мабілізацыі, уключаючы партызанскую барацьбу, на актыўнай дапамозе Рэвалюцыйнай Арміі. Дапасавальна да гэтых задач

пленум выпрацаваў шэраг арганізацыйных дырэктыў у галіне прыстасаваньня партыі да ваенных абставін.

Галоўным зьвяном у рэвалюцыйнай мабілізацыі мас, у расхістваньні падставаў фашыстоўскай дыктатуры, а тым жа самым—у перашкаджаньні інтэрвэнцыянісцкім плянам павінна быць **барацьба супроць шалёнага наступленьня капіталу**, вакол штодзённых патрэб, што высоўваюцца голадам, галечай і беспрацоўем. Раскрытыкаваўшы недахопы партыі ў арганізацыі эканамічнай барацьбы, пленум накрэсьліў, што трэба рабіць у падставовых асяродках прамысловасьці. На першы плян была высунута акцыя гарнякоў і лодзінскіх тэкстыльшчыкаў. Дзясяткі масавых мітынгаў, шырокая канфэрэнцыя прадстаўнікоў фабрык, капальняў, чырвоных прафсаюзаў у Лодзі і ў Горным Шлёнску, бурныя дэманстрацыі ў Лодзі гавораць аб баявых настроях мас.

Узмоцнена таксама дзейнасьць партыі сярод беспрацоўных, рух якіх ламае перагароды фашыстоўскага тэрару. Большасьць іх выступленьняў адбываецца пад кіраўніцтвам камуністаў. Партыя імкнецца цяпер да таго, каб разгарнуць і аб'яднаць гэты рух з барацьбой працуючых рабочых і стварыць сетку камітэтаў беспрацоўных. У гэтых адносінах зроблены толькі першыя крокі.

У вёсцы ўсе сілы партыі накіраваны на арганізацыю барацьбы сельска-гаспадарчага пралетарыяту супроць драпежніцкіх умоў, якія навязваюцца праз абшарнікаў, і на правядзеньне антыпадаткавай кампаніі, якая разьвіваецца ў актыўнае супраціўленьне сялянскіх мас падатковым экзэкуцыям.

Пленум рашуча раскрытыкаваў памылкі, зьвязаныя з рэвалюцыйнымі падзеямі на Зах. Украіне. Партыя ня здолела стаць на чале стыхійнага руху ўкраінскіх працоўных мас і зарганізаваць належнае падтрыманьне ва ўсёй Польшчы. Неразуменьне характару і недаацэнка руху, апартуністычныя сэктанцкія агаворкі ў адносінах да падпалаў—асабліва ва ўкраінскім партактыве—аслабілі гэты важнейшы фронт барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і антысавецкай інтэрвэнцыі. З вялікім спазьненьнем партыя прыступіла да абароны змагаючыхся мас, якія па зьверску душацца. Дасягнутыя вынікі (шэраг мітынгаў, дэманстрацый і т. п.) далёка яшчэ невыстарчальны. Патрэбна сыстэматычная кампанія супроць „пацыфікацыі", якая-б здэмаскавала ролю сацыял-фашыстаў і нацыянал-фашыстаў і акупацыйнай палітыкі ўраду.

Пленум даў неабходны кірунак **практыцы адзінага фронту зьнізу**, каб прысьпешыць адыход мас ад сацыял-фашыстоўскіх і народніцка-фашыстоўскіх партый. Задача камуністаў—павесьці за сабою лявеючыя масы з ППС, Бунду і іншых на барацьбу за штодзённыя патрэбы, на вуліцу і на палітычныя забастоўкі супроць тэрару, які ўдарае таксама па тых рабочых і сялян, каторыя напракі сваім правадырам ламаюць рамкі фашыстоўскага легалізму. Тут ствараюццааграмадныя магчымасьці ў сувязі з узьнікненьнем у нізах гэтых партый шырокай апазыцыі, якая цягнецца да антыфашыстоўскага лягеру.

Адначасна пленум завастрыў барацьбу супроць усялякіх рознастайнасьцяў фашыстоўскай дэмагогіі супроць новых спробаў санацыі стварыць для сябе апорныя пункты ў шэрагах рабочае клясы, а таксама супроць апазыцыйных манэўраў нацыянал-дэмакратыі і хрысьціянскай дэмакратыі.

У цэнтры работ пленума стаяла пытаньне аб далейшым арганізацыйным узмацаваньні партыі і яе прыводных пасаў да мас. Выходзячы з посьпехаў выбарчай кампаніі, пленум высунуў канкрэтную задачу **падваеньня членскага складу Партыі і Камсамолу**. Рост лодзінскай, варшаўскай і заходня-беларускіх арганізацый сьведчыць аб рэальнасьці гэтай задачы, якая ўлічыла цягу рабочых у партыю. Тое-ж самае датычыць і масавых рэвалюцыйных арганізацый. Пленум вызначыў шэраг практычных дырэктыў па ўмасаўленьню і падняцьцю актыўнасьці рэвалюцыйных прафсаюзаў і прафапазыцыі, дзе праца зьяўляецца нездавальняючай. У варунках шалёнага наступленьня капіталу тэмп арганізацыі рэвалюцыйнага праф-

руху зьверху да нізу павінен быць паскораны.

Зьверскі тэрар і разгортваньне барацьбы мас за вуліцу вымагаюць стварэньня масавай самаабароны, прыклады якой далі за апошні час толькі Горны Шлёнск і Лодзь. Ствараючыяся на фабрыках, капальнях, фальварках атрады самаабароны не павінны замяняць мас, але арганізаваць іх адпор нападам паліцыі і баявікоў, паступова пашыраючы формы барацьбы з узброенымі сіламі фашызму. На Заходняй Украіне і Беларусі партыя павінна быць гатова да каардынаваньня самаабароны з партызанскім рухам, які можа ўзьнікнуць у выніку абвастраючайся нэндзы мас і крывавага рэжыму польскай акупацыі.

У галіне барацьбы на два фронты— з правым і „левым“ апартунізмам, галоўны агонь накіраван супроць спробаў адраджэньня збанкрутаваўшых поглядаў Варскага—Кастшэвы і хістаньняў, якія ідуць па лініі гэтых поглядаў. Неадкладнай задачай зьяўляецца ліквідацыя рэшткаў правай групы, яе раскладаючага уплыву на партыю і рэнэгацкіх выступленьняў супроць партыі.

Адзначыўшы далейшае ўзмацаваньне бальшавіцкага адзінства партыі, адыход шэрагу рабочых актывістаў ад Варскага, Кастшэвы і Барташэвіча, пленум падкрэсьліў, што іх пазыцыя „прывяла да ўзьнікненьня групы рэнэгатаў у Варшаве, якія дзейнічалі на руку фашызму. Гэтая група, якая адыгрывае ролю штрайкбрэхэраў рэвалюцыі і пробавала разламаць варшаўскую арганізацыю, робіць свой сьцяг з імёнаў Варскага, Кастшэвы і Барташэвіча, дамагаецца іх звароту ў партыйнае кіраўніцтва і адхіляе рэзалюцыі V Зьезду. Варскі, Кастшэва і Барташэвіч, якія дагэтуль застаюцца на старых, правых, антыпартыйных пазыцыях, нясуць палітычную адказнасьць за варшаўскіх рэнэгатаў.

Выкараняючы ўсялякія праявы левага сэктанцтва, партыя разглядвае іх, як фактычнае адступленьне перад фашыстоўскім тэрарам, як падмену цяжкай працы ў масах таннымі рэвалюцыйнымі фразамі.

Пры ўсіх недахопах, якія былі грунтоўна выкрыты пленумам, партыя за апошнія месяцы ўзмацніла і пашырыла свой уплыў сярод пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства, узьняўшы сваю бояздольнасьць на грунце штодзённай барацьбы, якая падводзіць масы да рэвалюцыйнага выхаду з крызысу.

Сакальніцкі.

# УсеКП(б) і „права“-левы блёк.

Апошнія гады былі гадамі пералому як для СССР, гэтак і для капіталістычнага сьвету.

Гэты пералом—як сказаў т. Сталін на XVI Зьезьдзе УсеКП(б)—у СССР характарызуецца ўзрастаючым уздымам сацыялістычнага будаўніцтва як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Гэты пералом — як сказаў т. Сталін—у капіталістычных краёх характарызуецца ўзрастаючым крызысам эканомікі як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Сацыялістычная эканамічная сыстэма, якая ідзе ў гару і ўзрастае, і капіталістычная эканамічная сыстэма, якая перажывае востры крызыс, уступілі ў абвастраючуюся з кожным днём барацьбу, прычым перавагі сацыялізму робяцца з кожным днём усё больш яснымі ўсё новым мільёнам працоўных мас, каторыя церпяць ад крызысу.

Гэты пералом, які азначае ўздым і рост сацыялізму ў СССР і ўпадак капіталізму ва ўсім сьвеце, мае вялізарнейшае сусьветнае гістарычнае значэньне. Ён прыводзіць да ўзросту рэвалюцыйных сіл ва ўсіх бяз выключэньня краёх. Ён прыводзіць да крызысу сацыял-дэмакратыі, ад якой пачынаюць адыходзіць усё больш шырокія масы рабочых. У той-жа час ён прыводзіць да ўзрастаньня небясьпекі інтэрвэнцыйнай вайны супроць СССР з боку капіталістычных краёў. У самім СССР гэты пералом выклікае шалёнае супраціўленьне ўсіх капіталістычных элемэнтаў пасьпяхова пасоўваючамуся наперад сацыялізму. У гэтых варунках неабходна максымальная чуйнасьць усіх працоўных супроць усіх падкопаў клясавага ворагу, максымальная зьнітованасьць у шэрагах самой УсеКП(б), каб перамагчы ўсе цяжкасьці і закончыць у найкарацейшы тэрмін пабудову падставаў сацыялістычнай эканомікі.

Буйнейшыя посьпехі СССР у справе сацыялістычнага будаўніцтва дасягнуты ў барацьбе на два фронты. Шэраг гадоў УсеКП(б) вяла вострую і няпрымірымую барацьбу супроць трацкізму, як супроць выразу маскуючыхся левамеяшавіцкіх настрояў дробна-буржуазных элемэнтаў у партыі. Трацкізм здэмаскаваны, і сёньня ў СССР кожны сьвядомы рабочы разумее, што Троцкі контр-рэвалюцыянэр і трацкізм—контррэвалюцыйны меншавіцкі струмень. На працягу апошніх гадоў УсеКП(б) праводзіла асабліва рашучую барацьбу з правым апартунізмам. Партыя здэмаскавала правых, як агентуру кулака ў партыі і пастанавіла, што погляды правых, таксама як погляды трацкістаў, нясумяшчальны з належнасьцю да ЎсеКП(б). Кожны сьвядомы рабочы ў СССР цяпер разумее, што як трацкізм, так і правы апартунізм—рознымі шляхамі—вядуць да рэстаўрацыі капіталізму, а не да перамогі сацыялізму. Таму выступаць ва ЎсеКП(б) з абаронай права-апартуністычных альбо трацкісцкіх поглядаў у сучасны момант нікому ня прыдзе ў галаву. Партыя мабілізавана таксама супроць прымірэнцкіх адносін як да правага апартунізму, так і да трацкізму — яна выкрыла асноўныя гнёзды апартунізму на практыцы. Гэтым яна ўзмацніла сваю баяздольнасьць у барацьбе за сацыялізм.

Але карэньні апартунізму далёка яшчэ ня выкарчаваны і ня могуць быць выкарчаваны да тэй пары, пакуль існуюцьклясы і клясавая барацьба, пакуль прыходзіцца перамагаць цяжкасьці на шляхох будаўніцтва сацыялізму, пакуль існуе капіталістычнае абкружэньне. (Апартунізм толькі, па меры посьпехаў партыі ў барацьбе з ім, прымае ўсё новыя формы, што партыя ўвесь час дэмаскуе і выкрывае). Той новай формай, у якой апартунізм

прабаваў выступіць у апошні час, зьяўляецца **двурушніцтва**, што абумоўлена чуйнасьцю мас супроць усіх адкрытых праяваў як трацкізму, так і правага ўхілу, а таксама супроць прымірэнцкіх адносін да іх. Таму партыі патрэбна было цяпер згуртаваць свой агонь супроць двурушнікаў, якія на словах выступаюць за лінію партыі, на справе арганізуюць барацьбу супроць яе. На шлях двурушніцтва ўступілі як правыя, так і „левыя“ апартуністы, стварыўшы **праваlевы блёк** і паказаўшы гэтым на справе, што абодвы ўхілы маюць супольны палітычны зьмест.

Асноўнай небясьпекай для ЎсеКП(б), як і для ўсяго Камінтэрну, ёсьць і застаецца правая небясьпека. Гэтая небясьпека вынікае з супраціўленьня варожых сацыялізму клясаў і будзе існаваць, пакуль клясы ня будуць канчальна зьнішчаны. Гэтая небясьпека ў цяперашні час асабліва абвастраецца праводжанай партыяй палітыкай суцэльнай калектывізацыі і зьвязанай з гэтым ліквідацыяй кулацтва, як клясы. Ліквідацыя кулацтва, як клясы, выклікае шалёнае супраціўленьне самога кулацтва і лютае выцьцё ўсіх буржуазна-рэстаўратарскіх элемэнтаў, для якіх руйнуецца апошняя трывалая апора ў краіне. Правядзеньне палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, зьвязана з абвастрэньнем барацьбы супроць будуючагася сацыялізму ўсіх буржуазных шкодніцкіх арганізацый і з пераходам іх на службу да арганізатараў інтэрвэнцыі. Але ў той жа час правядзеньне палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, і рашучае прыдушэньне яго супраціўленьня выкрывае ўсе буржуазна-рэстаўратарскія групы, якія абапіраліся на кулака і арганізоўвалі шкодніцкую працу ў савецкім апараце. Але з другога боку, шпаркае наступленьне сацыялізму па ўсім фронце выклікае свае цяжкасьці росту, якія вынікаюць з неабходнасьці шпаркім тэмпам перабудоўваць тэхнічную аснову народнае гаспадаркі і разам з тым усе сацыяльна-эканамічныя адносіны, асабліва ў сельскай гаспадарцы. Гэтыя цяжкасьці заключаюць самі ў сябе аснову для іх перамаганьня на шляхох узмацненьня тэмпу сацыялістычнага будаўніцтва. Для перамаганьня гэтых цяжкасьцяў УсеКП(б) мабілізуе шырокія працоўныя масы шляхам разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, шляхам максымальнага рацыянальнага выкарыстоўваньня ўсіх вытворчых і спажывецкіх рэсурсаў краіны. Але апартуністы перашкаджаюць партыі ў гэтай працы. Ня верачы ў сілы рабочае клясы, яны ўпадаюць ў паніку перад цяжкасьцямі сацыялістычнага будаўніцтва. Ня робячы нічога для арганізацыі мас дзеля перамаганьня гэтых цяжкасьцяў, не становячыся на чале мас, а ўходзячы ў бок, яны з дрыгатам чакаюць, што з гэтага выйдзе. Партыя ня можа дапусьціць нават найдрабнейшых хістаньняў у сваіх шэрагах, а павінна ад кожнага свайго члена дамагацца сьмелай і адданай працы па сацыялістычнаму будаўніцтву, шалёнай энэргіі ў барацьбе за перамаганьне цяжкасьцяў і няшчаднай барацьбы з усімі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі і прымірэнцкім да іх адношэньнем. У гэтых варунках невыстарчальна дзелавой работы толькі „як магу“; у гэтых варунках патрабуецца, каб кожны член партыі запальваў масы сваім энтузіязмам, уздымаючы іх на барацьбу супроць цяжкасьцяў, за перамогу сацыялізму. Лідэры правага ўхілу фармальна прызналі свае памылкі і партыя дала ім магчымасьць працаваць у сваіх шэрагах. Але ні т. Рыкаў, ні т. Бухарын, ні т. Томскі нічога не зрабілі для таго, каб змагацца супроць права-апартуністычных настрояў, каб стаць разам з ўсёй партыяй на чале мас і арганізаваць іх энтузіязм для барацьбы. Наадварот, лідэры правага ўхілу, пасьля падачы праз іх заявы аб згодзе з лініяй партыі, замаўчалі і гэтым занялі двузначную пазыцыю, якая дадавала духу іх ранейшым прыхільнікам да працягваньня барацьбы супроць генэральнай лініі партыі. Толькі дзякуючы гэтаму маўчаньню былых правадыроў правых, стала магчыма антыпартыйная двурушніцкая работа Руціных, Сьляпковых, Ягломаў і іншых. На гэтых двузначных пазыцыях Бухарына, Рыкава і Томскага вырас права-левы блёк Сырцова—Ламінадзэ, гэты блёк ухілістаў

усіх колераў, па сутнасьці правых, як бы яны ні зваліся, гэтая новая агентура правых у партыі.

Для сучаснага моманту характэрным у гэтым блёку зьяўляецца тое, што ён прабаваў называць сябе „левым", што самыя выразныя праваапартуністычныя ўстаноўкі ён прабаваў выдаваць за „левыя". Далей, характэрным у гэтым блёку зьяўляецца тое, што напоўтрацкісцкія „левакі" цалкам зыйшліся з правымі і тое, што яны ўсе сталі на шлях двурушніцтва, г. ё., вялі барацьбу з лініяй партыі па асноўных пытаньнях, засланяючыся перад масамі згодай з гэтай лініяй.

Што іх блёк ня быў выпадковасьцю, што гэтае аб'яднаньне правых і трацкістаў наогул не зьяўляецца выпадковасьцю, лепш за ўсё паказвае партыйнае мінулае Сырцова і Ламінадзэ.

Тав. Сырцоў, у часе прафсаюзнай дыскусіі 1921 году, ішоў з Троцкім, а пасьля гэтай дыскусіі ні разу не займаў дастаткова пэўнай і актыўнай пазыцыі ў адносінах да трацкізму. Летам 1927 году, г. ё. два гады пасьля выстаўленьня т. Бухарыным лёзунгу „збагачайцеся"! — т. Сырцоў выставіў для серадњакоў і заможных сялян лёзунг— „прымнажайце, у добры час". Гэты лёзунг, выстаўлены т. Сырцовым, быў нічым іншым, як паўтарэньнем бухарынскага, ужо тады, калі апартуністычна-кулацкі характар бухарынскага „збагачайцеся" быў выкрыт перад усёй партыяй. Такім чынам, т. Сырцоў правёў шлях ад трацкізму да правага апартунізму, ні разу адкрыта не адмежаваўшыся ні ад аднаго, ні ад другога. Тав. Ламінадзэ яшчэ ў канцы 1927 г., у момант, калі ўся партыя вяла вастрэйшую барацьбу супроць трацкізму, прабаваў уваскрасіць для Кітаю трацкісцкую тэорыю „пэрманэнтнай рэвалюцыі" з яе пераскокваньнем праз этапы незакончанай яшчэ буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Ён абараняў напярэдадні IX пленуму ВККІ неправільную, трацкісцкую характарыстыку кітайскай рэвалюцыі, як ужо перарастаючай у сацыялістычную, у той час, як буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Кітаі ні з пункту гледжаньня эканамічнай (аграрны пераварот і зьнішчэньне фэадальных адносін), ні з пункту гледжаньня змаганьня супроць імпэрыялізму (аб'яднаньне Кітая і нацыянальная непадлегласьць), ні з пункту гледжаньня клясавага характару ўлады ня была закончана. Кантонскае паўстаньне ён разглядваў не як арыергардны, а як авангардны бой. Ня гледзячы на тое, што гэтыя погляды т. Ламінадзэ былі асуджаны 3-м пленумам ВККІ, ён ад іх не адмовіўся і прадаўжаў іх працягваць у некаторых артыкулах. У той-жа час на XV Зьезьдзе ЎсеКП(б) т. Ламінадзэ заявіў, што кітайская буржуазія—неданошаны выкідыш гісторыі, што яна „распалася", што ад яе „засталіся толькі паасобныя буржуі". Ён, выходзячы з гэтых сваіх поглядаў, адмаўляўся прызнаваць некаторае ўзмацаваньне буржуазіі пасьля крывавага здушэньня рэвалюцыйных выступленьняў рабочых і сялян і пасьля канчатковага пераходу буржуазіі ў лягер контр-рэвалюцыі. Гэтыя трацкісцкія памылкі т. Ламінадзэ ў важнейшым для міжнароднага камуністычнага руху пытаньні ня могуць ня быць найцясьнейшым чынам зьвязаны з яго сучаснай заявай, што „Камінтэрн—пустое месца", чым ён паўтарае толькі хлусьню ўсіх трацкісцкіх і правых рэнэгатаў. На XVI канфэрэнцыі ЎсеКП(б) у красавіку 1929 г. т.т. Ламінадзэ і Шацкін выступілі з трацкісцкай прапановай аб стварэньні саюзу беднаты, што Троцкі абараняе яшчэ сёньня, з патрабаваньнем аб увядзеньні Зіноўева і Каменава ў кіраўніцтва партыі і з узятай з праграмы правых прапановай аб увозе хлеба з-за межаў, відавочна, скараціўшы ўвоз машын і абсталяваньня. Гэтыя прапановы, якія былі ўнесены пад флагам „левых", ужо заключаюць у сябе своеасаблівую мешаніну лёзунгаў Троцкага і правых, якая адбівае іх зьбліжэньне. Пасьля XVI канфэрэнцыі ЎсеКП(б) т.т. Шацкін, Стэн, Кастроў і іх прыхільнікі працягвалі разьвіваць у шэрагу артыкулаў у „Камсамольскай Праўдзе" гэтыя погляды, заклікаючы моладзь „сумнявацца ва ўсім", называючы шырокія масы членаў партыі, якія ідуць за генэральнай лініяй партыі, „мешчанінам" і „балотам" і заяўляючы, што кожны малады камуніст, не давяраючы нікому,

павінен самастойна даходзіць да лініі партыі.

Калі выступленьні т.т. Ламінадзэ і Шацкіна на XVI канфэрэнцыі ўжо сыгналізавалі палітычнае зьбліжэньне гэтых напоўтрацкісцкіх „левакоў“ з правымі апартуністамі, дык у кампаніі з лета 1928 г. трацкісцкія погляды на асаблівую ролю моладзі, на права існаваньня груповак і фракцый у партыі былі ўспрыняты правымі. Трэба толькі напомніць сьцьвярджэньне, вы сунутае Н. Мандэльштамам, аб праве на існаваньне хістаньняў і адхіленьняў.

Такім чынам адбывалася зьбліжэньне напоўтрацкістаў—„левакоў“, якія хавалі свой твар правых для барацьбы супроць лініі партыі ў адзіным праваевым блёку. Абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне ў сувязі з цяжкасьцямі сацыялістычнага будаўніцтва і правядзеньнем палітыкі ліквідацыі кулацтва, як клясы, паскорыла выступленьне гэтага двурушніцкага блёку і разам з тым яго ліквідацыю. Барацьба УсеКП(б) супроць права-„левага“ блёку ёсьць барацьба перадусім супроць правага апартунізму, які быў праграмай і зьместам гэтага блёку. Але разам з тым гэтая барацьба ёсьць барацьба на два фронты, яднаючыяся супроць партыі. Калі правая небясьпека ва ЎсеКП(б), як і ва ўсім Камінтэрне, ёсьць асноўная небясьпека, дык аднак нельга ня бачыць і таго, што памылкі шэрагу партработнікаў, меўшыя месца вясной 1930 году пры правядзеньні калектывізацыі, зьяўляюцца нічым іншым, як перажыткамі трацкізму на практыцы. Гэта паказвае, што побач з правай небясьпекай ва ЎсеКП(б) існуе яшчэ трацкісцкая небясьпека і што і надалей неабходна барацьба на два фронты.

Палітычная плятформа права-„левага“ блёку вынікае ў асноўным з няпрызнаваньня лёзунгу ліквідацыі кулацтва, як клясы, і з няпрызнаваньня ўзятых партыяй тэмпаў індустрыялізацыі, як перавялічаных. На гэтай падставе т.т. Сырцоў, Ламінадзэ і Шацкін прышлі да разыходжаньняў з партыяй у пытаньнях аб забесьпячэньні рабочых, рэальнай зарабковай плаце, аб так званым фінансавым крызысе, у пытаньні аб крытыцы партыйнага і савецкага апарату і ў пытаньні аб партыйнай дысцыпліне, г. ё. ва ўсіх падставовых пытаньнях палітыкі партыі.

Тав. Сырцоў у сваёй прамове ў Савеце Народных Камісараў РСФСР заявіў, што мы маем спадак рэальнай зарплаты рабочых. „Левы“ т. Ламінадзэ паўтарыў гэтую заяву ў адовве Закаўкаскага Краявога Камітэту да партарганізацыі. Гэтая абсалютна няправільная заява Сырцова і Ламінадзэ ёсьць ня што іншае, як меншавіцкі паклёп на партыю і савецк. дзяржаву, які распаўсюджываецца праз Сырцова і Ламінадзэ. Як можна гаварыць аб памяншэньні рэальнай зарабковай платы рабочых у СССР, калі пры аграмадным росьце прадукцыі доля эксплёататарскіх клясаў пала да мізэрных разьмераў і працягвае далей падаць? Як можна гаварыць аб паніжэньні рэальнай зарплаты рабочых, калі нясупынна паляпшаецца забесьпячэньне рабочых прадуктамі масавага спажываньня па даступных цэнах (палепшаньне працы каапэрацыі, зачыненыя разьмеркавацелі і г. д.), калі разгортваецца будаўніцтва памяшканьняў для рабочых, паляпшаецца камунальнае абслугоўваньне іх, з году ў год узрастаюць фонды сацыяльнага страхаваньня, калі паляпшаецца і пашыраецца сыстэма школ і ўся справа народнае асьветы, калі зьнішчана беспрацоўе і ўзрастае бюджэт рабочага, бо ўсе працаздольныя члены сям'і ўцягваюцца ў працу і г. д.! Тав. Сырцоў і Ламінадзэ гавораць аб пагоршаньні рабочага забесьпячэньня і заяўляюць, што гэта зьяўляецца прычынай цякучасьці рабочай сілы. Гэта таксама зьяўляецца нічым іншым, як буржуазна-меншавіцкай хлусьнёй на партыю і савецкую ўладу. Гэтая заява проста супярэчыць рэчавістасьці, і проста глупствам зьяўляецца заява, што цякучасьць рабочай сілы ёсьць вынікам пагоршаньня забесьпячэньня рабочых. Павялічваючаяся цякучасьць тлумачыцца як-раз тым, што становішча ў вёсцы палепшылася ў сувязі з узрастаючай калектывізацыяй, што ўраджай гэтага году быў надзвычайна добры, што жыцьцё ў вёсцы стала непараўнальна лепшае і таму паменшылася цяга ў горад. Павялічыўшаяся цяку-

часьць ёсьць як раз вынікам памяншаючайся розьніцы паміж горадам і вёскай, ліквідацыі „ідыятызму“ вясковага жыцьця, значыцца вынікам посьпехаў сацыялістычнае перабудовы краіны. Заява т.т. Сырцова і Ламінадзэ аб фінансавым крызысе зьяўляецца таксама не абгрунтаваным. Зразумела, што пабудаваньне новых фабрык і заводаў патрабуе вялікіх сродкаў і што ўкладаньне ў іх сродкаў не дае адразу вытворчых эфэктаў, бо не ў адзін год могуць быць пабудаваны. Таму вялікія сродкі ляжаць мёртвым капіталам. Вызваленьне гэтых сродкаў можа адбыцца толькі пасьля пуску гэтых заводаў. Ясна, што гэта вымагала вядомай, абмяжаванай пэўнымі рамкамі эмісіі. Калі-б СССР меў замежныя пазыкі альбо доўгатэрміновыя крэдыты, то, бязумоўна, такая эмісія была-б непатрэбнай. Але раз СССР ня мае ні доўгатэрміновых крэдытаў, ні пазык то было выгадней дапусьціць абмяжаваную эмісію, чым памяншаць тэмпы індустрыялізацыі. Заяўляць, што гэта ёсьць фінансавы крызыс, азначае не зразумець гэтага асноўнага і патрабаваць замядленьня тэмпаў індустрыялізацыі, што Сырцоў і Ламінадзэ і робяць Тав. Сырцоў далей заяўляе, што барацьба супроць бюракратызму ў СССР сама абюрократызавалася, што кадры не дарасьлі да сваіх задач, што у розных галінах працы пануюць непарадкі, адсутнасьць арганізацыі, пляну, якія перашкаджаюць разьвіцьцю творчых сілаў мас. У той-жа час т. Ламінадзэ заявіў, што ў закаўкаскім савецкім апараце існуюць „панска-фэадальныя адносіны“ да патрэбаў рабочых і сялян. Бязумоўна, у савецкім апараце маецца шмат недахопаў і моцна разьвіты бюрократызм, супроць якога партыя змагаецца. Аднак, злачынным зьяўляецца ня бачыць, што гэты апарат ёсьць прылада здушэньня эксплёататараў, а не апарат панска-фэадальнага зьдзеку над рабочымі і сялянамі. Таму гаварыць, што ў гэтым апараце пануюць панска-фэадальныя адносіны да патрэбаў рабочых і сялян значыць узвадзіць паклёп на партыю, савецкую ўладу і рэвалюцыю. Калі-ж прааналізаваць заявы Сырцова, дык яны азначаюць нішто іншае як агалашэньне барацьбы кіраўніцтву партыі пад сьцягам барацьбы супроць кіраўніцтва паасобнымі галінамі працы. І гэтую барацьбу супроць кіраўніцтва партыі Сырцоў хацеў падняць для таго, каб змагацца супроць усей генэральнай лініі партыі ў цэлым. Таму ён нападае на „навязаныя тэмпы“, „навязаныя лічбы“, якіх самі работнікі „лічаць нерэальнымі, але не змагаюцца супроць іх з-за адсутнасьці адважнасьці“. Таму ён, а таксама Ламінадзэ, прабавалі „давясьці“, што адбываецца скарачэньне тэмпу індустрыялізацыі, у той час, як адбываецца пашырэньне тэмпу індустрыялізацыі і шпаркае наступленьне сацыялізму шырокім фронтам.

Права-„левы“ блёк быў новай спробай атакі на лінію партыі аб'яднанымі сіламі ўсіх дробнабуржуазна-меншавіцкіх элемэнтаў. Ён павінен быў стаць арганізацыйным цэнтрам для ўсіх антыпартыйных элемэнтаў. Яго слабасьць заключалася ўжо ў тым, што ён не знайшоў дастаткова сіл для адкрытага выступленьня супроць партыі. Яго слабасьць заключалася і ў тым, што быў выключна інтэлігенцкай групэй. Тым ня менш нельга недаацэньваць гэтай новай спробы атакі супроць партыі.

Але зьбліжэньне правых апартуністаў і трацкістаў ёсьць міжнароднае зьявішча. Усё часьцей правыя прабуюць фарбаваць сябе пад левых, усё часьцей паміж імі заключаюцца тактычныя блёкі. Таму і КПП для ацэнкі апартунізму ў Польшчы павінна атрымаць навуку з кароткай і ганебнай гісторыі права-„левага“ блёку Сырцова — Ламінадзэ.

**А. Сталевіч.**

# Набліжэньне інтэрвэнцыі і барацьба за салдацкія масы.

Грабежніцкая, захопніцкая ненасытная прырода манапалістычнага капіталізму, падмінаванага ўзрастаючымі супярэчнасьцямі і хранічнымі крызысамі, нямінуча параджае імпэрыялістычную вайну. Сучасны момант, калі капіталістычны сьвет ўсё мацней зацiскаецца пятлёй сусьветнага хранічнага крызысу, які на асобных звеньнях перарастае ў палітычны (Польшча, Нямеччына), і ніколі яшчэ супярэчнасьці паміж капіталістычным сьветам і сацыялістычным — СССР не стаялі так рэзка і востра, як цяпер—пытаньне імпэрыялістычнай вайны стаіць на парадку дня.

За працяг 13 год існаваньня СССР падрыхтоўка інтэрвэнцыі перажывала шэраг фаз свайго разьвіцьця. У сучасны момант яна дасягнула нябывалай яшчэ гвалтоўнасьці і напружанасьці.

Рост сацыялістычнага будаўніцтва СССР, а ў капіталістычным сьвеце паглыбленьне паўсямеснага крызысу з кожным бадай днём усё з большай сілай дзейнічаюць на паглыбленьне супярэчнасьцяў паміж гэтымі двумя процілежнымі гаспадарчымі і палітычнымі сыстэмамі, падкладаюць выбуховы матарыял пад імпэрыялістычны сьвет.

Капіталістычны сьвет пакладаў зпачатку вялікія надзеі на буржуазнае перараджэньне СССР, а пасьля на зрыў пяцігодкі і ўсямерна гэтаму садзейнічаў, як эканамічнай блёкадай, так і ўзрашчываньнем шкодніцкіх контррэвалюцыйных арганізацыяў (Прампартыя, арганізацыя меншавікоў, беларускіх нацыянал-дэмакратаў, арганізацыя СВУ і інш.). Рабочая кляса СССР з нябывалым гэраізмам і энтузыязмам пад кіраўніцтвам ленінскай УсеКП(б), перамагаючы трудносьці росту, заканчвае ужо асновы сацыялістычнай эканомікі і пераможна, ўпэўнена ідзе да завяршэньня сацыялізму. СССР—гэта марксызм на практыцы, гэта наглядны рэальны вузор перамогі сацыялістычнага ладу над капіталістычным, гэта жывы рэвалюцыянізуючы прыклад для працоўных мас усяго сьвету. Капіталісты разумеюць, што цяпер для самага адсталага працоўнага вачавідна, што сацыялістычнае будаўніцтва — гэта не «бальшавіцкая утопія», а рэальны факт.

Адгэтуль такі гармідар і паніка ў капіталістычным сьвеце. Пяцігодку скланяюць на ўсе лады буржуазныя дыплёматы, журналісты, вучоныя, служкі божыя, банкіры, генералы і ўся буржуазная псарня. Рэканструкцыйны пэрыяд зрабіў СССР такім **гаспадарчым і палітычным чыньнікам** ва ўсім сьвеце, што капіталістам прыходзіцца ўжо лічыцца з ім, як з сілай грознай і магутнай.

Вось таму «Кельнышэ Цайтунг» так упадае ў роспач, кажучы: «Калі пяцігодка удасца — гора Эўропе». «Посьпехі пяцігодкі гэта пагроза ўсяму цывілізаванаму сьвету»—алярмуе ангельскі журнал кансэрватараў. «Падумайце, якія могуць быць забурэньні ў выніку рэалізацыі пяцігодкі» — трывожыцца Брыян. Напоўурадовая польская газэта «Ілюстраваны Кур'ер» 7 лютага піша ў перадавіцы: «У самой Расіі няма ніякай сілы, якая бы змагла разьбіць гэтыя пляны (пяцігодка), проціпаставіцца з посьпехам гэтай да астатку напружанай волі бальшавіцкіх будаўнічых. **Пляны іх магла-б зьнішчыць толькі пазамежная інтэрвэнцыя, арганізаваная праз кааліцыю дзяржаў».** Далей газэта, падтрымоўваючы Брыянаўскі праэкт Пан-Эўропы, дамагаецца хутчэйшай яго рэалізацыі, ба **«заўтра можа быць позна».**

У пераможным паходзе пяцігодкі буржуазія бачыць сваю пагібель, а зьнішчодзіць пяцігодку можна толькі зьнішчыў-

шы пралетарскую дыктатуру, пад кіраўніцтвам якой ажыцьцяўляецца пяцігодка. Таму ў цяперашніх плянах імпэрыялістаў перадусім пераважаюць мэты зьнішчыць сацыялістычную сыстэму эканомікі, зьнішчыць СССР—гэты важнейшы фактар рэвалюцыянізаваньня працоўных масаў, фактар які падсякае карэньні капіталістычнага сьвету. На трэцім годзе пяцігодкі капіталісты аканчальна зьняверыліся ў буржуазнае пераражэньне СССР, для капіталістаў становіцца ўсё вачавідней, што пакуль у іх руках арсэналы, арміі, аружжа трэба хутчэй іх накіраваць супроць СССР, бо «заўтра можа быць позна» ратаваць капіталістычную сыстэму.

Пераможны паход СССР да сацыялізму паказвае шлях працоўным масам капіталістычных краёў і калёніяў да пралетарскай рэвалюцыі. Баявыя бурныя выступленьні пралетарыяту пад лёзунгамі кампартыяў 25-га лютага гэтага году зьяўляюцца новым і яскравым паказчыкам разьвіваючагася працэсу рэвалюцыянізаваньня мас, росту ўплыву кампартыяў і ўсё большага банкроцтва сацыял-фашызму. На ўсходзе ўзрастае і магутнее калённа міжнароднай пралетарскай рэвалюцыі, — Кітайская чырвоная армія, гераічна адбіваючы жорсткія атакі міжнародных імпэрыялістаў і кітайскіх генэралаў, закладвае камень за камнем падваліны пралетарскае дыктатуры ў Савецкім Кітаі.

Пад націскам росту сацыялістычнага будаўніцтва і росту міжнароднага рэвалюцыйнага руху адыходзяць на другі плян капіталістычныя супярэчнасьці, хоць яны ўсьцяж завастраюцца, а ў далейшым **шпарка ідзе кансалідацыя імпэрыялістычнага антысавецкага блёку.** Мы бачым як на Польшчу ў апошнія часы робіць націск Ліга Нацый ў пытаньні Шлёнску і Данцыгскага Калідору на карысьць Нямеччыны, як паміж Францыяй і Нямеччынай наклёўваецца дагавор з мэтай зрабіць апошнюю актыўным членам антысавецкага блёку.

Побач з тым уздрыгі гаспадарчага крызысу ўстанавілі новыя перагрупоўкі ў імпэрыялістычным лягеры. У апошнія часы камандную ролю у антысавецкім блёку выразна пераняла Францыя ад Англіі. Усе выдатнейшыя выпады супроць СССР у апошнія часы былі зроблены ці арганізаваны праз Францыю. Правакацыя на кітайскай чугунцы, арганізаваньне ў СССР т. зв. Прампартыі, ажыўленая дзейнасьць францускага імпэрыялізму ў дзяржавах акаляючых СССР (Польшча, Румынія і інш.), урэшце цкаваньне вакол т. зв. савецкага «дэмпінгу», «прымусовай працы», антысавецкая кампанія Брыяна пад маскай Пан-Эўропы і шмат іншых фактаў, якія гавораць, што Францыя, Пуанкарэ-Вайна ня толькі становіцца на чале арганізацыі вайны супроць СССР, але і паскарае тэмп арганізаваньня вайны.

Прыблізна да 1928 г. англа-францускія супярэчнасьці былі бадай галоўнай восьсю, найбольш рашаючым фактарам у эўрапэйскай палітыцы. Барацьба завастралася галоўным чынам за гегэмонію над Эўропай. Англія часоў Чэмбэрлена актыўна праяўляла сваю агрэсыўную палітыку на узьмежжы СССР; пад яе рэжысурай адбыўся фашыстоўскі пераварот у Польшчы, яна ўкладае свой капітал у лімітрофныя дзяржавы на іх узбраеньне і т. п. Аднак востры крызыс, які ахапіў Англію, яе непаладкі з сваімі доміньёнамі і калёньямі аслабілі Англію і яна змушана была пайсьці на шэраг уступак Францыі. З гэтага часу Францыя, стаўшы ваенным і палітычным арганізатарам антысавецкага блёку стараецца пад маскай Пан-Эўропы падпарадкаваць сваёй імпэрыялістычнай палітыцы ўсе эўрапэйскія дзяржавы.

Цяпер аб збройным нападзе на СССР гаворыцца зусім адкрыта, адкрыта заключаюцца ваенныя згоды, пробныя ваенныя мабілізацыі прамысловасьці, узбраеньні і ўсё пад лёзунгамі супроць бальшавікоў, супроць СССР. Галоўны арганізатар вайны—Брыян—нядаўна заявіў у прэсе, што ён заняты барацьбой з бальшавізмам у... Польшчы і Румыніі і арганізацыяй антысавецкага блёку. Намесьнік Куцёпава белагвардзейскі генэрал Мілер у варшаўскіх газэтах апавяшчаў, што вайна супроць СССР пачнецца вясной г. году. Зусім без маскіроўкі назначаецца галоўным камандуючым румынскіх і польскіх войск францускі генэрал Гуро з пастаяннай штаб-кватэрай у Бухарэсьце. На нядаўна адбыўшымся агульнапольскім кангрэсе буржуазнай

моладзі пад назвай «1 Кангэс Легіёну Маладых» прынята мілітарыстычная рэзалюцыя, у шостым пункце якой гаворыцца: «Выходзячы з тэй устаноўкі, што **вялікадзяржаўная экспансія Польшчы павінна разьвівацца ва ўсходнім напрамку,** з радасьцю вітаем незалежныя імкненьні народаў, якія яшчэ застаюцца пад ярмом расейскага імпэрыялізму». Далей гэты кангрэс заклікае польскае грамадзтва прылажыць усе высілкі на ліквідацыю «расейскіх і нямецкіх уплываў на Літву» і каб неадкладна ўступіцца за «польскае насельніцтва, якое густа насяляе Савецкую Украіну і Беларусь». Кангрэс праходзіў пры ўдзеле ўрадавых і ваенных сфэр (міністар Прыстар, жонка Пілсудзкага, палкоўнік Ульрых і інш.). Такое-ж бразгатаньне аружжам ў бок СССР, выяўленьне імпэрыялістычнага шалу усіх палітычных груповак яскрава наглядалася пры дыскусіі па ваеннаму бюджэту ў Сойме.

Буржуазія, сацыял- і нацыянал-фашыстыя ў ходзе падрыхтоўкі вайны удаскавальваюць сваю агітацыю. Цяпер цкаваньне супроць СССР маскуецца галоўным чынам абаронай інтарэсаў працоўных мас, цяпер падрыхтоўка інтэрвэнцыі ідзе пад лёзунгамі: далоў СССР — вінавайцу крызысу і беспрацоўя, за вызваленьне рэлігіі, народаў, супроць калектывізацыі, за цывілізацыю, за права ўласнасьці і т. п. Бясспрэчна, што гэтыя лёзунгі, можа з некаторымі варыяцыямі, будуць асноўнымі для атуманьваньня мас і ў часе вайны супроць СССР.

Неабходна тут больш затрымацца над апошнім каньком антысавецкай агітацыі, а менавіта—кампанія супроць т. зв. прымусовай працы ў СССР. Рабаўласьнікі выступілі з абаронай аховы працы ў краі, дзе праца вызвалена і па-сацыялістычнаму арганізавана, дзе праца зьяўляецца ня сродкам эксплёатацыі і прыгнечаньня, а справай геройства, гонару і славы, дзе 7-мігадзінны рабочы дзень і ліквідавана беспрацоўе. Чым-жа тлумачыць, што капіталісты, праводзючы асьцервянелае наступленьне на рабочую клясу адважыліся закрануць такое для іх абапольна вострае пытаньне, як ахова працы ў СССР?

Цяпер, у выніку паглыбленьня і завастрэньня клясавай барацьбы, кіраванай кампартыяй, рэвалюцыйная сьвядомасьць пралетарыяту настолькі ўзрасла і ўзрастае, што пралетарыят можа крыжаваць пляны буржуазіі. Рэвалюцыйны настрой мас усімі пуцінамі працiскаецца і **за сьцены кашар.** Буржуазія ўсё гэта ўлічвае і дзеля таго, рыхтуючыся да клясавай вайны, кладзе націск на тэхнічны бок арміі, на яе сацыяльны падбор. Асабліва ў пачатку вайны буржуазія будзе апэраваць часьцямі арміі найлепш забясьпечанымі тэхнікай (у першую чаргу газамі і авіяцыяй) і найбольш палітычна надзейнымі. Адгэтуль узрастае значэньне пралетарыяту, працуючага па забясьпячэньню ўсім неабходным для вайны. Лёс, вынік вайны будзе вырашацца нятолькі на фронтах, але цяпер у большай меры, чым у папярэдніх войнах, будзе рашацца і на тылох фронту, на прадпрыемствах, абслугоўваючых армію сродкамі ваеннага вытворства.

Улічваючы гэта, буржуазія і павяла кампанію супроць сацыялістычнай арганізацыі працы з мэтай мабілізаваць найбольш адсталыя, найбольш клясава несьвядомыя пласты пралетарыяту і рабочую арыстакратыю, каб уцягнуць гэтыя пласты ў антысавецкі фронт, уцягнуць у падрыхтоўку вайны супроць краяя, будуючага сацыялізм. Паскольскі клясавая падкладка папскага «крыжовага паходу» заключалася ў мабілізаваньні адсталых пластоў дробнай буржуазіі гораду і вёскі, а кампанія супроць т. зв. «дэмпінгу», узьнятая ў час аграрнага крызысу, была разьлічана на мабілізацыю шырокіх сялянскіх мас, дык кампанія аб т. зв. прымусовай працы ў СССР мае на мэце апошні і галоўнейшы атрад арміі працы — пралетарыят і сьведчыць аб тым, што падрыхтоўка і арганізацыя нападу на СССР дабягае канца. У сучасных варунках уздыму рэвалюцыйнага руху пры наяўнасьці баявых авангардаў пралетарыяту—кампартыяў,—усякая траўля буржуазіі супроць пралетарыяту будуючага сацыялізм нямінуча ператвараецца кампартыямі ў новую зброю рэвалюцыйнай барацьбы супроць капіталістычнага ладу, а ў СССР выклікае новы ўздым энтузыязму ў сацыялістычным будаўніцтве. «Наша праца — гэта праца на сябе, на сваю клясу, на вас, пралетарыят Заходу» адказвае рабочая кляса СССР на

новае цкаваньне буржуазіі. Па рэвалюцыйнаму павінен адказаць і адкажа пралетарыят капіталістычных краёў.

У арганізацыі ваеннага нападу на СССР актыўнейшы ўдзел прыймаюць украінская і беларуская буржуазія і іх сацыял- і нацыянал-фашысты. Гэта найбольш актыўныя саюзьнікі польскага імпэрыялізму, пры дапамозе якога хочуць ратаваць кулацтва ў БССР і УССР, якое ліквідуецца, як кляса; ратаваць там рэшткі сваёй буржуазнай культуры, зьнішчыць сацыялістычнае будаўніцтва і пралетарскую культуру, хочуць мецць новыя большыя абшары і большую долю ў эксплёатацыі беларускіх і ўкраінскіх працоўных мас. Факты апошніх часоў яшчэ больш яскрава выяўляюць удзел беларускай і ўкраінскай контррэвалюцыі ў падрыхтоўцы вайны супроць СССР. У зьвязку з ліквідацыяй ў БССР беларускай контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі, тут ў ЗБ нацыянал-фашысты паднялі заядлую антысавецкую кампанію ў абарону сваіх стаўленьнікаў на тым баку мяжы. Кампанія гэтая пад камандай польскага фашызму вядзецца пад лёзунгамі супроць «праследаваньня беларускай культуры ў БССР», супроць «чырвонага імпэрыялізму» і інш., і мае на мэце распаліць беларускі шавінізм сярод мас і ўцягнуць іх у падрыхтоўку антысавецкай вайны. Беларускі нацыянал-фашызм за грошы польскага фашызму, пад відам, т. зв. гаспадарчых і культурных арганізацыяў вядзе ідэолёгічную падрыхтоўку мас, да вайны супроць СССР і арганізуе контр-рэвалюцыйныя элемэнты ЗБ. Беларускі нацыянал - фашызм у апошнія часы праяўляе значна большую актыўнасьць у разгроме беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, рэагуючы на кожнае яго выяўленьне правакацыяй, разгромам і раскладам.

Львіная доля ў палітычна-ідэолёгічнай апрацоўцы мас да антысавецкай вайны належыць сацыял-і нацыянал-фашыстам. Зьяўляючыся прываднымі пасам ад фашыстоўскай дыктатуры да мас, яны ёсьць найбольш небясьпечныя ворагі ў барацьбе за масы, за армію. Ілжывымі паціфісцкімі фразамі, падтрымоўваньнем ваенна-мілітарысцкай палітыкі ўраду лёзунгамі «абароны беларускай культуры і народу» у нацыянал-фашыстаў і абароны «незалежнасьці Польшчы» у ППС і антысавецкай агітацыяй, — усім гэтым агенты і саюзьнікі фашызму ачмучваюць яшчэ значныя масы працоўных. У час вайны іх актыўнасьць, іх манэўранасьць, іх удзел у дэзарыентацыі мас павялічыцца ў стократ, значыць павялічыцца з боку іх і небясьпека для рэвалюцыйнага руху рабочых і сялян.

У барацьбе супроць інтэрвэнцыі мы недастаткова надаем увагі барацьбе супроць сацыял- і нацыянал-фашыстаў. Трэба ужо цяпер неадкладна рэагаваць на кожны іх новы выпад супроць СССР, сыстэматычна дэмаскаваць антысавецкую агітацыю, іх роль у стварэньні буржуазнай Польшчы, іх актыўны ўдзел у імпэрыялістычнай палітыцы фашыстоўскага ўраду, удзел у белым тэрары, які зьяўляецца галоўным сродкам у падрыхтоўцы вайны. Чым глыбей і шырэй здэмаскуе партыя ўсю работу фашызму і яго агентаў у падрыхтаваньні вайны, тым менш магчымасьцяў і вузейшую базу для манэўраў яны будуць мець у часе вайны, тым лягчэй будзе ператварыць вайну імпэрыялістычную ў вайну грамадзянскую. Ужо цяпер павінна весьціся няшчадная барацьба супроць пацыфісцкай фразэолёгіі сацыял- і нацыянал-фашыстаў, супроць прышчапленьня шавінізму і рэлігійнага дурману асабліва сярод жанчын і войску. Трэба растлумачыць найшырэйшым масам ленінскую пастаноўку аб вайне і арміі, мабілізаваць на актыўнае правядзеньне ў жыцьцё гэтых ленінскіх заветаў. З боку Кампартыі павінна пастаянна весьціся сыстэматычная зацятая барацьба супроць сацыял- і нацыянал-фашызму, неабходна пастаянна адтачываць сваё клясавае аружжа, успраўняць сваю агітацыю.

З мэтай разьвіцьця і ўзьняцьця барацьбы на вышэйшы ровень неабходна час ад часу падсумоўваць яе дасягненьні, досьлед і недахопы. У антыінтэрвэнцыйнай кампаніі, ня гледзячы на шэраг дасягненьняў, партыя аднак у асноўным яшчэ не зрабіла грунтоўнага зрушша. Факт бясспрэчны, што партыйныя масы ужо сабе усьведамілі актуальнасьць і важнасьць барацьбы супроць імпэрыя-

лістычных плянаў Польшчы, аднак няма яшчэ таго, каб гэтую сьвядомасьць, якая выяўляецца пакуль у значнай меры на словах, ператварыць у жывую справу за штодзённую барацьбу. Кожнае мерапрыемства фашыстоўскага ўраду, ўся яго палітыка падпарадкаваны ваенным плянам, таму і **кожны крок нашай барацьбы** і нашага кіраўніцтва павінен **цесна ўвязвацца з барацьбой супроць інтэрвэнцыі.** Мала робіцца на мясцох і ў сэнсе арганізацыі масавых выступленьняў супроць канкрэтных выпадкаў ці праяваў з мясцовага жыцьця, якія маюць непасрэдна ваенны антысавецкі характар. Такія выступленьні павінны праходзіць пад знакам барацьбы непасрэдна супроць інтэрвэнцыі і зьяўляцца баявой падрыхтоўкай мас да іх рашучых выступленьняў ў часе вайны.

У нашай агітацыі супроць падрыхтоўкі антысавецкай вайны таксама ёсьць немала пахібаў. Наша агітацыя супроць інтэрвэнцыі ў значнай меры носіць трафарэтны характар. Мы часта-густа мэханічна шмат разоў паўтараем ад рэзалюцыі да нізавой лістоўкі ўключна склаўшуюся форму агітацыі, не абнаўляем яе новымі праявамі і сьвежым палітычным зьместам. А такое **паднашэньне гатовага шаблёну фраз, думак і вывадаў, бязумоўна, ствараe аднароднасьць уражаньня, прытупляе, зьнячуляе ўспрыйманьне і абмяжоўвае «ёмкасьць» чытача ці слухача.**

Мы кажам, што вайна—гэта пытаньне дня, што у паветры пахне порахам і гэта правільна. Але калі гэтае цьверджаньне падносіцца масам адарвана-прапагандыстычна, дык такая агітацыя падрывае да сябе давер'е. Бальшавіцкая агітацыя тым моцна, што яна праўдзіва, і вось гэтую праўдзівасьць трэба даказваць масам і ў цьверджаньні аб «непасрэднай пагрозе» вайны. Трэба на грунце канкрэтных выпадкаў, зьвязаных з вайной, тлумачыць масам аб **тэмпах** падрыхтоўкі вайны, тлумачыць чаму вайна можа ўзьнікнуць у любы момант—нават сёньня—заўтра, у любым зьвяне капіталістычнага сьвету і ня толькі можа, але і ўзьнікае — Мароко, Кітай, Нікарагуа і інш., высьвятляць прычыны імпэрыялістычных войнаў і іх клясавую сутнасьць. Трэба завастраць увагу мас, што няма чаго чакаць афіцыяльнага аб'яўленьня вайны супроць СССР. Брыян, Пілсудзкі, ды іншыя імпэрыялісты ня будуць спасылацца на дыплёматычныя фармальнасьці — напад ма - быць, будзе зроблены раптоўны, скрыта падрыхтаваны, каб нанесьці з-за вугла больш балючы ўдар, як гэта робяць бандыты.

Мы незаўсёды даем належную прапорцыю ў матар'ялах, якія падносім масам і гэтым часта затушоўваем **асноўнае** ў агітацыі. Цяпер трэба надаваць **больш увагі тэмпу** падрыхтоўкі вайны і асабліва важна выразна і канкрэтна ставіць задачы перад масамі, **што ім рабіць,** каб недапусьціць да нападу на СССР і **што ім рабіць** у часе гэтага нападу. А ў гэтых задачах цэнтр вагі класьці на дэмаскаваньне розных фашыстоўскіх трансмісіяў, як сацыял- і нацыянал-фашысты, якія ўцягваюць масы ў антысавецкую палітыку фашыстоўскай дыктатуры, і мабілізаваць масы на барацьбу супроць гэтых галоўных ворагаў у справе заваяваньня мас.

Сустракаюцца ў нас і няправільныя лёзунгі асабліва ў нізавых выданьнях, як «вайна—вайне», альбо ужываньне слова «антываенны». Мы толькі супроць імпэрыялістычнай вайны, імпэрыялістычнай арміі, за вайну грамадзянскую, за Чырвоную Армію. У зьвязку з гэтым трэба адзначыць, што мы бязумоўна мала высьвятляем масам лёзунг ператварэньня вайны імпэрыялістычнай у вайну грамадзянскую—«адзіна справядлівая законная вайна» (Ленін). У час, калі надыходзіць сьмяротная схватка двух варожых сьветаў — капіталістычнага і сацыялістычнага, калі на карту будзе пастаўлена: хто каго — камунізм ці фашызм—у гэты час трэба з усей яснасьцю ставіць перад масамі неабходнасьць быць гатовымі прынесьці ахвяры, ісьці на сьмерць у імя зваленьня панованьня эксплёататарскіх пануючых клясаў, якія дабравольна ніколі ня ўступяць сваіх клясавых пазыцыяў, ісьці на клясавую вайну можа нават з вялікімі ахвярамі, за зьнішчэньне вайны і эксплёатацыі, за СССР, за бясклясавае грамадства, за сацыялізм. На прыкладах грамадзянскіх войнаў у часе Кастрычнікавай рэвалюцыі і ў Кітаі партыя павін-

на шырока усьведамляць працоўныя масы і салдат, **за што яны ў сапраўднасьці павінны ваяваць, якой павінна быць іх вайна.** Ленін вельмі шмат надаваў увагі падрыхтоўцы баявой гатоўнасьці мас. **«Масы павінны ведаць—пісаў Ленін—што яны ідуць на ўзброеную крывавую адважную барацьбу. Пагарджэньне да сьмерці павінна распаўсюдзіцца ў масах і забясьпечыць перамогу. Наступленьне на ворага павінна быць самае энэргічнае... напад, а не абарона павінна стаць лёзунгам мас; няшчаднае зьніштажэньне ворага — стане іх задачай».** Кажучы абператварэньні імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую, трэба таксама ставіць пытаньне і аб спосабах і лёзунгах узбраеньня пралетарыяту. Гэтае пытаньне яшчэ не знайшло ў нашай партыі належнага вывучэньня.

Не засёўды ўмела мы папулярызуем дасягненьні ў СССР, часта вельмі агульнікова, без належнай канкрэтызацыі. У агітацыі на мясцох аб заваёвах сацыялістычнага будаўніцтва трэба выпучываць тое асноўнае, што найбольш зразумела і блізка і што найлепш мабілізуе масы да якіх зьвяртаемся з агітацыяй Мы недастаткова папулярызуем СССР. Трэба выкарыстоўваць найдрабнейшы выпадак, кожны момант, каб выяўляць перад масамі параўнаньне — у нас і ў СССР, каб расказаць аб сацыялістычным будаўніцтве; трэба каб гэты «важнейшы рэвалюцыянізуючы фактар», як кажа Камінтэрн аб СССР, стаў пастаяннай нашай зброяй у штодзённай агітацыі.

Важнейшым недахопам у барацьбе супроць імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі зьяўляецца **недаацэнка працы ў арміі.** Гэта канстатуюць апошнія рашэньні ЦК КПП і ЦК КПЗБ, аб гэтым сьведчыць шэраг фактаў з месц.

Ня гледзячы на шэраг дасягненьняў у працы сярод салдат, мясцовыя арганізацыі ў большасьці яшчэ не зьвяртаюць належнай увагі працы ў арміі, ня робяць увязкі барацьбы рабочых і сялян з барацьбой салдат. **У Горадні плютоновы забівае салдата ручкай ад кулямёту** ў часе вучобы, ўвесь горад аб гэтым ведае, а АК і ГК нічым не рэагавалі. У часе выбараў, ня гледзячы на дырэктывы ЦК, большасьць АК не праводзіла ніякай акцыі сярод войска, а Пінскі сэкрэтар дадумаўся тлумачыць гэтую памылку тым, што ня меў часу, бо «быў заняты выбарнай кампаніяй». Такая недаацэнка працы сярод салдат можа мець вельмі непажаданыя вынікі і выцякае з неразуменьня грознай сытуацыі, непасрэднай небясьпекі вайны і ролі арміі пры капіталістычным ладзе.

Армія гэта адна з тых рухавых сіл, якая падрыхтоўвае вайну і якая рашае перавагу ў часе вайны, рашае яе лёс. Ад узроўня клясавай сьвядомасьці салдацкіх мас, ад сілы ўплыву кампартыі і арганізацыйнага ахопу барацьбы салдацкіх мас залежыць, як адцяжка нападу на СССР, так і шпаркае яе ператварэньне ў грамадзянскую вайну, таксама перамога пралетарыяту ў гэтай вайне.

Мы жывем у час, калі сёньня-заўтрэ можам апынуцца ў абставінах ваенных падзеяў. У такіх варунках барацьба за салдацкія масы стаіць ва ўсю веліч і зьяўляецца найгалоўнейшай задачай партыі. Ленін казаў, што **«армія ў ваенны час мае выключна важнае значэньне ва ўсім дзяржаўным жыцьці». «Без «дэзарганізацыі» арміі ні адна вялікая рэвалюцыя не абыходзілася і ня можа абыйсьціся. Бо армія гэта самая закасьцянелая прылада падтрыманьня старога ладу, найбольш зацьвярдзеўшая апора буржуазнай дысцыпліны, падтрыманьня панаваньня капіталу, захаваньня і выхаваньня нявольнікаў пакоры і падпарадкаваньня працоўных».**

Перад КПЗБ праца сярод салдат набірае асаблівай вастраты яшчэ і дзеля таго, што на ЗБ, як плацдарме ў вайне супроць СССР, разьмешчаны значны лік войска; гэтае войска на выпадак вайны будзе першым кінута на фронт, і ЗБ у першую чаргу стане тэатрам ваенных падзеяў.

Ці ёсьць адпаведны грунт для працы Партыі сярод салдацкіх мас? Зразумела, што грунт вельмі ўдзячны. Толькі ачмурэлыя апартуністы ўважаюць што працаваць сярод салдат нельга і няма часу. Польская армія, якая складаецца у пераважнай большасьці з эксплёатаваных мас рабочых і сялян, ня можа стаяць у боку д іх рэвалюцыйнага руху, ня можа быць застрахаванай, ня гледзячы на ўсе меры

фашызму, ад працэсу рэвалюцыянізаваньня.

Крызыс, у ціскох якога корчыцца фашыстоўская Польшча, ударае і па салдацкай масе, якую ў дадатак абкрадвае афіцэрства і якая чым далей, тым вастрэй адчувае казармены голад і холад. Каб утрымаць «дух арміі», фашыстоўскі ўрад узмацняе палачны рэжым у казармах і ідэолёгічную антыпралетарскую і антыбальшавіцкую апрацоўку салдацкіх мас. Армія ў фашыстоўскай Польшчы, гэта сьвятая сьвятых у яе імпэрыялістычных плянах, ва ўсім яе дзяржаўным жыцьці, гэта асноўная падстава ў яе існаваньні. Для арміі, для мілітарнай моцы Польшчы скіраваны ўсе высілкі буржуазнай гаспадаркі. Каля арміі ствараецца орэоль геройства, афіцэрства карыстаецца найбольшымі прывілеямі, армію ад рэвалюцыйных уплываў абараняюць найбольш суровыя законы фашызму. Чаго толькі ня робіць фашызм, каб утрымаць армію — гэтае найбольш яго чулае і балючае месца — утрымаць паслухмянай і здатнай для рэалізацыі яго імпэрыялістычных імкненьняў, душэньня рэвалюцыйнага руху, для карных экспэдыцыяў. Найбольш высілкаў урад прыкладае для ізаляцыі салдат ад рэвалюцыйнага акружэньня, для гэтага трымае салдат пастаянна ў сьценах казармы, як у турме, будуе казармы за межамі гораду, размяшчае войска па глухіх мястэчках далей ад пралетарскіх цэнтраў, пасылае беларусаў у карэнную Польшчу, а палякаў на ЗБ, цэнзуруе лісты, а ваенные спэцы ў сваіх тэорыях галоўны націск кладуць на ізаляцыю войска.

Усё гэта выцякае з паліцэйска-мілітарна-імпэрыялістычнай сутнасьці дзяржаўнай сыстэмы Польшчы, як пляцдарму міжнароднага імпэрыялізму ў вайне супроць СССР. Польшча першым чынам пастаўшчык арматнага мяса ў надыходзячай інтэрвэнцыі, пастаўшчык жывой сілы—арміі.

Вось барацьба за гэтую армію, за салдацкія масы паміж фашызмам і камунізмам толькі яшчэ разгараецца. Партыя павінна, ўлічваючы той вялікі размах упартай барацьбы фашызму за салдацкія масы, **з узмножанай энэргіяй павясьці працу па раскладу арміі і заваяваньню пад свай уплыў салдацкіх мас.**

На-жаль мы пакуль яшчэ мала знаем, што робіцца ў арміі. Тыя факты, якія прабіваюцца на дзённы сьвет, кажуць, што ў польскай арміі мы ўжо маем значны рэвалюцыйны фэрмэнт. Нездавольства салдат часта-густа выліваецца ў форме бунтаў цэлых вайсковых адзінак (Н. Вялейка, Рэмбэртова), калі ўся салдацкая маса не падпарадкаваецца камандзе і загадам афіцэрства, салідарызуецца словам і чынам з рэвалюцыйнымі прамоўцамі і арыштаванымі. У Н. Вялейцы дайшло да вострых выступленьняў салдат, якія разграмілі склады з правіянтам, адмовілісяісьці на вучобу і рашучымі дамаганьнямі дабіліся вызваленьня арыштаваных сваіх 30 таварышоў.

Аналізуючы ужо вядомыя факты рэвалюцыйнага выступленьня салдат, прыходзім да наступных вывадаў:

1. Армію ўпарта падтачываюць сілы рэвалюцыі. Выступленьні салдацкай масы за паляпшэньне свайго быту маюць клясавы характар.

2. Выступленьні гэтыя носяць бурны характар, якімі салдацкая маса на пасобных вучастках ламае часова казарменны рэжым (Н. Вялейка, Вільня).

3. Салдаты ў сваіх выступленьнях выяўляюць салідарнасьць з барацьбой рабочых і сялян шляхам братаньня, удзелу ў дэманстрацыях і інш. У часе МЮДу ў Владаве салдаты пакінулі самавольна вучобу і далучыліся да моладзі, якая пела «Інтэрнацыянал», а пасьля супольна наладзілі дэманстрацыю. «Мы сваіх братоў на дэманстрацыі ня будзем растрэльваць»—заяўляе салдат віленскага гарнізону пры поўным падтрыманьні ўсей роты ў адказ афіцэру, які давodзіў, што салдаты павінны па загаду начальства кінуцца ў агонь і ваду.

4. Выступленьні саладат прасякнуты сымпатыямі і салідарнасьцю да сацыялістычнага будаўніцтва СССР, да Чырвонай Арміі (рэзалюцыі на салдацкіх масоўках).

5. Расьце ўплыў Кампартыі сярод салдат і яе роль, як арганізатара барацьбы салдацкіх мас. Там дзе партыя мае непасрэдную сувязь з салдацкімі масамі, там барацьба іх носіць больш масавы і баявы характар.

Перад Партыяй і КСМ з усей вачавіднасьцю стаіць задача ўсямернага пранікненьня ў салдацкія масы ўсюды там, дзе яны ёсьць, стварэньня ячэек—арганізаваных рэвалюцыйных асяродкаў. Аддацца на самацёк, на стыхійнасьць, як гэта мае яшчэ месца ў некаторых арганізацыях, гэта значыць аддаць рэвалюцыйны рух салдат на разгром, на удушэньне. II пленум ЦК КПП у сваіх рашэньнях кажа, што **«барацьба за армію, за тысячныя салдацкія масы, як будучых узбройных саюзьнікаў пралетарыяту**—павінна стаць штодзённай справай дзейнасьці партыі».

Арганізацыі на мясцох павінны ўсялякі факт з барацьбы салдат, праяўленьне казарменнага рэжыму даводзіць уразжа да ведама працоўных мас і арганізаваць гэтыя масы на салідарныя выступленьні, як забастоўкі, дэманстрацыі да казарм, братаньне з салдатамі, уцягваньне іх у рабоча-сялянскую самаабарону, пісаньне калектыўных лістоў у казармы і іншае. **Тварам да казарм, змычка з арміяй, заваяваць салдацкія масы**—вось нашыя ударныя лёзунгі ў барацьбе супроць фашызму за войска.

Побач з тым трэба узмоцніць працу сярод солдат. Калі прасачыць апошнія масавыя выступленьні салдат, дык мы бачым, што яны узьнікалі ў пераважаючай большасьці на грунце нездавольства харчамі і казарменага рэжыму. У сучасны момант барацьба за частковыя дамаганьні, за паляпшэньне ўтрыманьня, супроць зьдзекаў афіцэрства зьяўляецца асноўным, што павінна змабілізаваць самыя шырокія масы салдат. Зразумела, што гэтыя частковыя дамаганьні не павінны ставіцца як мэта. Барацьба салдат за штодзённыя дамаганьні павінна цесна увязвацца з барацьбой супроць капіталістычнага ладу і яго арміі, з рэвалюцыйнай барацьбой рабочых і сялян. Барацьба за частковыя дамаганьні — гэта сродак для разлажэньня буржуазнай арміі, для узьняцьця барацьбы салдат на вышэйшую ступень за рабоча - сялянскі ўрад — дыктатуру пралетарыяту.

У часе калі масы гатовы да чыну, да актыўнай барацьбы, але яшчэ іх спутывае пагроза белага тэрару, а казармены рэжым асабліва, калі ўтрымоўвае яшчэ іх няпэўнасьць у свае сілы, няяснасьць разьвіцьця далейшае барацьбы, у гэты час маюць асабліва важнае значэньне гэраічныя, адважныя выступленьні. У такіх выпадках **насьпеўшай сытуацыі** асабліва важна разарваць путы гэтых сумляваньняў, няпэўнасьці і няяснасьці найлепш рашучым баявым выступленьнем зьнітаванага калектыву, ці адзінкі з заклікам да мас. Такія выступленьні садзейнічаюць хутчэйшаму выяўленьню скрытага рэвалюцыйнага награмаджэньня ў масах, мабілізуюць, убаяўляюць гэтыя масы. Яскравейшым прыкладам гэтаму зьяўляецца паўстаньне матросаў на броненосцы «Пацёмкін» у 1905 г. і шмат больш дробных выпадкаў 1905 і 1917 г.г. У меншым разьмеры мы маем тое самае ў Н. Вялейцы, калі адважнае выступленьне аднага з салдат адразу змабілізавала салдацкую масу, пачаўшую ужо дрэфіць перад майорам, і павысіла іх барацьбу. У такіх выступленьнях трэба ўлічваць сілу рэвалюцыйнага награмаджэньня ў масах, каб выступаўшыя застрэльшчыкі не апынуліся ізаляванымі ад мас, якія зьнітаваным падтрыманьнем і баявым адпорам павінны недапускаць да разгрому свайго рэвалюцыйнага актыву.

У сучасным этапе барацьбы салдацкіх мас, выяўляючайся ў паасобных бунтах і ўспышках, вельмі важна **яднаць, арганізаваць**, уцягваць найбольш шырокія масы салдат. Кожнае масавае выступленьне, кожны яскравы факт з жыцьця і барацьбы ў сьценах казарм павінен знайсьці **водгук і падтрыманьне** ва ўсіх часьцях арміі.

**Вось такім масавым рэвалюцыйным напорам з двух бакоў—ад казармы і ад вуліцы і фабрык—трэба ламаць фашыстоўскую сьцяну ізоляцыі, трэба як найчасьцей наладжваць стык працоўных мас са сваімі братамі ў ваенных мундзірах, супольнымі сіламі ламаць паліцэйскі і казарменны тэрар—гэта ёсьць лепшы спосаб для абапольнага ўзмацненьня рэвалюцыйнага руху.**

Аграмаднае значэньне ў рэвалюцыянізаваньні салдацкіх мас мае праца сярод новабранцаў; больш таго, можна сьмела сказаць, што без належнага ўплыву Кампартыі сярод новабранцаў наша праца ў арміі зьвядзецца да самых ніклых разьмераў. Новабранцы адарва-

ныя ад варштату і плуга, адарваныя ад барацьбы за хлеб і працу, са сьвежым абурэньнем супроць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, яны ўліваюць у армію новую рэвалюцыйную плынь, узбударажваюць усю салдацкую масу. Таму, ладзячы масавыя і арганізаваныя провады новабранцаў, прыймаючы ад іх рэвалюцыйныя прысягі на вернасьць перад працоўнымі масамі, трэба даваць ім такі ленінскі наказ: **«Табе далі ў рукі вінтоўку і скорастрэльную гармату,—бяры гэтае аружжа сьмерці і руйнаваньня, ня слухай сантыментальных нытікаў, якія баяцца вайны; на сьвеце яшчэ вельмі многа засталося такога, што павінна быць зьнішчана агнём і жалезам для вызваленьня рабочае клясы... і рыхтуйся пусьціць у ход так карысныя прылады сьмерці і руйнаваньня супроць свайго ўраду, супроць сваёй буржуазіі»**. (Ленін).

Ленін казаў, што **«мы павінны разьясьняць, якая маса і тэорэтычных і жыцьцёвых пытаньняў узьнікне на другі дзень пасьля аб'яўленьня вайны, аднімаючы гэтым усякую магчымасьць у аграмаднай большасьці прызыўнікаў аднасіцца да гэтых пытаньняў з больш-менш яснай галавой, з больш-менш добрасумленным непрадузятым поглядам»**.

Асноўным ў гэтых пытаньнях бясспрэчна будзе лёзунг буржуазіі «абароны бацькаўшчыны адзіным нацыянальным фронтам». Таму ў агітацыі сярод салдат трэба ўжо цяпер падкрэсьліваць з усей яснасьцю, што ў інтарэсах салдат **не бараніць свае кайданы, а збройнай сілай іх рваць.** У салдат ёсьць іх сацыялістычная бацькаўшчына—СССР, яе яны і павінны бараніць з аружжам у руках, павінны **ўсямерна садзейнічаць паражэньню свайго фашыстоўскага ўраду і перамозе СССР.** З аружжам у руках, пераходзячы на бок Чырвонай Арміі, салдаты павінны змагацца за Савецкую Польшчу, за аб'яднаньне ЗБ з БССР.

На тылох польскае арміі ў часе вайны ўзьнікне рэвалюцыйны партызанскі рух які будзе ўсімі спосабамі змагацца з аружжам у руках супроць фашыстоўскага ўраду, яго генэралаў і афіцэраў, супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР. Барацьба партызан ляжыць у клясавых інтарэсах салдат і дзеля таго салдаты павінны адмаўляцца ад аблаваў на партызан, ад карных экспэдыцыяў на насельніцтва ў мясцох з партызанскім выступленьнем, пераходзіць з аружжам у руках на бок партызан—паўстаўшых рабочых і сялян

Як цяпер, так і ў часе вайны, абавязак кожнага камуніста і камсамольца—ісьці ў імпэрыялістычную армію дзеля яе раскладу, дзеля рэвалюцыйнага ахопу салдацкіх мас і стварэньня там сеткі партарганізацый. У сучасны перадваенны пэрыяд, калі камуніст ці камсамолец ня ўмее валодаць аружжам, не цікавіцца і не вывучае ваеннай справы, не падрыхтоўвае сябе і масы да збройнай рашаючай барацьбы, значыць ён не разумее ролі партыі, як баявога штабу рэвалюцыйных сіл. Армія гэта збройная прылада буржуазіі ў яе палітыцы гвалту і паняволеньня. Перад кожным камуністам і камсамольцам стаіць баявая задача выбіць гэтае аружжа з рук буржуазіі і ў рашучы момант накіраваць яго супроць эксплёататарскіх пануючых клясаў і іх улады.

Праца ў арміі самая трудная і складаная, аднача́сна самая важная і адказная і дзеля таго партыя, перамагаючы апартунізм як справа, так і зьлева, павінна напружыць ўсе высілкі, змабілізаваць усе сілы, каб разлажыць імпэрыялістычную армію—заваяваць салдацкія масы, без чаго ня можа быць перамогі пралетарыяту ў грамадзянскай вайне.

# Эканамічная барацьба і задачы прафруху на Заходняй Беларусі.

„Цяпер, больш чым калі-кольвек перад кожным рабочым, які змагаецца за павышэньне зарплаты альбо за скарачэньне рабочага дню, паўстае неабходнасьць увязкі яго штодзённай барацьбы з барацьбою супроць усей капіталістычнай сыстэмы, супроць фашыстоўскай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыяту“...

(V Зьезд КПП).

Яшчэ да выбараў у сойм прадпрыемцы ўзмацнілі наступленьне і рыхтаваліся да генэральнай атакі на рабочую клясу. У часе выбарчай кампаніі фабрыканты і фашыстоўскі ўрад аслабілі тэмп свайго наступленьня з тым, каб пасьля выбараў з яшчэ большай сілай перайсьці да наступленьня на рабочую клясу і эксплёатаванае сялянства.

Ужо зараз-жа пасьля выбараў фашыстоўскі ўрад пазбавіў беспрацоўных сэзоньнікаў пэнсіі і скараціў разьмеры пэнсый для іншых катэгорыяў. Прадпрыемцы, як у Польшчы, так і на ЗБ, перайшлі ў наступленьне па ўсім фронце: паніжаецца зарабковая плата ў Беластоку на тэкстыльнай фабрыцы Шапіра—на 20%. На шклянай гуце ў Беластоку, пачынаючы ад 1-га студзеня, ужо два разы скарацілі зарабковую плату. У Белавежы на дзяржаўных тартаках і хэмічных фабрыках зьнізілі плату на 10—15% і г. д. і г. д.

Абшарнікі па ўсей ЗБ зрываюць зарплату сельска-гаспадарчых рабочых. Эканамічны тэрар прымае ўсё больш шырокія разьмеры. Там, дзе рабочыя слаба арганізаваны, прадпрыемцы выкідваюць найбольш актыўных рабочых з прадпрыемстваў (запалкавая фабрыка ў Пінску, шкляная гута ў Беластоку і г. д.). Эканамічны тэрар злучаецца з узмоцненым палітычным тэрарам.

Прадпрыемцы праводзяць рэдукцыі, зачыняюць фабрыкі з тым, каб пасьля набіраць новых і старых рабочых за больш нізкую аплату працы.

Па ўсёй Польшчы і ЗБ праводзіцца атака на рэвалюцыйныя прафсаюзныя арганізацыі і іншыя арганізацыі рабочае клясы. У Вільні фашыстоўскі ўрад ізноў зачыніў саюзы будаўнікоў, мэталістаў, хэмікаў і пекароў. Праводзіцца фашызацыя саюзаў і падпарадкаваньне іх непасрэдна дзяржаўным уладам, (так зв. „гаспадарчыя саюзы“ і г. д.), кантроль над зборам сяброўскіх узносаў на чыгунках і г. д.

Побач з узмацненьнем тэрару супроць рэвалюцыйнага прафруху (масавае зачыненьне рэвалюцыйных прафсаюзаў) фашызм адначасна імкнецца аб'яднаць і сцэнтралізаваць усе існуючыя фашыстоўскія прафсаюзы (бебеэсаўскія, энпээраўскія, фэдэрацыя працы, т. зв. гаспадарчыя саюзы і т. п.). У гэтых адносінах асабліва паказальнымі зьяўляюцца выступленьні Марачэўскага і адозва т. зв. „рабочай“ групы паслоў ББ; сэнс гэтых выступленьняў заключаецца ў імкненьні да далейшай фашызацыі прафруху, маскаванай лёзунгам адзінства і пазаклясавасьці саюзаў. Яны маюць на мэце яшчэ больш закабаліць рабочую клясу і ператварыць яе ў сьляпую прыладу ў руках фашыстоўскага ўраду на час надыходзячай вайны, яны зьяўляюцца сыгналам генэральнай атакі на рэвалюцыйны прафсаюзны рух і ставяць перад нашай партыяй задачу рашучага здэмаскаваньня манэўраў фашызму і мабілізацыі мас для адпору наступленьню фашызму на рэвалюцыйны прафсаюзны рух.

Варункі жыцьця, як працуючых, так і беспрацоўных на ЗБ і да гэтага часу былі надзвычай цяжкія; у большасьці

галінаў прамысловасьці на ЗБ зьліквідаваны 8-гадзінны рабочы дзень. Рабочыя працуюць па 10—12 гадзін і ў шэрагу месц рабочы дзень даходзіць да 16 гадзін за галодную плату. Беспрацоўе ў ЗБ, як у горадзе, так і на вёсцы, дасягае вялізарных разьмераў. Абсалютная большасьць беспрацоўных на ЗБ не атрымлівае ніякіх дапамог. Новае наступленьне на рабочых азначае дзеля гэтага давядзеньне ўзроўня жыцьця рабочых да ўзроўня каленіяльнага нявольніка, што адпавядае ўсей акупацыйнай палітыцы польскага фашызму.

Рабочыя масы ЗБ шэрагам новых выступленьняў паказалі вялікую баяздольнасьць і гатоўнасьць да далейшай барацьбы. Аб гэтым сьведчаць выступленьні беспрацоўных у Вільні, баявыя выступленьні у Горадні, масавае баявое выступленьне беспрацоўных у Беластоку, каторыя на мітынгу каля ПУППа, на якім было прысутных звыш двух тысяч беспрацоўных, біліся з паліцыяй, абараняючы прамоўца; рашучы адпор рабочых Пінскай запалкавай фабрыкі супроць падоўжаньня рабочага дню, сутычка тэкстыльшчыкаў у Васількаве з паліцыяй, упартыя баявыя забастоўкі, барацьба супроць штрайбрэхэраў і г. д.

Баявыя выступленьні апошняга часу рабочых на Зах. Беларусі зьяўляюцца толькі авангарднымі баямі. Крызыс увесь час завастраецца. Разам з завастрэньнем крызысу расьце і беспрацоўе, пагаршаецца становішча працуючых. Нездавольства, а разам з тым і актыўнасьць рабочае клясы ўзрастае. Усё новыя атрады рабочае клясы пераконваюцца на сваім досьледзе ў тым, што няма іншага шляху, апроч рашучай барацьбы супроць капіталу і яго фашыстоўскай дыктатуры. Крызыс і наступленьне фашыстоўскага ўраду ўцягвае новыя і новыя атрады эксплёатаванага сялянства ў барацьбу супроць падатковага ярма, супроць аб шарніцкага і кулацкага закабаленьня. З разьвіцьцём крызысу руйнуюцца і шырокія дробнабуржуазныя масы гарадоў і мястэчак. З статыстычных даных гандлёва-прамысловай палаты 4-х ваяводзтваў на ЗБ (Віленскае, Беластоцкае, Навагрудзкае і Палескае ваяводзтвы) відаць, як крызыс руйнуе шырокія пласты дробнай буржуазіі. Гэты працэс руйнаваньня дробнай буржуазіі побач з цяжкім падатковым ярмом выклікае нездавольства шырокіх дробнабуржуазных мас і ўзмацоўвае іх радыкалізацыю. Такім чынам ўсё больш і больш звужваецца сацыяльная база фашызму.

Аграмадным фактарам рэвалюцыйнага значэньня зьяўляюцца посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе, якія выражаюцца ў вялічэзным росьце сацыялістычнай прамысловасьці, у поўнай ліквідацыі беспрацоўя, у аграмадным росьце сацыялістычнага земляробства — рост совхозаў і колхозаў—і ў аграмадным росьце культурнага разьвіцьця сацыялістычнай краіны. Ленінская нацыянальная палітыка выклікала нябачаны ў гісторыі гаспадарчы і культурны рост ўсіх пры царызме прыгнечаных і цяпер свабодных нацыянальнасьцяў. Аднача́сна з ростам сацыялістычнага будаўніцтва паляпшаецца ўсё больш і больш жыцьцёвы зровень працоўных мас СССР і БССР.

У сувязі з радыкалізацыяй мас і ростам рэвалюцыйнага руху, усё больш узмацняюцца і абвастраюцца формы барацьбы пануючых клясаў, для таго каб зламаць барацьбу рабочае клясы і эксплёатаванага сялянства. Адгэтуль адзіны фронт усяго фашыстоўскага лягеру (да сацыял-фашызму ўключна) супроць усялякіх выступленьняў працоўных мас.

* * *

Прадпрыемцы, фашыстоўскі дзяржаўны апарат, фашыстоўскія і сацыял-фашыстоўскія профбюракраты прымаюць супроць рабочае клясы ўсялякія камбінаваныя мерапрыемствы з мэтай разьбіць іх барацьбу. Якая тактыка фашыстоўскага лягеру ў барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху? Ці маецца ў асноўным якая-небудзь прынцыповая зьмена ў яго тактыцы? Не, прынцыповых зьмен няма, ёсьць толькі зьмена спосабаў ужываньня старой, выпрабаванай тактыкі ўсяго контррэвалюцыйнага руху усіх часоў. Гэтая тактыка складаецца з двух частак: тэрар і раздрабленьне руху.

„Чым мацней разгортваецца рабочы рух—гаворыць Ленін—тым больш шалёнымі бываюць спробы буржуазіі і крэпастнікоў здушыць альбо разьбіць яго. Абодвы гэтыя прыёмы, здушэньне гвалтам і раздрабленьне буржуазным уплывам, практыкуюцца пастаянна ва ўсім сьвеце, ва ўсіх краёх, прычым то адзін, то другі прыём высоўваецца на чаргу рознымі партыямі пануючых кляcaў". Досьлед барацьбы ва ўсей Польшчы і ЗБ цалкам сьцьвярджае сказанае Леніным. Тактыка фашыстоўскага ўраду, прадпрыемцаў і іх агентаў у рабочай клясе, — сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх профбюракратаў, пабудавана на паліцэйскім тэрары, на сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх баёўках, на штрайкбрэхерстве, на прымусовым арбітражы, на эканамічным тэрары, на распальваньні нацыянальнай розьні, антаганізму паміж працуючымі і беспрацоўнымі, на нацкоўваньні рабочых супроць эксплёатаванага сялянства і г. д. і г. д. Каб адцягнуць увагу рабочых ад галоўнага — ад барацьбы супроць фашыстоўскага ўраду, рэнэгат Богдан расказвае рабочым у Беластоку, што беспрацоўным жывецца ня кепска, а сацыял-фашыст Фэйгін раіць ім зьвярнуцца да ваяводы, каб апошні папрасіў фабрыканта пусьціць фабрыку, што, быццам, няверна, што ёсьць крызыс,— досыць, каб толькі ваявода ўмяшаўся ў гэтую справу, і фабрыкі пачнуць працаваць. ББС стараецца ўгаварыць рабочых, што адзінай прычынай крызысу зьяўляецца савецкі „дэмпінг", а абшарнік у Горадзенскім павеце патрабуе ад батракоў паніжэньня зарплаты, бо ён (абшарнік) „церпіць ад савецкага дэмпінгу". У розных мясцох выступаюць розныя супольныя удзельнікі адзінага контррэвалюцыйнага фронту. У Вільні актыўна выступае ППС, а ў Беластоку галоўную ролю ў барацьбе супроць рэвалюцыйнага руху выконваюць ППС і Бунд. Але ўсюды мэты аднолькавыя—ратаваць панаваньне капіталістаў і абшарнікаў, ізаляваць камуністычную партыю ад мас, абязглавіць рух мас.

* * *

Але гэта ім не ўдалося—наша партыя дабілася на падставе правільнай лініі адчувальных посьпехаў у справе замацаваньня сваіх шэрагаў за кошт пралетарскіх элементаў. Лік рабочых у партыі павялічыўся больш чым у два разы. Вырасла рабочая праслойка ў партыі з буйных і рашаючых прадпрыемстваў. Партыя палепшыла сваё кіраўніцтва эканамічнай барацьбой рабочае клясы ЗБ. Лік стыхійных забастовак зьменшыўся, павялічыўся лік забастовак, кіраваных праз партыю. Партыя наша ў асноўным стаяла на чале руху беспрацоўных.

Але ўсе гэтыя посьпехі нязначны ў параўнаньні з тымі аграмаднымі задачамі, якія стаяць перад нашай партыяй і перад усім пралетарыятам ЗБ, якая будзе зьяўляцца пляцдармам вайны з СССР. Пралетарыят павінен ўзмацніць сваю кіруючую ролю ў барацьбе працоўных мас супроць інтэрвэнцыі, барацьбе сялянскіх мас і ў нацыянальна-вызваленчым руху акупаванай ЗБ. Але кіруючая роля пралетарыяту ўзрастае па меры разьвіцьця сваёй уласнай штодзённай барацьбы, па меры росту сьвядомасьці і арганізаванасьці пралетарыяту, пры злучэньні на практыцы барацьбы пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства. Нашы партыйныя арганізацыі менавіта гэты бок справы ў сваёй практычнай штодзённай працы недаацанілі. Кіраўніцтва барацьбой за штодзённыя патрэбы пралетарскіх мас надзвычайна слабае. Большасьць забастовак на ЗБ ня была загадзя падрыхтавана і арганізавана нашай партыяй. У большасьці выпадкаў партарганізацыі прыходзілі тады, калі забастоўка ўжо адбывалася.

Невыстарчальная падрыхтоўка забастовак была і зьяўляецца аднэй з асноўных прычын іх раздробленасьці. Па нашых падліках, з 23 забастовак толькі адна ахапіла 250 рабочых, 2 ахапілі па 200, 2 па 150, 4 па 100 і астатнія— менш 100. З гэтых даных відаць, што самы вялікі ахоп, за выняткам палітычных забастовак у Беластоку і Вільні, не перавышаў 250 рабочых. Несвоечасовая падрыхтоўка мас да забастовак, слабая падрыхтоўчая праца альбо поўная адсутнасьць працы, прыводзіць да таго, што клясавы вораг у большасьці выпадкаў яшчэ дыктуе і час,

і ўмовы бою. Не падрыхтаваўшы загадзя масы, яшчэ перад выступленьнем, трудна, а ў шэрагу выпадкаў і немагчыма пераходзіць у контрнаступленьне, а гэта галоўнае, чаго партыйныя арганізацыя і рэвалюцыйны прафсаюзны рух яшчэ ня ўмеюць.

Большасьць забастовак на ЗБ былі баявымі, упартымі. Але партыя і рэвалюцыйны прафрух яшчэ недастаткова зрабілі для таго, каб шляхам масавых выступленьняў змагацца супроць тэрару фашыстоўскага апарату, розных баёвак і супроць эканамічнага тэрару прадпрыемцаў.

І ў апошніх выступленьнях беспрацоўных, ня гледзячы на тое, што партыя на гэтым вучастку паказала шмат большую бояздольнасьць і своечасовасьць чыннасьці, назіраюцца тыя-ж недахопы, тыя-ж хібы: невыстарчальны ахоп мас беспрацоўных, невыстарчальная падрыхтоўка і арганізацыя масавых выступленьняў.

Асноўная прычына нашай слабасьці крыецца ў невыстарчальнай сувязі партыйных арганізацый і рэвалюцыйных прафарганізацый з масамі, асабліва з рабочымі масамі буйных і рашаючых прадпрыемстваў і галінаў прамысловасьці. Гэтая адарванасьць ад мас зьяўляецца вынікам невыстарчальнага зразуменьня партыйнымі арганізацыямі бальшавіцкай тактыкі ў галіне кіраўніцтва непасрэднай барацьбой мас і ў невыстарчальным ўразуменьні арганізацыйнай палітыкі партыі.

Адгэтуль шматлікія права-апартуністычныя і „лева"-апартуністычныя (сэктанцкія) памылкі па лініі кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас.

Гэтыя памылкі выявіліся ў недаацэнцы значэньня самастойнага кіраўніцтва штодзённай барацьбой мас, у легалісцкіх настроях („нельга арганізоўваць масы ў прафсаюзы, ня маючы легалізацыі, нельга скінуць бундаўскага сэкратара, бо інакш зачыняць саюз" і г. д. і г. д.), у незразуменьні контррэвалюцыйнай ролі сацыял-фашыстаў (адмаўленьне нашых таварышоў ад выступленьня супроць бярэсьцейскага „мучаніка", пепеэсаўца у Белавежы, тэорыі, што сацыял-фашыстам можна давяраць кіраўніцтва забастовачнай барацьбой), у наяўнасьці ілюзіяў у адносінах да Бунду, у эканамізме („трэба займацца толькі эканамічнай барацьбой, нам не патрэбен партком, нам патрэбен профадзел, каб працаваць у саюзах" і г. д.), у нявер'і ў масы (на фабрыцы, дзе працуе 600 чалавек, усе рабочыя, быццам, падабраны фабрыкантам і таму нельга працаваць сярод іх, на фабрыцы, быццам, большасьць канфідэнтаў—агентаў дэфэнзывы і г. д.); у слабым правядзеньні адзінага фронту зьнізу і часамі непрызнаваньні яго (дырэктывы N-ага АК аб тым, што ў камітэты беспрацоўных трэба ўводзіць толькі нашых „сымпатыкаў", у слабай, мізэрнай сетцы камітэтаў барацьбы, камітэтаў беспрацоўных); у няправільным, сэктанцкім адношэньні да масавых арганізацый, у падмене камандваньнем кіраўніцтва імі і г. д.; у незразуменьні асаблівага значэньня на даным этапе барацьбы шырокай сеткі дружын масавай самаабароны, у незразуменьні неабходнасьці мабілізацыі і арганізацыі мас у барацьбе супроць фашыстоўскага тэрару, у барацьбе за вуліцу, у барацьбе супроць тэрару прадпрыемцаў, супроць штрайкбрэхерства, атак паліцыі, шпіёнаў, фашыстоўскіх і сацыял-фашыстоўскіх банд.

Варункі працы на ЗБ цяжкія. З аднаго боку, самы люты тэрар, з другога боку, вялікая распарушанасьць пралетарыяту. Па афіцыйных даных лік рабочых у прадпрыемствах апрацоўчай прамысловасьці, на якіх працуе звыш 20 рабочых (без чыгуначных майстэрняў, фабрык амуніцыі і электрастанцый), у чатырох заходня-беларускіх ваяводствах у верасьні 1928 году складаў 21.410 (год частковай стабілізацыі і месяц максымальнага сэзоннага ажыўленьня ў апрацоўчай прамысловасьці). У апошнія гады паглыбленьня крызысу лічба гэтая рэзка падае: у верасьні 1929 г. да 19.208 (скарачэньне на 10%), а ў верасьні 1930 г. да 17.956 (скарачэньне на 16%); у зімнія-ж месяцы лік рабочых яшчэ больш скарачаецца (так напрыклад, у студзені 1930 г. толькі 15.807—скарачэньне на 27%). Усяго па ўсіх 4-х ваяводствах налічваецца 41 прадпрыемстваў з колькасьцю рабочых больш 100 чалавек. Самыя буйныя

прадпрыемствы на ЗБ лічаць ня больш, чым 500—600 чалавек.

Старыя кадры пралетарыяту на ЗБ скараціліся; лік тэкстыльных рабочых у Беластоку на прадпрыемствах, маючых больш чым 20 чалавек, скараціўся ў 1928 г. да 56,7% (калі прыняць лік рабочых у 1914 г. за 100) і ў 1929 г. да 44,1% (з 6.500 у 1914 г. да 3.704 у 1929 г.). У гарбарнай прамысловасьці лік рабочых на прадпрыемствах, на якіх працуе звыш 20 чал., у 1929 г. скараціўся ў Вільні да 13% (прымаючы 1929 г. за 100); у Крынках скарачэньне яшчэ большае, агульны лік 2.000 рабочых панізіўся прыкладна да 200); Смаргонь зусім перастаў адыгрываць ролю цэнтра гарбарнай прамысловасьці. Крыху лепей у Беластоку. Ва ўсім Беластоцкім ваяводзтве колькасьць рабочых у гарбарнай прамысловасьці панізілася да 24,4%. Новыя галіны прамысловасьці і разьвіваючыяся ў гады высокай кан'юнктуры старыя кансэрвовыя фабрыкі, дрэваапрацовачная прамысловасьць, тартакі і г. д., уцягнулі танную рабочую сілу з вёсак, якая яшчэ невыстарчальна зьвязана з прадпрыемствамі, але і гэтыя прадпрыемствы, асабліва тартакі, у апошні час масава зачыняюцца і скарачаюць рабочых.

Пралетарыят ЗБ належыць да розных нацыянальнасьцяў (палякі, яўрэі, беларусы, украінцы, невялікі працэнт літоўцаў і ў Беластоку немцаў), што стварае пры невыстарчальнай працы партыі спрыяючы грунт для нацыяналістычнай дэмагогіі ворагаў пралетарыяту (фашыстаў, сацыял-фашыстаў і клеру).

Гэтыя аб'ектыўныя варункі на ЗБ у значнай меры аблягчаюць работу сацыял - фашыстоўскіх і фашыстоўскіх профбюракратаў. Гэтыя-ж варункі жывяць „левы“ і правы апартунізм у нашай партыі. Адгэтуль асноўнай задачай на даным этапе, асноўным першым варункам для прысваеньня партыяй бальшавіцкай тактыкі, зьяўляецца рашучая барацьба супроць правага і „левага“ апартунізму — барацьба на два фронты. Самакрытыка, сталая самаправерка, улічваньне маючагася ўжо досьледу, улічваньне памылак і дасягненьняў, прысваеньне генэральнай лініі партыі, зьяўляецца асноўным варункам дзеля лепшага кіраўніцтва і арганізацыі барацьбы мас. Бо нельга весьці барацьбу за масы з сацыял-фашыстоўскімі і фашыстоўскімі прафбюракратамі без энэргічнейшай барацьбы супроць апартунізму ў нашых уласных шэрагах.

Ці была выстарчальнай барацьба нашых партыйных арганізацый за масы, асабліва за масы ў рашаючых галінах прамысловасьці, з сацыял-фашыстоўскімі і фашыстоўскімі профбюратамі? Не, гэтая барацьба дагэтуль была вельмі слабай. Менавіта ў прафсаюзнай працы нашы арганізацыі шлі па лініі найменшага супраціўленьня. Аб гэтым гавораць даныя аб становішчы прафсаюзаў у Зах. Беларусі (лічбы ўзяты з справаздачы партыйных арганізацый аб становішчы прафруху на ЗБ да студзеня 1931 г.).

У 73 саюзах намінальная (па рэгістрацыі, а не па ўплаце членскіх узносаў) колькасьць дасягае 14.508, што складае ў сярэднім па 200 членаў на саюз, а ў маючыхся 25 рэвалюцыйных саюзах налічваецца намінальная колькасьць членаў толькі 2.239, што выходзіць у сярэднім па 89 членаў на саюз, г. ё. менш паловы агульнай нормы (сюды не ўваходзяць тыя саюзы, у якіх маюць уплыў рэвалюцыйныя рабочыя, але на чале якіх стаяць рэнэгаты). Калі нават прылічыць гэтых 6 саюзаў з 1.100 членамі, дык тады сярэдні лік членаў рэвалюцыйных саюзаў будзе ня больш 108 чал., г. ё. палова гэтай нормы).

Аб чым гавораць лічбы? Яны гавораць, што рэвалюцыйны прафрух ахоплівае вялікую колькасьць прафсаюзаў з адносна малым лікам рабочых, што нашыя партарганізацыі і рэвалюцыйныя прафсаюзныя дзеячы ідуць па лініі найменшага супраціўленьня ў барацьбе за масы рашаючых галінаў прамысловасьці. Пры бліжэйшым аналізе гэтых лічбаў кідаецца ў вочы, што рэвалюцыйны прафрух у Заходняй Беларусі ахоплівае амаль выключна рабочых дробнай прамысловасьці. Сацыял-фашысты заселі ў прафсаюзны саюзах чыгуначнікаў, камунальнікаў, тэкстыльшчыкаў, часткова сярод сельска-гаспадарчых рабочых і г. д. Аб гэтым сьведчаць і лічбовыя даныя аб

ППСаўскіх саюзах. ППС на 16 саюзаў мае 4.040 чал., г. ё. у сярэднім 250 членаў на саюз проціў сярэдняга ліку 89 у рэвалюцыйных саюзах.

Аб недаацэнцы нашымі партыйнымі арганізацыямі працы ў рэакцыйных (сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх) саюзах сьведчыць нялічнасьць профапазацый. На 48 рэакцыйных саюзаў маецца толькі 6 арганізаваных профапазыцый, налічваючых 169 членаў. Гэтая арганізацыйная слабасьць нашай партыі ў прафруху знаходзіцца ў вострым разыходжаньні з узмацоўваючымся палітычным уплывам нашай партыі, аб якім гаворыць увесь досьлед апошніх кампаній.

Агульнае становішча ў краі, рост актыўнасьці мас, рост палітычнага давер'я мас да партыі, з аднаго боку, і слабасьць работы партыі ў прафруху —з другога, дыктуюць КПЗБ, усім яе арганізацыям, неабходнасьць неадкладнага пераломy ў галіне кіраўніцтва штодзённай барацьбой рабочае клясы ЗБ і ў галіне ўзмацненьня і пашырэньня рэвалюцыйных пралетарскіх арганізацый.

Што зьяўляецца цэнтральным зьвяном, за што партыя павінна ўхапіцца, каб зрабіць гэты перапом? II пленум КПП указвае на гэтае цэнтральнае зьвяно,— гэта „барацьба супроць шалёнага наступленьня капіталу, вакол тых штодзённых патрэбаў і дамаганьняў, якія высоўваюцца варункамі голаду, нэндзы і беспрацоўя". Адбіць наступленьне капіталістаў можна толькі шляхам штодзённай і ўпорлівай працы ў масах, шляхам іх арганізацыі, шляхам узьняцьця палітычнага ўзроўня мас. Рашаючае значэньне мае і своечасовая падрыхтоўка контр - наступленьня, папярэджаньне атакі прадпрыемцаў. Гэта, як мы ўжо адзначылі вышэй, яшчэ не ўсьвядомлена нашымі арганізацыямі. Забастоўкі і іншыя выступленьні рабочых невыстарчальна падрыхтоўваюцца нашай партыяй і рэвалюцыйным прафрухам. Некаторыя нашы партарганізацыі чакалі, пакуль адміністрацыя „вывесіць сьпіскі" рэдукаваных, альбо чакалі з прадяўленьнем дамаганьняў, пакуль прадпрыемца не пачынаў наступленьне, замест таго, каб заўчасна арганізаваць барацьбу мас, вывесьці масы на забастоўку, на вуліцу і г.д.

Асноўнае ў тактыцы партыі — гэта арганізацыя адзінага фронту барацьбы мас, правільнае ўжываньне тактыкі адзінага фронту зьнізу. Для гэтага неабходна ўлічыць канкрэтнае становішча кожнай мясцовасьці, улічыць настрой мас, улічыць тое, што асабліва ўзбурае рабочых у даны момант, у данным месцы, у ходзе барацьбы зьвязаць патрабаваньні мас з агульна-клясавымі задачамі пралетарыяту, з актуальнымі лёзунгамі партыі. Уцягнуць шырачэзныя масы ў барацьбу можна толькі на грунце тых патрабаваньняў, якія асабліва актуальны і папулярны ў масах. Выставіць дамаганьні, якія-б найбольш захаплялі рабочых, можна толькі, будучы пастаянна зьвязанымі з масамі, маючы жывую сувязь з фальваркамі, майстэрнямі, маёнткамі, з беспрацоўнымі.

Сапраўды актывізаваць рабочых у барацьбе можна толькі тады, калі кожны ўдзельнік яе будзе ведаць, за што ён змагаецца, будзе ведаць мэту данай барацьбы, і калі пераважаючая большасьць будзе гатова змагацца за данныя патрабаваньні, будзе лічыць іх сваімі. Гэтага партыйныя арганізацыі змогуць дасягнуць толькі праз прапрацоўку патрабаваньняў у масах на сходах, мітынгах, на канфэрэнцыях. Патрабаваньні гэтыя павінны быць папулярызаваны праз адпаведныя ўлёткі, фабрычныя і іншыя газэткі, праз індывідуальную агітацыю і ў гутарках з групамі рабочых.

Партыя і рэвалюцыйны прафрух павінны змагацца за сапраўдную рабочую прафсаюзную дэмакратыю. Яны павінны змагацца супроць усялякіх закулісных шахрайстваў верхавін. З далейшым разьвіцьцём крызысу і рэвалюцыянізаваньнем шырокіх рабочых мас сацыял-фашыстоўскія і фашыстоўскія бюракраты будуць усё ў большай ступені ўжываць усялякія закулісныя шахрайствы. Бліжэйшая задача партыйных арганізацый—сыстэматычна дэмаскаваць перад масамі гэтыя махінацыі. Мы павінны дамагацца, і ўсюды, дзе маем хоць малейшую магчымасьць, праводзіць ў жыцьцё выбарнасьць усіх прафорганаў і ворганаў барацьбы мас самімі масамі.

Члены партыі і рэвалюцыйныя рабочыя павінны ўваходзіць ва ўсе ворганы барацьбы, абраныя самімі масамі, нават калі яны будуць у меншасьці. Задача рэвалюцыйных рабочых, якія ўваходзяць у гэтыя ворганы барацьбы,—стала сыстэматычна дэмаскаваць дзеяньні прафбюракратаў перад масамі, стала выкрываць перад масамі кожны найдрабнейшы факт здрадніцтва сацыял-фашыстоўскіх і фашыстоўскіх прафбюракратаў і ўвесь час накіроўваць усю сваю дзейнасьць у бок самастойнага кіраўніцтва штодзённай барацьбой рабочых за іх пільныя патрэбы. Усе прапановы рэвалюцыйных рабочых павінны быць неадкладна перанесены ў масы для іх абгаварэньня і для мабілізацыі мас на барацьбу пад кіраўніцтвам рэвалюцыйнага прафруху.

Неабходна ў ходзе барацьбы вывучаць сілы супраціўнікаў. Трэба выкарыстаць усялякае нездавольства, усялякую супярэчнасьць паміж сацыял-фашыстоўскімі і фашыстоўскімі прафбюракратамі і той масай, якая ідзе за імі. Галоўнае — дапамагчы рабочым, каб яны на сваім уласным досьледзе канчаткова пераканаліся ў здрадніцтве сваіх правадыроў. Арганізацыя адзінага фронту зьнізу—асноўная тактычная задача на даным этапе, без правільнага ўжываньня якой нельга будзе завяваць большасьць рабочае клясы.

Галоўным у мастацтве нашай тактыкі частковых баёў на ЗБ павінна стаць: актывізацыя ўжо ўцягнутых у барацьбу мас і ўцягваньне праз іх новых і новых атрадаў рабочае клясы. Аб'ядналньне барацьбы арганізаваных і неарганізаваных, працуючых і беспрацоўных. Уцягваньне новых атрадаў рабочых не павінна праходзіць па шаблёну. Паасобныя атрады можна ўцягнуць на грунце забастоўкі салідарнасьці бяз высоўваньня для іх асаблівых дамаганьняў, а ў іншых мясцох уцягваньне новых атрадаў павінна будзе праходзіць побач з пашырэньнем дамаганьняў, высоўваньнем для іх паасобных дамаганьняў.

Ў часе разьвіваючагася крызысу і ўздыму рэвалюцыйнага настрою рабочых мас, адна з важнейшых задач партыі—завастраць барацьбу. Як правіла, у даны момант для таго, каб выйграць частковы бой (забастоўка, лёкаут, барацьба беспрацоўных), патрэбна злучаць розныя формы барацьбы. Важнейшае ў даны момант—баявы характар кожнай частковай сутычкі. Зламаць фашыстоўскія перагароды, мабілізаваць і арганізоўваць барацьбу супроць фашыстоўскага тэрару. Для гэтага трэба стала і сыстэматычна зьбіраць рабочых, выводзіць рабочых на вуліцу, арганізоўваць дэманстрацыі, арганізоўваць барацьбу супроць штрайкбрэхэрства, супроць фашыстоўскіх банд, шпікоў, канфідэнтаў і г. д. Асноўным варункам для ўбаяўленьня барацьбы мас зьяўляецца арганізацыя дружын масавай самаабароны.

Трэба арганізоўваць масавыя палітычныя забастоўкі, як вышэйшую форму барацьбы, злучаючы іх з эканамічнымі. Дырэктыва, дадзеная X пленумам ВККІ, што „у пэрыяд упорлівых эканамічных забастовак і бурных выступленьняў беспрацоўных палітычная забастоўка зьяўляецца адным з магутнейшых сродкаў для палітычнай мабілізацыі мас і іх набліжэньня да непасрэднай барацьбы за дыктатуру пралетарыяту“— павінна быць зьдзейсьнена нашай партыяй. Досьлед палітычнай забастоўкі ў Беластоку ў зьвязку з галадоўкай у турме, сцьвярджае слушнасьць гэтай тактыкі. Неабходна аб'яднаць барацьбу і выступленьні пралетарскіх мас з барацьбой эксплёатаваных сялян. Гэтае злучэньне, адначасовасьць дзействаў двух рашаючых сіл рэвалюцыі, накіраваньне вастрыя барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры—першарадныя палітычныя задачы партыі.

* * *

У чым павінны заключацца асноўныя задачы партыі і рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху па лініі арганізацыйнага ахопу мас? Неабходна ў першую чаргу арганізацыйна ахапіць буйныя і рашаючыя прадпрыемствы на ЗБ, у першую чаргу тыя 4 дзясяткі прадпрыемстваў, на якіх маецца звыш 100 рабочых на кожным, здабываючы тэкстыльны пралетарыят, чыгуначнікаў, сельска-гаспадарчых рабочых, беспрацоўных.

Трэба арганізаваць шырокую сетку выбарных ворганаў адзінага фронту барацьбы мас на прадпрыемствах, у маёнтках, сярод беспрацоўных (сярод розных груп беспрацоўных па вытворчаму прынцыпу, па месцу жыхарства і г. д., улічваючы мясцовыя варункі). У гэтыя камітэты трэба ўцягваць рабочых — камуністаў, пэпээсаўцаў, бундаўцаў, энпеэраўцаў, хадэкаў, пэцэкаў і беспартыйных рабочых, якія гатовы змагацца разам з намі супроць здрадніцтва сацыял-фашыстэўскіх і фашыстоўскіх прафбюракратаў.

На даным этапе галоўнае зьвяно ў справе арганізацыі рэвалюцыйнага прафруху зьяўляецца стварэньне груп прафлявіцы, што да гэтай пары ня было зроблена нашымі арганізацыямі. Іх патрэбна арганізаваць на прадпрыемствах, сярод беспрацоўных у маёнтках, у майстэрнях. У гэтыя групы трэба ўцягваць неарганізаваных рабочых, рабочых з профапазыцый рэакцыйных прафсаюзаў і членаў рэвалюцыйных прафсаюзаў. Там, дзе на прадпрыемстве маюцца члены рэвалюцыйных прафсаюзаў, яны павінны быць ініцыятарамі арганізацыі груп прафлявіцы. Кожная група прафлявіцы павінна абіраць свой кіруючы орган — камітэт прафлявіцы.

Неадкладна трэба арганізаваць рознымі шляхамі ў рэакцыйных саюзах, асабліва ў саюзах рашаючых галінаў прамысловасьці, прафапазыцыі для барацьбы за масы і для самастойнага кіраўніцтва барацьбой рабочых рашаючых галінаў прамысловасьці.

Асноўны курс партыі павінен быць не на павялічэньне ў чым бы то ня было ліку дробных рэвалюцыйных па назве прафсаюзаў, а па сутнасьці мала адрозьніваючыхся ў сваёй дзейнасьці ад іншых прафсаюзаў, а якасна палепшыць іх працу. Рэвалюцыйныя саюзы павінны стаць сапраўды баявымі арганізацыямі. Яны павінны арганізаваць штодзённую барацьбу працуючых і беспрацоўных, арганізаваных і неарганізаваных рабочых; на гэтым грунце ўцягнуць у свае шэрагі новыя і новыя масы, абапіраючыся непасрэдна на прадпрыемствы.

Неабходна цэнтралізаваць рэвалюцыйны прафрух праз абраных на канфэрэнцыях камітэтаў па галінах прамысловасьці (вертыкальна) і па гмінах, раёнах, гарадох, акругах і г. д. (пазёмна).

Трэба ў корані зьмяніць адносіны да масавых арганізацыяў. Побач з узмацненьнем кіраўніцтва масавымі арганізацыямі трэба змагацца супроць усялякага роду дробнага апякунства, занядбаньня, недаацэнкі масавых арганізацый. Партыйныя арганізацыі павінны накіраваць сваю працу так, каб уцягнуць у абгаварэньне і апрацоўку ўсіх пытаньняў жыцьця і дзейнасьці масавых арганізацый шырокія членскія масы гэтых арганізацый. Трэба змагацца супроць ажыцьцяўленьня паасобнымі асобамі розных мерапрыемстваў ад імя тых альбо іншых арганізацый, бяз ведама і абгаварэньня гэтымі арганізацыямі альбо іх кіруючымі органамі. Таксама недапушчальна выданьне ўлётак і газэтак паасобнымі асобамі ад імя даных масавых арганізацый бяз іх ведама і ўдзелу, бо гэта ўсё забівае ініцыятыву даных арганізацый.

Галоўнае пры даным стане рэвалюцыйнага прафруху—сьмела, рашуча вылучаць з нізоў шырокі прафсаюзны кіруючы актыў як партыйны, так і беспартыйны. Гэты актыў можна ствараць і апрацоўваць пры дапамозе сьмелага ўцягваньня беспартыйных рэвалюцыйных рабочых ува ўсе нізавыя і цэнтралізаваныя кіруючыя органы прафруху. Гэты актыў павінен выхоўвацца ў барацьбе. Кожная забастоўка, кожнае выступленьне павінна быць прадмэтам самакрытыкі і самаправеркі. Досьлед больш значных акцый, як у Польшчы, так і на ЗБ, павінен стаць прадмэтам вывучэньня ўсяго актыву. Неабходна выдаваць спэцыяльную прафлітэратуру для актыву (аб стратэгіі і тактыцы барацьбы і г.д.). Мэтазгодна арганізоўваць паасобныя гурткі дзеля вывучэньня прафсаюзных пытаньняў. Барацьба супроць правага апартунізму і сэктанцтва, самакрытыка, павінны стаць магутным аружжам палітычнага выхаваньня актыву.

П. Корчык.

# Вузлавы пункт нашай працы ў вёсцы.

Мы знаходзімся перад пачаткам магутнага ўздыму рэвалюцыйнай барацьбы ў вёсцы. Цэлы шраг фактаў вострых выступленьняў сялянскіх мас супроць падатковага ярма, фашыстоўскай зямельнай палітыкі, супроць абшарніцка-кулацкай эксплёатацыі, супроць фашыстоўскага тэрару і нацыянальнага ўціску, выразна гавораць аб гэтым. Гэтыя выступленьні, якія накіраваны ня толькі супроць абшарнікаў і кулакоў, але і супроць усей сыстэмы фашыстоўскай дыктатуры, ахопліваюць усё больш шырокія масы і маюць месца нават у найбольш глухіх мядзьведжых кутках Заходняй Беларусі.

Гэтыя выступленьні сьведчаць аб глыбокім працэсе дыфэрэнцыяцыі ў заходня-беларускай вёсцы, аб абвастрэньні клясавай барацьбы ў ёй. Фашыстоўская прэса, апэруючы перадусім сфабрыкаванымі вынікамі выбараў у Заходняй Беларусі, стараецца ўпэўніць заграніцу і перадусім шырокія масы ў Польшчы, што ў выніку ўсей палітыкі фашыстоўскай дыктатуры ў заходня-беларускай вёсцы адбыўся востры пералом у бок адыходу мас ад рэвалюцыйнай барацьбы, у бок падтрыманьня фашыстоўскай акупацыі. Былы пепеэсавец Голувка, спэцыяліст у душэньні рэвалюцыйнай барацьбы ў Зах. Беларусі, выступаючы у сойме, цьвердзіў што праводзючаяся ўсіленым тэмпам пасьля майскага перавароту парцэляцыя, камасацыя і ліквідацыя сэрвітутаў, ваеннае дарожнае будаўніцтва, стварэньне сеткі кулацка-асадніцкіх гаспадарчых арганізацый і сельска-гаспадарчай каапэрацыі, павялічэньне ў некалькі разоў крэдытаў, якія вызначаны для абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў— вырашылі перамогу фашыстоўскай дыктатуры ў мінулых выбарах, што гэтыя мерапрыемствы спрыялі стварэньню ў Заходняй Беларусі „новага псыхолёгічнага тыпу селяніна-гаспадара, які сядзіць на ўласным кавалку зямлі“, селяніна-гаспадара „заходняй культуры“, які вызваліўся ад уплыву маскоўскага камунізму.

Фашыстоўскай дыктатуры вышэйпаказанымі мерапрыемствамі сапраўды ўдалося ўзмацніць кулацкую праслойку ў Заходняй Беларусі, што было асноўнай прадпасылкай узмацаваньня саюзу беларускага нацыянал-фашызму з польскім фашызмам і яго актывізацыі па барацьбе з рэвалюцыйным рухам у Зах. Беларусі, а таксама ў справе падрыхтоўкі і арганізацыі вайны супроць СССР. Але ў выніку менавіта гэтых мерапрыемстваў, якія ўзмацоўваюць клясу абшарнікаў і кулакоў, паскораным тэмпам адбываецца паўпэрызацыя сялянскай беднаты і серадняцтва, абвастрэньне зямельнага голаду ў вёсцы, страшэнны рост запазычанасьці і недаімак, узмацненьне залежнасьці эксплёатаванага сялянства ад абшарнікаў, кулакоў і асаднікаў, узмацненые кабальнай эксплёатацыі сельска-гаспадарчага пралетарыяту і мас сялянскай беднаты. У выніку гэтай палітыкі павялічваецца з кожным днём мільённая армія беспрацоўных у вёсцы, якія пазбаўлены месца ў працэсе вытворчасьці.

Паглыбленьне гаспадарчага крызысу, у першую чаргу аграрнага, які ўсім цяжарам кладзецца на плечы сельска-гаспадарчага пралетарыяту і эксплёатаванага сялянства, яшчэ больш прысьпяшае працэс дыфэрэнцыяцыі ў вёсцы; руіна ўсё больш ахоплівае ня толькі масы вясковай беднаты, але і самыя шырокія пласты серадняцтва. Падаткі, павіннасьці і квотніцтва—гэтая асноўная форма эксплёатацыі капіталам сялянскіх мас—страшэнна ўзрастаюць з кожным годам. Дзеля выплаты падаткаў, недаімак, пазычак і працэнтаў па іх, сялянская бедната і серадняцтва, у

выніку амаль поўнай адсутнасьці якіх-небудзь заробкаў, прымушаны выкідваць на рынак увесь мізэрны ўраджай са сваіх карлікавых і адсталых гаспадарак і паніжаць да галоднай нормы свой жыцьцёвы зровень. Вялікае паніжэньне цэн як на збожжавыя прадукты, гэтак і на тавары жывёлагадоўлі, уплывае яшчэ больш востра ў гэтым напрамку і ставрае асабліва спрыяючыя ўмовы для закабаленьня эксплёатаваных мас сялянства і разгула квотніцтва. Падатковы націск змушае серадняцкія і асабліва-ж бядняцкія масы прадаваць свой хлеб па нізкіх ценах з тым, каб пасьля купляць гэты-ж хлеб па ўзвінчаным высокім цэнам ад кулакоў, абшарнікаў і спэкулянтаў. Адначасна ўсьцяж растуць цэны на артыкулы першай патрэбы (запалкі, нафта, соль і інш.), як вынік высокіх картэльных цэнаў пры монополістычным характары капіталу. У гэтых варунках недаяданьне, распродажа жывога і мёртвага інвэнтару, нават ў гады адносна добрых ураджаяў, зьяўляецца пастаянным зьявішчам сярод асноўных мас эксплёатаванага сялянства Зах. Беларусі; неўраджаі-ж, якія робяцца ўсё больш частымі і зьяўляюцца ў першую чаргу вынікам узрастаючага руйнаваньня мас, прымаюць разьмеры галоднай катастрофы, як гэта мела месца ў апошнія гады ў паўночна-усходняй частцы Зах. Беларусі.

Якую ролю адыгрывае ў справе руйнаваньня шырокіх мас сялянства ўсё ўзрастаючае падатковае ярмо, якое патрэбна фашыстоўскай дыктатуры ў першую чаргу дзеля арганізацыі вайны супроць СССР, дзеля ўтрыманьня фашыстоўскай акупацыі ў паняволеных ЗБ і Заходняй Украіне, дзеля барацьбы з усё ўзрастаючым рэвалюцыйным рухам ва ўсей Польшчы, сьведчаць наступныя даныя, узятыя намі з справаздачы Віленскай Гандлёва-Прамысловай Палаты за 1929 г. аб гаспадарчай сытуацыі ў Заходняй Беларусі.

Сума паступленьняў дзяржаўных беспасрэдных падаткаў ўзрастае з году ў год:

1926/27 г. — 44.788.000 — 100%
1927/28 г. — 54.838 000 — 122%
1928/29 г. — 60.976.000 — 134% *)

Сума беспасрэдных падаткаў на аднаго жыхара ў 1928/29 г. узрасла ў параўнаньні з 1911 г. на 310%. Да гэтага неабходна яшчэ дадацьаграмадную колькасьць падаткаў, якія накладаюцца мясцовымі самаўрадамі, разьмеры якіх часта перавышаюць суму дзяржаўных падаткаў (так напрыклад, у Дзісьненскім павеце ў мінулым годзе мясцовыя падаткі перавышалі ў тры разы дзяржаўныя).

Пры ўзрастаючай паўпэрызацыі працоўных мас сялянства ў шпаркім тэмпе ўзрастаюць недаімкі; так напрыклад, сума недаімак, ня лічучы недаімак па надзвычайнаму 10% падатку, у Віленскай акрузе ўзрасла з 10.224 тысяч зл. на 1/IV-28 г. да 12.251 тыс. на 1/IV-29 г. (узрост на 19%), а ў Палескай—яшчэ больш востра: з 14.374 тыс. зл. у 1928 г. да 24.315 тыс. зл. у 1929 г. (узрост на 69%).

Такім чынам сума недаімак у адносінах да сумы ўжо спагнаных падаткаў складала:

| Акруга. | 1927/28 года. | | | 1928/29 года. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сума спагнаных падаткаў. | Сума недаімак. | %% адносіны недаімак да спагнанага падатку. | Сума спагнаных падаткаў. | Сума недаімак. | %% адносіны недаімак да спагнаната падатку. |
| Беласток . . . | 20.370.000 | 18.153.000 | 89 | **) | **) | **) |
| Вільня . . . | 17.353.000 | 10.244.000 | 59 | 17.222.000 | 12.251.000 | 69 |
| Палесьсе . . . | 17.115.000 | 14.374.000 | 84 | 20.285.000 | 24.515.000 | 120 |

*) Без 10% надзвычайнага падатку па Беластоцкай акрузе, які ў 1927-28 г. складаў 1.487.000—значыцца, уключаючы гэты падатак, размер падаткаў у 1928-29 г. дасягае звыш 140% у параўнаньні з 1926-27 г.
**) Данных па Беластоцкай акрузе за 1928-29 г. ня маецца.

Гэтая аграмадная запазычанасьць толькі па адных дзяржаўных падатках, якая выражаецца ў Палесьсі звыш 25 зл. на кожнага жыхара (г. зн. у сярэднім звыш 150 зл. на адну сялянскую гаспадарку), узрастае з кожным годам, і ў наступныя гады, аб якіх мы ня маем афіцыйных даных, бязумоўна яшчэ значна большая.

Да гэтага неабходна дадаць ня менш значныя недаімкі па мясцовых падатках, шматлікіх павіннасьцях і штрафах, аплаце кабальных крэдытаў і працэнтаў па іх, выдатках, якія накладаюцца пры правядзеньні камасацыі, ліквідацыі сэрвітутаў і г. д. Як паведамляюць таварышы з Гарадоцкага раёну Беластоцкае акругі, недаімкі бядняцкіх гаспадарак дасягаюць у бягучым годзе да 500-600 зл. Аб разьмеры адміністрацыйных штрафаў сьведчыць факт з Пінскага павету, дзе на вёскі, якія адмовіліся галасаваць на дзяржаўныя сьпіскі, накладзены штрафы да 2.000 зл. і больш, а такіх повадаў фашыстоўскі ўрад мае вельмі досыць. Усялякае актыўнае выступленьне сялян, усялякі ўдзел у антыфашыстоўскіх арганізацыях, падпіска на рабоча - сялянскі друк і г.д. караецца праз накладаньне штрафаў пад тым альбо іншым повадам. Так напрыклад, у вёсцы Хвоева, Навагрудзкага павету, сябры мясцовага гуртку ТБШ аштрафаваны старостай на 250 зл. кожны.

Сьціснутыя ў абцугох непамернага падатковага ярма і павіннасьцяў, зруйнаваныя сяляне пад пагрозай экзэкуцый трапляюць у поўную кабалу квотнікаў, якімі галоўным чынам зьяўляюцца тыя-ж абшарнікі, кулакі і асаднікі. Да якіх граніц даходзіць квотніцтва ў вёсках Зах. Беларусі характарызуюць наступныя лічбы працэнтаў, якія аплачваюцца сялянствам за кароткатэрміновыя пазыкі. У Віленшчыне гэтыя працэнты хістаюцца ад 60% да 108% у год, у Палесьсі—ад 36% да 120%, а ў Навагрудчыне—ад 60% да 144%. Яшчэ больш кабальныя ўмовы пазыкаў у натуры, да якіх часта прымушаны зварочвацца бядняцкія гаспадаркі дзеля здабыцьця насеньня, асабліва-ж у неўраджанныя гады. Працэнты гэтыя дасягаюць у Палесьсі да 200%, у Навагрудчыне да 300%, а ў Беласточчыне і Віленшчыне нават да 400% у год. Гэтыя даныя, якія мы прыводзім сьледам за Л. Тварэцкім („Заданя і цэле робот-нічай спулдзельчосьці крэдытовай". „Рольніцтва", люты 1930 г.) адносяцца да 1927 г. і, бязумоўна, у яшчэ большай меры актуальны і цяпер. Гэты разгул квотніцтва, пад пратэктаратам фашыстоўскага ўраду, ушчэнт закабаляе сялянскую беднату абшарнікам і кулацтву, ствараючы варункі для найбольш кабальных форм эксплёатацыі ў вёсцы.

Фашыстоўскі ўрад няшчадна выціскае падаткі і недаімкі, распрадаючы з ліцытацыі сялянскую маемасьць, жывы інвэнтар, хатнія бэбахі. Нават калі ўзяць афіцыйныя даныя, якія далёка не адбіваюць сапраўднага становішча, мы атрымаем наступны яскравы малюнак, як выціскаюцца падаткі і недаімкі. У 1927-28 г. на тэрыторыі Віленскае акругі мела месца 12.747 экзэкуцый за недаімкі; у 1928-29 г. лік іх узрастае да 25.975 (узрост на 104%), а ў 1929-30 г. да 29.843 (узрост на 134%) і гэта тады, калі ў выніку катастрафальнага голаду ў Віленшчыне і ўзрастаючай барацьбы мас ўрад прымушаны быў адтэрмінаваць уплату шэрагу падаткаў на 1931 год. Яшчэ больш яскравы малюнак у Палесьсі. дзе ў 1927/28 г. праведзена 16.490 экзэкуцый, а ў 1928/29 г. 37.241 (узрост на 126%). Афіцыйных даных па Палесьсю за 1929/30 г. і па Беластоцкай акрузе за ўвесь час мы ня маем, але па матар'ялах з месц відаць, што тэмп росту падатковых экзэкуцый шалёна павялічваецца і ахоплівае ўсю тэрыторыю Заходняй Беларусі.

Цяжар падатковага ярма ў бягучым годзе яшчэ больш узрос. Досыць паказаць на тое, што зацьверджаны на 1931/32 год фашыстоўскі соймавы бюджэт, ня гледзячы на жорсткі гаспадарчы крызыс і вострае паніжэньне цэн на сельска - гаспадарчыя прадукты, зьяўляецца толькі нямнога меншым за леташні трохмільярдовы бюджэт, ды і то гэтае зьмяншэньне выабражальнае, бо ўрад пераклаў аграмадныя сумы з дзяржаўнага бюджэту на мясцовыя самаўрады. Адначасна ўведзены дадатковы 10% падатак, а таксама па-

шыраны падатак ад даходаў на зарабковую плату, павялічаны шэраг ускосных падаткаў (запалкі, соль і інш.). Да гэтага трэба дадаць значнае павялічэньне цяжараў на ўзмоцнена праводзячаеся дарожнае будаўніцтва (стварэньне спэцыяльнага дарожнага фонду). У Заходняй Беларусі падатковы націск, які быў некалькі аслаблены з палітычных меркаваньняў у часе выбарнай кампаніі, узмацоўваецца ў шмат разоў, бо з мэтай захаваньня бюджэтнай роўнавагі і паскоранай падрыхтоўкі вайны, фашыстоўскі ўрад з асаблівай настойлівасьцю приступае да выцісканьня ўсіх недаімак, якія былі адтэрмінаваны па розных меркаваньнях у папярэднія гады.

Вось у агульных рысах малюнак таго „дабрабыту“ і „роськвіту“ шырокіх мас сялянства Заходняй Беларусі ў выніку ўсей палітыкі фашыстоўскай дыктатуры. І бязумоўна, самі фашыстоўскія гершты ня вераць у тое, што ім удалося ў выніку сваёй палітыкі перавыхаваць масы ў духу арыентацыі на фашыстоўскі захад і пазбавіцца ад уплыву камуністычнага ўсходу. Той-жа Голувко, сьцьвярджаючы, што адзіным сур'ёзным супраціўнікам фашыстоўскай дыктатуры ў Заходняй Беларусі былі арганізацыі антыфашыстоўскага рабоча-сялянскага блёку на чале з Кампартыяй, канстатуе, што толькі шляхам нячуванага тэрару і нахабных фальсыфікацый фашызму ўдалося атрымаць сваю „перамогу“.

„У гэтым нам дапамог пан Пужак з ППС у галоўнай выбарнай камісіі, якая пры дапамозе графалёга скасавала камуністычныя дзяржаўныя сьпіскі, сярод іх таксама сьпіскі „Змаганьня“. Калі-ж мясцовыя камуністычныя сьпіскі наогул не трапілі ў рукі акруговых выбарных камісій, дык гэта сьведчыць аб тым, што наша адміністрацыя дзейнічае спраўна і энэргічна... Адміністрацыя ўмее душыць камунізм“.

Вось прызнаньне, з нахабным цынізмам выказанае праз Голувка з трыбуны фашыстоўскага сойму. Мы тут ня будзем спыняцца на гэтых мэтадах душэньня рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Сотні і тысячы арыштаваных, разгром рэвалюцыйных арганізацый, забойствы і катаваньні актыўных рабочых і сялян, шмат-тысячныя штрафы і пагрозы карных экспэдыцый для непакорлівых вёсак гавораць самі за сябе.

Узрост рэвалюцыйнай барацьбы эксплёатаваных сялянскіх мас відавочны і ў корані абвяргае сфабрыкаваную фашыстоўскую выбарную арытмэтыку. Гэтая барацьба ў цяперашні час выяўляецца перадусім у выступленьнях супроць фашыстоўскага падатковага ярма, ў масавым неплацяжу падаткаў, у актыўным адпоры пры падатковых экзэкуцыях.

З усіх куткоў Зах. Беларусі даходзяць весткі аб узросьце гэтай барацьбы. Можна прывесьці дзясяткі старонак фактаў, якія сьведчаць аб гэтым. Прывядзем толькі некаторыя з іх.

У Гарадоцкім раёне зруйнаваныя сялянскія масы ня могуць купляць найбольш неабходных рэчаў, ня плоцяць падаткаў і ня выконваюць шарваркаў. Усё часьцей-гусьцей выпадкі продажы сялянскае маемасьці з ліцытацыі. Маюцца вёскі, якія ня плоцяць падаткаў ужо 2 гады, недаімкі дасягаюць да 500-600 злот. на гаспадарку.

У вёсцы Плюцічах Беластоцкае акругі, ў часе адабраньня ў аднэй удавы апошняй каровы за падаткі, сялянка кінулася з сякерай на экзэкутара, сяляне ёй дапамаглі і адабралі карову. Праз некалькі дзён прыехаў экзэкутар з трыма паліцэйскімі, і разам з солтысамі пачалі канфіскоўваць што ў каго пападалася: падушкі, вопратку і інш. Сяляне сабраліся вялікім натоўпам, напалі на экзэкутара, прагналі яго і паліцыю і адабралі сваю маемасьць назад.

У вёсках Беластоцкае, Горадзенскае і Баранавіцкае акругаў сяляне ня плоцяць падаткаў і даюць адпор экзэкутарам, ня купляюць прадаваемай з ліцытацыі маемасьці. У вёсках Бандары і Аліманы, Горадзенскае акругі, сяляне прагналі экзэкутара і паліцыю; у Азёрскім раёне сяляне стралялі ў экзэкутара, які пасьля гэтага адмовіўся ад пасады; у Ліпах і ваколічных вёсках адмаўляюцца ад выконваньня шарварак і спалілі маёнтак.

У Берасьцейскай акрузе пры будове шасэйных дарог значная частка сялян

адмаўляецца выходзіць на шарваркі. Адміністрацыя пагражае накласьці дадатковыя падаткі і штрафы. Экзэкуцыі праводзяцца фашыстоўскім урадам за недаімкі, а таксама праз кулацкія касы Стэфчыка, якім сяляне беднякі і сераднякі ня могуць плаціць узятых пад высокія працэнты пазык.

У вёсцы Камароўка тэй-жа акругі большай частцы сялян пагражаюць экзэкуцыі за нявыплачаныя падаткі.

У вёсцы Вышкі Бельскага раёну сяляне прагналі з вёскі сэквэстратара і паліцыянта, якія прышлі адбіраць рэчы за недаімкі. Праз некалькі дзён прышоў вялікі атрад паліцыі і забраў у сялян усё, што яны мелі.

У вёсцы Гарадавічы ў Віленшчыне сяляне адмовіліся плаціць падаткі, у вёску наехала цэлая армія сэквэстратараў, зрабіла опісі маемасьці і вызначыла 100 ліцытацыяў.

Гэта толькі невялічкая вязанка фактаў з колькасьці шматлікіх выпадкаў барацьбы сялянскіх мас супроць падатковага ярма за апошні час. Да гэтага трэба дадаць ня менш яскравыя факты ўсё больш частага адпору пры камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў на ўсёй тэрыторыі Зах. Беларусі. Нярэдка выступленьні сялянскіх мас прымаюць формы падпалу абшарніцкіх маёнткаў; з Берасьцейскае акругі паведамляюць, што там мела месца звыш 20 падпалаў абшарніцкіх маёнткаў; віленская прэса паведамляе аб значнай колькасьці падпалаў у Лідзкай акрузе; у Беластоцкай акрузе пасьля выбараў у сойм сяляне падпалілі будынкі старшыні і сябра абвадовай выбарнай камісіі, актыўных сяброў мясцовай фашыстоўскай арганізацыі. У шэрагу месц сяляне аказвалі супраціўленьне ўладам пры спробах прымусіць адкрыта галасаваць на сьпіскі ББ. Рэвалюцыйная актыўнасьць сялянскіх мас праяўляецца ў дэманстрацыях і мітынгах, у арганізацыі дружын самаабароны і вышукваньні зброі для адпору паліцыі і фашыстоўскім бандам. Яскравай ілюстрацыяй, якая характарызуе распаленую атмасфэру ў вёсцы, зьяўляецца ніжэй зьмешчанае паведамленьне з крэсавых фашыстоўскіх газэт:

„На працягу апошніх месяцаў злачыннасьць у Палесьсі разьвіваецца прама ў пагражаючых разьмерах, асабліва-ж у Пінскім павеце, дзе толькі на працягу двух месяцаў статыстыка адзначыла 28 забойстваў і 8 цяжкіх параненьняў, пераважна на грунце канфліктаў пры самавольным вырубаньні лесу.

Некалькі дзён таму назад праведзены вобыскі ў вёсцы Рэчыца, Пінскага павету па поваду забойства ляснога вартаўніка; у 4-х хатах знойдзена звыш 60 стрэльбаў. Цікава, колькі стрэльбаў можна бы знайсьці ва ўсёй вёсцы? Гэтыя выпадкі ні ў якім разе не зьяўляюцца спарадычнымі.

Пэрыяд выбарнай кампаніі даў сябе знаць настолькі моцна, што Пінская пракуратура намерваецца ўвайсьці з прапановай у міністэрства юстыцыі аб увядзеньні палявых судоў на тэрыторыі Пінскага павету“.

Усе гэтыя факты з бясспрэчнай яскравасьцю сьведчаць аб тым, што накапіўшаяся рэвалюцыйная энэргія мас усё часьцей прыводзіць да выбухаў і сыгналізуе шпарка надыходзячую хвалю абвостраных баёў, якія пры актыўным кіраўніцтве нашай партыі будуць перарастаць у рашучыя баі за ўладу. На прыкладзе падзеяў у Зах. Украіне ўвосені мінулага году, мы бачым, у якія вострыя формы выліваецца накапіўшаеся рэвалюцыйнае нездавольства мас і які размах яно прыймае. У варунках далейшага паглыбленьня гаспадарчага крызысу ў Польшчы і крызысу фашыстоўскай дыктатуры, у варунках пагрозы вайны, якая ўжо непасрэдна навісла, у варунках далейшага націску фашыстоўскага ўраду на працоўныя масы і далейшага ўзмацненьня нацыянальнага ўціску, мы павінны мець выразную пэрспэктыву, што ўжо ў бліжэйшы час рэвалюцыйныя падзеі ў Зах. Беларусі будуць разьвівацца на больш шырокай базе. Формы гэтай барацьбы могуць быць самымі рознастайнымі аж да партызанскіх выступленьняў уключна. Трэба памятаць што вынікі выбарнай кампаніі ў Зах. Беларусі, напракі цьверджаньняў фашыстоўскай дыкта-

туры і яе нацыянал-і сацыял-фашыстоўскіх прыхвастняў, ня толькі не аслабілі клясавых антаганізмаў у вёсцы, а яшчэ больш узмацнілі іх; нянавісьць мас супроць фашыстоўскай акупацыі і яе саюзьнікаў у шмат разоў узрасла, а энэргія мас, ня гледзячы на тэрар, прарвецца з яшчэ большай шпаркасьцю і сілай у форме актыўных масавых выступленьняў.

Усё гэта ўскладае на нашу партыю, як адзінага кіраўніка барацьбы мас, надзвычайнай важнасьці задачы, вымагае падняцьця яе баявой актыўнасьці, асаблівай чуйнасьці да ўсіх працэсаў, якія адбываюцца ў масах, цясьнейшай сувязі з масамі, каб быць ініцыятарам, арганізатарам і кіраўніком іх барацьбы, каб здолець сваечасова ахапіць сваім уплывам, стаць на чале ўсялякага роду стыхійных выступленьняў мас і ўзьняць іх на вышэйшую ўсходку. Падзеі ў Зах. Украіне зьяўляюцца найбольш яскравым прыкладам таго, да якіх вынікаў прыводзіць невыстарчальная актыўнасьць партыі, слабая сувязь з масамі і адставаньне ад ходу разьвіцьця рэвалюцыйнай барацьбы. КПЗУ ня здолела стаць на чале стыхійнага руху мас супроць акупацыі і ўзьняць яго на вышэйшую ўсходку. Прычыны гэтага ляжаць у памылковай ацэнцы сытуацыі, недаацэнцы рухавых сіл рэвалюцыі і працэсу радыкалізацыі мас, у корані няправільным адносінах да стыхійных формаў рэвалюцыйнай сялянскай барацьбы, у адарванасьці партыі ад мас, у невыстарчальным кіраўніцтве з яе боку штодзённай барацьбой мас. Менавіта адарванасьць ад мас спрыяла таму, што нават тады, калі КПЗУ пачала ўсьведамляць сабе свае памылкі і выпраўляць іх, яна не змагла ў выніку слабай сувязі партарганізацый з масамі, стаць на чале іх барацьбы і кіраваць ёю.

Шэраг фактаў сыгналізуе, што і ў нас у гэтай галіне маюцца буйнейшыя недахопы. У часе падзеяў у Зах. Украіне партарганізацыі не разгарнулі шырокай чыннасьці для мабілізацыі мас на актыўныя выступленьні дзеля падтрыманьня змагаючыхся мас Зах. Украіны, дзеля завастрэньня барацьбы супроць фашыстоўскай акупацыі ў Зах. Беларусі. Выступленьні сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў і фашыстоўскай зямельнай палітыкі часта праходзяць па-за нашым кіраўніцтвам. Актыўнасьць партарганізацый ўсё яшчэ адстае ад узрастаючай актыўнасьці мас. АК не надаюць належнай увагі кіраўніцтву вясковымі арганізацыямі. Усё гэта стварае небясьпеку, што ўзрастаючая рэвалюцыйная энэргія мас можа пайсьці па лініі стыхійных выбухаў, без належнага ахопу і кіраўніцтва з боку нашай партыі. А гэта ў сваю чаргу стварае небясьпеку перахопліваньня рэвалюцыйных настрояў мас праз сацыял-, нацыянал- і народніцка-фашыстоўскія партыі для таго, каб задушыць барацьбу мас.

Дзе-ж у даных варунках тое асноўнае зьвяно, за якое мы павінны ўхапіцца, каб мабілізаваць шырачэзныя масы сялянства на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры, аб'яднаць разрозьненыя баі і стыхійныя ўзрывы і накіраваць іх у адзін магутны рэвалюцыйны струмень барацьбы пралетарыяту за ўладу? Гэтым цэнтральным зьвяном у нашых канкрэтных варунках на данай стадыі разьвіцьця рэвалюцыйнага руху зьяўляецца арганізацыя барацьбы шырокіх мас вёскі супроць падатковага ўціску. ЦК нашай партыі сваечасова ўлічыў усё аграмаднае значэньне гэтай барацьбы і рашуча падкрэсьліў яе значэньне, як „падстававога зьвяна для таго, каб падняць барацьбу мас на вышэйшую ўсходку, падвесьці гэтыя масы ўшчыльную да барацьбы за зямлю бяз выкупу, накіраваць яе ў рэчышча барацьбы пралетарыята за ўладу“. (Рэзалюцыя IV пленуму ЦК КПЗБ). Высунуты нашай партыяй больш году таму назад лёзунг „ні граша фашыстоўскаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрару і вайны“ зьяўляецца ў гэты час асноўным лёзунгам, які мабілізуе шырокія масы на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры і вызначае ўвесь характар антыпадатковай барацьбы.

У цяперашні час выступленьні супроць падаткаў і адпор экзэкуцыям ахопліваюць усё больш шырокія масы, ахопліваюць усё новыя і новыя мясцовасьці. Хваля сялянскіх выступленьняў нарастае ва ўсёй Польшчы, а на

Зах. Украіне яна ўжо прыняла вострыя формы падпалаў абшарніцкіх маёнткаў, а часамі узбройнага адпору карным экспэдыцыям. Адначасна гэтыя выступленьні, якія адбываюцца ў варунках нарастаючага палітычнага крызысу фашыстоўскай дыктатуры, супадаюць з магутным уздымам барацьбы пралетарыята і вострымі выступленьнямі беспрацоўных. У гэтых варунках перад нашай партыяй стаіць задача ўцягненьня ў гэтую барацьбу шырачэзных мас і разгортваньня яе ў арганізаванае адмаўленьне ад плацяжы падаткаў і ў актыўны адпор мас пры іх спагоне. Гэтая задача зусім правільна пастаўлена студзеньскімі рашэньнямі нашага ЦК у цэнтры ўвагі нашых вясковых арганізацый.

Арганізацыя ў шырокім разьмеры адмаўленьня ад плацяжы падаткаў і актыўнага адпору экзэкуцыям у цяперашні час мае зусім іншы характар, чым лёзунг байкоту падаткаў, які быў высунуты нашай партыяй у 1924 г. Тады і цяпер мы маем прынцыпова розныя як варункі, гэтак і тактычныя задачы гэтай барацьбы.

Становішча ў Зах. Беларусі ў даны пэрыяд рэзка адрозьніваецца ад становішча ў 1923/24 г. Вострае рэвалюцыйнае напружаньне ў заходня-беларускай вёсцы 1923-24 г. вынікала перадусім с мясцовых спэцыфічных варункаў, з глыбокага нездавольства сялянскіх мас Зах. Беларусі акупацыйным рэжымам і насіла характар арыергардных баёў пасьля паражэньня нямецкага і польскага пралетарыяту на фоне аслабленага тэмпу разьвіцьця рэвалюцыйнай барацьбы ва ўсёй Польшчы. Гэтымі арыергарднымі баямі, якія насілі формы партызанскіх выступленьняў, быў ахоплены толькі вузкі вясковы актыў, асноўная жа маса сялянства ня была яшчэ ўцягнута ў шырокую штодзённую барацьбу і ў значнай меры знаходзілася пад уплывам сацыял-, нацыянал- і народніцка - фашыстоўскіх партый. Тады мы мелі слабае разьвіцьцё рабочага руху ў Зах. Беларусі; сувязь гарадзкога пралетарыяту, у пераважаючай большасьці сваёй польскага і яўрэйскага, з масамі беларускага сялянства была вельмі слабая; саюз рабочых і сялян і гегемонія ў ім пралетарыяту ня былі яшчэ дастаткова замацаваны. Партыя наша — кіраўнік і арганізатар барацьбы мас—у той час толькі што ўступіла на шлях усьведамленьня бальшавіцкіх прынцыпаў стратэгіі і тактыкі, у ёй яшчэ былі моцны пэражыткі чуждай ідэолёгіі (бундызм, сацыял - дэмакратызм, эсэраўшчына), што знайшло сваё яскравае выражэньне ў так званай „сэцэсіі"; партыя ня мела яшчэ ні выстарчальнага вопыту, ні выстарчальнай сувязі з масамі, ні ўзгадаваных і загартаваных у баёх кадраў.

Цяперашні-ж уздым рэвалюцыйнай хвалі ў Зах. Беларусі зьяўляецца вынікам глыбокага крызысу фашыстоўскай дыктатуры, складовай часткай магутнага ўздыму рэвалюцыйнага руху ва ўсей Польшчы, у варунках глыбокага сусьветнага эканамічнага крызысу і ўздыму рэвалюцыйнай хвалі ў важнейшых капіталістычных краёх і калёніях, у варунках шалёнай падрыхтоўкі імпэрыялістычнай вайны. За мінулыя 5-6 год працэс дыфэрэнцыяцыі ў заходня-беларускай вёсцы далёка пайшоў наперад, выклікаючы рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы, павышэньне ўдзельнае вагі ў барацьбе сялянскіх мас сельска-гаспадарчага пралетарыяту і вясковай беднаты, пры адначасным ўзросьце актыўнасьці беларускага кулацтва і выразьніка яго інтарэсаў, беларускага нацыянал-фашызму, ў барацьбе з рэвалюцыйным рухам, у падрыхтоўцы вайны проціў СССР. У штодзённую барацьбу ўцягнуты шырокія масы, якія накапілі ў гэтай барацьбе дастатковы вопыт і ўсё больш пераконваюцца ў ілжывасьці, здрадніцтве сацыял-, нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партый, усё больш зжываюць ілюзіі адносна да іх. Масы на ўласным карку выпрабавалі ўсе прыгожасьці, як дэмакратычна-парлямэнцкага, гэтак і фашыстоўскага рэжыму, здолелі ўбачавідку пераканацца ў вялізарных дасягненьнях пралетарыяту і працоўных мас сялянства пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ў СССР. У цяперашні час мы маем у наяўнасьці значнае напружаньне барацьбы пралетарыяту Зах. Беларусі і ўзмацненьне яго гегемоніі

ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху; гэта выражаецца ў ажыўленай забастовачнай барацьбе, шырокім і вострым руху беспрацоўных, у паасобных, пакуль яшчэ, палітычных стачках і ў барацьбе за вуліцу.

За гэты час партыя наша таксама значна вырасла, загартавала сябе ў баёх, набыла ўласны багаты баявы вопыт, сумела выкаваць і праверыць сваю лінію ў баёх, ва ўпартай і няпрымірымай барацьбе з правымі і „левымі“ ўхіламі, стварыла густую сетку сваіх арганізацый, трывала зьвязаных з масамі, вылучыла значны актыў, які вырас з мас, які здольны кіраваць баямі мас.

У 1924 г. у паказаных вышэй варунках, калі асноўная маса сялянства ў ЗБ ня была яшчэ ўцягнута ў шырокую штодзённую барацьбу, задача нашай партыі была—паасобныя вострыя выбухі, якія прынялі характар партызанскіх выступленьняў, перавесьці на рэйкі шырокай масавай барацьбы на грунце штодзённых патрэб мас. Лёзунг байкоту падаткаў, як лёзунг, які закранае патрэбы найбольш шырокіх мас, быў тады галоўным зьвяном дзеля правядзеньня гэтага тактычнага павароту—павароту да масавай барацьбы на грунце штодзённых патрэб мас. Гэты паварот даў выразныя дадатнія вынікі: мы з найменшай стратай і ў найбольшым парадку правялі адступленьне ў такіх варунках, калі, з прычыны аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, прыняцьце генэральнай бойкі, якая навязвалася нам клясавым ворагам, нямінуча пагражала і аслабленьнем сіл усяго рэвалюцыйнага фронту. А гэта дало нам магчымасьць пашырыць фронт барацьбы, уцягнуць новыя масы і рыхтаваць сілы дзеля пераходу ў наступленьне ў адпаведных варунках.

Зусім іншы характар і іншае значэньне мае пастаўленая намі цяпер задача арганізацыі неплацяжу падаткаў ў варунках дасьпяваньня ў шпаркім тэмпе тэндэнцыяў рэвалюцыйнага крызысу ва ўсёй Польшчы. Гэтая задача азначае разгортваньне шырокага контр-наступленьня, падцягваньне да лініі фронту рэзэрваў, у варунках, калі барацьба прымае форму ўсё больш жорсткіх сутычак, калі хутка за гэтым пойдуць рашучыя клясавыя баі за ўладу.

Задача паўсямеснай арганізацыі адмаўленьня ад плацяжу падаткаў паўстане перад партыяй, калі варункі для гэтага пасьпеюць, г. зн. тады, калі як у самой Зах. Беларусі, так і ва ўсёй Польшчы, барацьба яшчэ больш абвострыцца і ахопіць яшчэ больш шырокія масы, калі партыя наша зможа ўзьняць гэтую барацьбу на вышэйшую ўсходку, якая вядзе непасрэдна да барацьбы за зямлю, за ўладу, за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры. Але, ня высоўваючы яшчэ ў даны момант гэтай задачы—паўсямеснай арганізацыі неплацяжу падаткаў—мы ўжо цяпер павінны паставіць задачу арганізацыі неплацяжу падаткаў у тых мясцовасьцях, дзе варункі для гэтага пасьпелі, імкнуцца аб'яднаць маючыяся ўжо раз'яднаныя выступленьні супроць падаткаў, не дапускаць да іх ізаляваньня, мабілізаваць масы на актыўнае падтрыманьне гэтых выступленьняў і пашырыць барацьбу на тэрыторыю суседніх раёнаў. Гэта важнейшая задача ў цяперашні час, зьдзейсьненьне якой стварыць прадпасылкі для пасьпяховага разгортваньня паўсямеснага неплацяжу падаткаў і адпору пры іх спагоне ў паказаных намі вышэй варунках.

Галоўная ўмова дзеля зьдзейсьненьня гэтай бліжэйшай задачы—цясьнейшая сувязь з масамі, улічваньне настрояў мас, грунтоўная як палітычная, гэтак і арганізацыйная падрыхтоўка выступленьняў.

Барацьба супроць падаткаў лучыць самыя шырокія масы вясковай беднаты і серадняцтва, як масы, ужо грунтоўна ахопленыя нашым уплывам, так і масы, якія знаходзяцца яшчэ пад уплывам сацыял- нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партыяў. Разгортваньне гэтай барацьбы—лепшы мэтад у даных варунках дзеля здэмаскаваньня фразэалёгіі гэтых партыяў і іх правадыроў, дзеля выяўленьня ўсей ілжывасьці выбарных абяцанкаў фашыстоўскай дыктатуры і яе агентаў, дзеля вырываньня мас з пад іх уплыву, стварэньня і ўзмацненьня адзінага фронту барацьбы мас на грунце іх штодзённых патрэб пад кіраўніцтвам нашай партыі. У гэтых

варунках асабліва важнага значэньня набірае стварэньне шырокай сеткі сялянскіх камітэтаў барацьбы, абраных шырокімі масамі, як органаў адзінага фронту барацьбы мас, задача якіх— грунтоўна падрыхтоўваць і арганізоўваць гэтую барацьбу, пашыраць яе фронт і ўцягваць у яе масы, якія знаходзяцца яшчэ пад уплывам сацыял-, нацыянал- і народніцка-фаш. партыяў.

Адмаўленьне ад плацяжу падаткаў і адпор мас экзэкуцыям наносяць асабліва адчувальныя ўдары фашыстоўскай дыктатуры, якая бьецца ў цісках эканамічнага і палітычнага крызысу. Шырокі антыпадатковы рух ставіць масы тварам у твар з апаратам фашыстоўскай дыктатуры, мабілізуе масы на беспасрэдныя выступленьні супроць улады, на беспасрэдную барацьбу за зямлю, падрывае ваенныя пляны фашызму і дэзарганізуе яго дзяржаўны апарат. Гэты рух зьявіцца важным фактарам далейшага паглыбленьня крызысу фашызму, магутным штуршком дзеля разьвіцьця рэвалюцыйнай барацьбы. Фашыстоўская дыктатура здае сабе справу аб значэньні гэтага руху і дзеля гэтага прымае ўсе захады для здушэньня ў корані ўсялякіх антыпадатковых выступленьняў. Адгэтуль вынікае, што пытаньню падрыхтоўкі і арганізацыі антыпадатковых выступленьняў павінна быць надана максымум увагі з боку нашых арганізацыяў. Чым лепей падрыхтаваны і арганізаваны выступленьні, чым больш яны масавы, тым больш цяжка фашызму здушыць іх. Аб'яднаным сілам фашызму неабходна супроцьставіць адпор мас цэлых раёнаў супроць экзэкуцыяў, налётаў паліцыі і фашыстоўскіх карных экспэдыцыяў.

У гэтых варунках асабліва важнага і рашаючага значэньня набірае арганізацыя дружын масавай самаабароны ў вёсцы, якая, канцэнтруючы вакол сябе масы, зможа даць адпор налётам паліцыі і экзэкутараў.

З антыпадатковымі выступленьнямі неабходна ўвязваць усе іншыя выступленьні сялянскіх мас на грунце іх штодзённых патрэб, як арганізацыя паўсяменснага адмаўленьня ад выконваньня шарваркаў, адмаўленьне ад уплаты штрафаў, даўгоў па крэдытах і пазыках урадовым і абшарніцка-кулацкім крэдытным установам і квотнікам, арганізацыя барацьбы супроць правядзеньня камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў і ўсямернае абвастрэньне яе формаў. Аб'ядноўваючы гэтую барацьбу з выступленьнямі супроць падаткаў, з барацьбой супроць нацыянальнага ўціску і фашыстоўскага тэрару, партыя павінна ахапіць сваім кіраўніцтвам усялякія формы праяваў стыхійнай барацьбы мас і накіраваць яе ў рэчышча барацьбы за зямлю бяз выкупу, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗБ з БССР, за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры.

Тут неабходна з асаблівай вастратой падкрэсьліць рашаючае значэньне дзеля разгортваньня барацьбы сялянскіх мас падтрыманьня і кіраўніцтва гэтай барацьбой з боку пралетарыяту як Зах. Беларусі, так і ўсей Польшчы. Асабліва значэньне ў гэтых варунках мае арганізацыя шырокага забастовачнага руху сельска-гаспадарчага пралетарыяту, як асноўнага зьвяна ў справе ўзмацненьня гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім руху. Злучэньне рэвалюцыйных выступленьняў сялянскіх мас з забастовачным рухам рабочае клясы і выступленьнямі беспрацоўных, зьяўляецца асноўным варункам пашырэньня рэвалюцыйнай барацьбы, падняцьця яе на вышэйшы ўзровень, асноўным варункам замацаваньня саюзу рабочых і сялян і ўзмацненьня гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху.

Ад пасьпяховасьці ажыцьцяўленьня задачы ўзмацненьня гегемоніі пралетарыяту ў сялянскім і нацыянальна-вызваленчым руху ў першую чаргу залежыць, наколькі ў варунках насьпяваючай рэвалюцыйнай сытуацыі і набліжаючагася нападу фашыстоўскай Польшчы на СССР мы зможам мабілізаваць мільённыя масы сялянства і працоўных мас паняволеных народаў на штурм пазыцый фашыстоўскай дыктатуры, на барацьбу супроць імпэрыялістычнай вайны, у абарону СССР.

З артыкулу тав. Эрнста ТЭЛЬМАНА

# Кампартыя Нямеччыны на ўздыме.

**(Да вынікаў пленуму ЦК КП Нямеччыны 15—17 студзеня 1931 г.).**

З 15 па 17 студзеня ў Берліне адбыўся пленум Цэнтральнага камітэту нямецкай кампартыі. З часу апошніх пленумаў нямецкай кампартыі ход падзеяў у Нямеччыне выклікаў шэраг зьмен у расстаноўцы клясавых сіл. Гэта на пленуме стварыла для партыі магчымасьць пастаноўкі больш высокіх задач і вынясеньня больш сур'езных палітычных рашэньняў, чым на ранейшых паседжаньнях ЦК. Якія зьмены адбыліся пасьля папярэдняга пленуму ў канцы ліпеня 1930 г.? У асноўным мы маем наступныя факты. Сусьветны эканамічны крызыс абвастрыўся і паглыбіўся на грунце ўсеагульнага крызысу капіталістычнай сыстэмы. Надзеі буржуазіі на тое, што амэрыканская гаспадарка пойдзе па шляху аздараўленьня і тым самым створыць новыя стымулы дзеля ўздыму кан'юнктуры ў сусьветным маштабу альбо ў крайнім выпадку да пераходу крызысу ў дэпрэсію, ні ў якой меры не апраўдаліся. Нямеччына ў цяперашні час перажывае крызыс, адносна якога афіцыйны інстытут кан'юнктурных дасьледваньняў з поўным правам кажа, што «гэта крызыс ніколі раней нябачанай цяжкасьці». Нават па прызнаньні буржуазіі ня відаць «ніякіх фактараў новага ўздыму кан'юнктуры».

Фактары, якія ўплываюць у бок пераходу эканамічнага крызысу ў Нямеччыне ў сатрасаньне ўсёй палітычнай надбудовы, якія выявіліся ўжо ў часе ліпеньскага пленуму ЦК у 1930 годзе, цяпер узмацніліся ў надзвычайнай ступені. Гэтая акалічнасьць праявілася з асаблівай яскравасьцю ужо ў часе выбараў у рэйхстаг, якія мелі месца два месяцы назад пасьля ліпеньскага пленуму.

Мы бачым, значыцца, у цяперашні час цэлы шэраг момантаў крызысу капіталістычнай сыстэмы і ў палітычнай галіне. З аднаго боку, яны выражаюцца ў надзвычайна інтэнсыўным рэвалюцыйным уздыме, напрыклад, у часе выбараў у рэйхстаг, у часе берлінскай стачкі мэталістаў, баёў у Руры і Горна-Шлёнскіх стачак гарнякоў, палітычнай масавай стачкі ў Данцыгу супроць ураду, які абапіраўся на нацыянал - сацыялістаў, а таксама ў хвалі анты-фашыстоўскіх клясавых баёў. Яны выяўляюцца, з другога боку, у антытэзе гэтага рэвалюцыйнага ўздыму, а менавіта—ў страшэнных патугах буржуазіі дабіцца капіталістычнага выхаду з крызысу. Пры гэтым фашызацыя ужо дасягла пэўнай ступені разьвіцьця, якая вядзе да новага вялізарнага абвастрэньня клясавай барацьбы.

Другая новая акалічнасьць, якая аказвае рашаючы ўплыў на рэвалюцыйную клясавую барацьбу ва ўсіх капіталістычных краёх, вынікае з факту разьвіцьця Савецкага Саюзу, які ў працэсе ажыцьцяўленьня пяцігодкі народнай гаспадаркі ўвайшоў у пэрыяд сацыялізму. Вялічэзная барацьба паміж пераможна ідучым наперад сацыялізмам і збанкрутаваўшай сыстэмай капіталістычнай гаспадаркі, якую рушыць пагоня за прыбыткам, адбываецца ў сусьветным маштабу. І гэтая барацьба, зразумела, у надзвычайнай ступені ўплывае на разгортваньне клясавай барацьбы ў Нямеччыне.

Калі абагуліць усе гэтыя пытаньні, то ужо на падставе гэтага беглага агляду выявіцца ўсё значэньне апошняга пленуму ЦК кампартыі Нямеччыні. З пункту погляду рэвалюцыйнага разьвіцьця гэты рашаючы палітычны характар нашага апошняга паседжаньня выходзіць нават за межы таго значэньня, якое мелі два апошніх пленумы Цэнтральнага Камітэту нашай партыі ў мінулым годзе...

Буйныя зьмены ў сітуацыі як у адносінах абвастрэньня крызысу, гэтак і ў сэнсе

больш рэзкага супроцьстаўленьня рэвалюцыйнага ўздыму і працэсу фашызацыі, якія адбыліся да сучаснага студзеньскага пленуму ЦК Нямецкай партыі, зразумела выклікалі **больш высокія патрабаваньні** таксама да рашэньняў і да праблемаў, якія стаялі ў парадку дня гэтага пленуму. Мы перадусім зусім коратка разгледзім гэтае пытаньне на грунце ўсёй злучнасьці рашэньняў пленуму, а потым ужо спынімся больш падрабязна на паасобных галоўных праблемах, якія адыгрывалі на пленуме рашаючую ролю.

У рэзалюцыі палітбюро, прапанаванай пленуму і прынятай ім аднагалосна, адносна сучаснай клясавай сітуацыі ў Нямеччыне гаворыцца наступнае:

«З далейшым абвастрэньнем эканамічнага і палітычнага крызысу ў Нямеччыне ўжо узьнікаюць **тэндэнцыі да рэвалюцыйнага крызысу ў краі.** У якой меры гэтыя тэндэнцыі ўзмоцняцца і разгорнуцца, будзе залежыць у першую чаргу ад ходу клясавай барацьбы, ад разгортваньня сіл і масавай актыўнасьці рэвалюцыйнага пралетарыяту, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі».

Само сабой зразумела, што такой ацэнцы сітуацыі, якая з поўным правам канстатуе ў Нямеччыне наяўнасьць тэндэнцый дарэвалюцыйнага крызысу, павінны былі адпавядаць пэўныя вывады і **ў пастаноўцы палітычных задач.** І таму ў другой частцы рэзалюцыі, якая кажа аб галоўных задачах партыі, гаворыцца спачатку наступнае:

«З прычыны ўзрастаючага абвастрэньня клясавай сітуацыі і пагражаючай шырачэзным масам галоднай катастрофы, перад партыяй ставіцца задача прапаганды рэвалюцыйнага выхаду з крызысу па лініі нашай вызваленчай праграмы. Тым самым **лёзунг народнай рэвалюцыі становіцца галоўным стратэгічным лёзунгам партыі.** Народная рэвалюцыя ёсьць толькі сінонім пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэты лёзунг можа ўжывацца не як кароткатэрміновы лёзунг дзеяньня, але ў якасьці абагуленьня, аб'яднаньня ўсіх існуючых рухаў, ў якасьці стратэгічнай мэты, якой падпарадкаваны ўсе бал бягучага моманту, частковыя выступленьні і частковыя патрабаваньні. З абвастрэньнем сітуацыі, з узьнікненьнем тэндэнцыяў да рэвалюцыйнага крызысу масавая палітычная стачка становіцца важнейшым сродкам барацьбы ў гэтай сітуацыі. Партыя павінна растлумачваць сярод шырачэзных мас характар пралетарскай сацыялістычнай рэвалюцыі, як сапраўднай народнай рэвалюцыі пад гегэмоніяй пралетарыяту ў духу Маркса і Леніна».

Такая пастаноўка пытаньня, згодна якой лёзунг народнай рэвалюцыі ў духу Маркса і Леніна ператвараецца ў галоўны стратэгічны лёзунг партыі, адпавядае абвастрэньню сітуацыі. Партыя на пленуме ЦК падрабязна і глыбока разглядала праблему аб тым, пры якіх варунках сучасныя тэндэнцыі рэвалюцыйнага крызысу могуць поўнасьцю разгарнуцца і абумовіць поўны пераход эканамічнага і палітычнага крызысу капіталістычнай сыстэмы **ў рэвалюцыйны крызыс,** як прадпасылку дзеля пераможнай пралетарскай рэвалюцыі ў Нямеччыне. Адказ, які партыйнае кіраўніцтва дае на гэтае пытаньне, гаворыць: **мы павінны арганізаваць рэвалюцыйную сітуацыю».** Суб'ектыўны фактар», рэвалюцыйная партыя, яе палітыка і тым самым адбываючыяся пад яе кіраўніцтвам масавыя выступленьні і бал пралетарыяту і наогул працоўных маюць рашаючае значэньне таксама і ў адносінах да узьнікненьня ўсіх **аб'ектыўных** варункаў для пралетарскай рэвалюцыі. У якой меры менавіта цяпер і менавіта ў варунках адбываючагася ў Нямеччыне разьвіцьця гэты агульны тэзіс рэвалюцыйна-клясавай барацьбы **набірае асабліва буйнага значэньня**—гэта выяўляецца самым пераканальным чынам з тых больш высокіх і больш завостраных форм, у якіх ужо цяпер разгортваецца ў Нямеччыне клясавая барацьба.

Ужо на зьезьдзе ў Ведынгу мы канстатавалі—у далейшым на **X пленуме Камінтэрну** гэта было падкрэсьлена яшчэ значна мацней,—што з часу барыкадных баёў **у Берліне ў маі 1929 году** для клясавай барацьбы ў Нямеччыне дадзена такая больш высокая ступень, на якой ўсялякае выступленьне, усялякая стачка, усялякая дэманстрацыя рабочае клясы набірае зусім новага і далёка выходзячага за папярэднія межы значэньня.

У гэтым сэнсе мы ахарактарызавалі барыкадныя майскія бai ў Берліне, як **гістарычны паваротны пункт.** Калі гэтая характарыстыка адносна больш высокай ролі ўсіх форм клясавай барацьбы ў Нямеччыне была правільна ўжо для ўсяго пэрыяду з паваротнага пункту 1-га мая 1929 г., то становіцца ясным, што з абвастрэньнем эканамічнага і палітычнага крызысу і ўзьнікненьнем тэндэнцый да рэвалюцыйнага крызысу ў Нямеччыне ўсе гэтыя зьявішчы павінны мець усё **больш значныя вынікі.** У гэтым сэнсе рэзалюцыя ЦК Нямецкай Кампартыі на сучасным студзеньскім пленуме гаворыць наступнае аб «новых і больш высокіх формах» рэвалюцыйнага ўздыму:

«Асабліва неабходна канстатаваць тры галоўных напрамкі **рэвалюцыйнэй масавай ініцыятывы:** масавую барацьбу рабочых прадпрыемстваў і беспрацоўных супроць наступленьня прадпрыемцаў, масавую барацьбу працоўных супроць ажыцьцяўленьня фашыстоўскай дыктатуры праз урад Брунінга, бурную хвалю анты-фашыстоўскіх масавых баёў супроць забойстваў і тэрару з боку нацыянал-сацыялістаў. Партыя па лініі названых трох галоўных напрамкаў масавай барацьбы можа зарэгістраваць цэлы шэраг буйнейшых посьпехаў. Яна з узрастаючым посьпехам змагаецца за кіраўніцтва ўсімі гэтымі ўзрастаючымі рухамі. Важнейшым зьвяном пралетарскай рэвалюцыі ў сучасных варунках, нясумненна, зьяўляецца сапраўдная арганізацыя і пасьпяховае правядзеньне пад кіраўніцтвам рэвалюцыйнай профапазыцыі пралетарскіх эканамічных баёў, перадусім масавых стачак супроць скарачэньня зарабковай платы і звальненьняў... **Усе падобныя рухі, асабліва стачачныя бai, маюць вялічэзнае палітычнае значэньне.** У сучаснай сітуацыі **ўсялякая** эканамічная сутычка зьяўляецца яскрава выражаным **палітычным** боем, размах якога ўзрастае ў залежнасьці ад колькасьці змагаючыхся, цьвёрдасьці баявога кіраўніцтва з боку рэвалюцыйнай профапазыцыі і ступені сьпеласьці палітычнай сьвядомасьці змагаючыхся мас».

Такое трактаваньне вялізарнага палітычнага значэньня ўсіх пралетарскіх масавых выступленьняў, асабліва стачачных баёў у сучаснай сітуацыі, дае ў той жа час ключ да зразуменьня стаяўшага ў цэнтры дыскусіі на пленуме ЦК тэзіса аб тым, што **мы** павінны **арганізаваць** рэвалюцыйную сітуацыю. Усялякая стачка, якую партыя і рэвалюцыйная профапазыцыя ў сучасных варунках клясавай барацьбы ў Нямеччыне арганізуюць, вядуць і здольны прывесьці да больш шырокага разгортваньня, у той жа час зьяўляецца істотным **фактарам завастрэньня крызысу** і тым самым спрыяе разьвіцьцю тых тэндэнцый да рэвалюцыйнага крызысу ў краі, аб узьнікненьні якіх кажа рэзалюцыя ЦК. Буржуазія зусім правільна расцэньвае гэты рэвалюцыйны і палітычны характар стачачных баёў. У часе ўсіх эканамічных баёў яна рэагуе такім дзікім паліцэйскім тэрарам супроць бастуючых рабочых, які яшчэ некалькі год таму назад амаль немагчыма было сабе ўявіць. Эканамічныя бai рабочых на прадпрыемствах вымагаюць шчыльнейшай увязкі **з масавымі баямі беспрацоўных.** У часе ўсіх эканамічных баёў і палітычных выступленьняў партыі і рэвалюцыйнай профапазыцыі аднэй з галоўнейшых задач зьяўляецца ўцягненьне беспрацоўных, устанаўленьне цеснай сувязі паміж імі і працуючымі на прадпрыемствах. Ужо для правядзеньня **міжнароднага дня барацьбы з беспрацоўем** 25-га лютага г.г. партыя мабілізуе ўсе свае сілы, каб у гэты дзень барацьбы супроць беспрацоўя мабілізаваць салідарнасьць **усяе рабочае клясы ў цэлым** у інтарэсах беспрацоўных. Важнейшае значэньне з пункту погляду мабілізацыі мас дзеля вядзеньня штодзённых баёў, натуральна, маюць таксама надыходзячыя **перавыбары фабзаўкомаў.**

Рашаючая роля, якая на сучасным этапе рэвалюцыйнага разьвіцьця належыць справе ўзмацненьня і разгортваньня рэвалюцыйнай профапазыцыі, знаходзіць свой водгук таксама ў лягэры буржуазіі. У той час як буржуазны друк яшчэ год таму назад спрабаваў наогул ігнараваць і замаўчваць рэвалюцыйную профапазыцыю, як фактар, які наўрад ці можа мець якое-небудзь значэньне, у цяперашні час ўсё часьцей і часьцей у кіруючых газэтах буржуазіі мы знаходзім надзвычайна сур'езныя ацэнкі ўзрастаючай ролі і зна-

чэньня рэвалюцыйнай профапазыцыі і трактаваньне яе, **як крыніцы небясьпекі для капіталістычных плянаў.** Пры гэтым мы бяз усякага сумненьня не павінны даць сабе ўцягнуць па шляху ігнараваньня альбо недаацэнкі ўсё яшчэ вельмі значных **слабасьцяў і недахопаў** у працы і перадусім у арганізацыйнай структуры рэвалюцыйнай профапазыцыі. Калі сучасны пленум ЦК Нямецкай партыі ў сваёй рэзалюцыі гаворыць аб **узмацненьні і разгортваньні рэвалюцыйнай профапазыцыі,** як аб важнейшай цэнтральнай задачы моманту, дык гэта ў галіне канкрэтнай практычнай палітыкі партыі зьяўляецца неабходным дадаткам і вывадам з лёзунгу народнай рэвалюцыі, як галоўнага стратэгічнага лёзунгу, стратэгічнай мэты, якой павінны быць падпарадкаваны ўсе частковыя баі. Партыя ўказвае ня толькі **мэту** сваіх сучасных баёў — стварэць прадпасылкі для пралетарскай рэвалюцыі,—але таксама **і шлях, які вядзе да гэтай мэты,** і канкрэтызуе тое зьвяно, за якое партыя і пралетарыят павінны ухапіцца ў сучасных варунках для таго, каб апанаваць увесь ланцуг, каб даць разьвіцьцю кірунак, які вядзе да мэты—пралетарскай рэвалюцыі.

Зразумела, падобная больш высокая пастаноўка задач у адносінах да агульнапалітычных выступленьняў партыі і масавых баёў, якія непасрэдна стаяць перад пралетарыятам і ўсімі працоўнымі Нямеччыны, абумоўлівае таксама больш **высокую ступень ў сэнсе ўнутры арганізацыйных задач рэвалюцыйнага руху** і арганізацыйнага выкарыстаньня ўсіх тых посьпехаў, якіх партыя дабіваецца ў барацьбе супроць сваіх ворагаў. І гэтае разьвіцьцё ў бок пастаноўкі больш сьмелых, больш буйных задач знайшло свае адлюстраваньне ў працах і рашэньнях студзеньскага пленуму ЦК.

Партыя вядзе барацьбу за заваяваньне тых рабочых, якія дагэтуль зьяўляліся пасьлядоўцамі варожых партыяў, перадусім па двух галоўных напрамках. **Галоўны вораг у клясавай барацьбе** супроць буржуазіі, супроць якога партыя пралетарыяту павінна весьці барацьбу ў Нямеччыне,—гэта **фашызм.** У адносінах да фашыстоўскай масавай партыі, нацыянал-сацыялістаў, пленум ЦК Нямецкай кампартыі ўстанавіў наступны лёзунг:

«Перад партыяй стаіць задача перашкаджаць таму, каб нацыянал-сацыялізм пранік у рабочую клясу, і далей задача адарваць і заваяваць тых нацыянал-сацыялістычных рабочых, служачых і працоўных наогул, якія ахоплены антыкапіталістычнымі настроямі».

У гэтай сувязі, зразумела, надзвычайнае ўзмацненьне нашай **актыўнай масавай барацьбы** супроць фашыстоўскіх забойцаў і тэрарыстаў зьяўляецца рашаючай прадпасылкай дзеля пасьпяховага правядзеньня нашай ідэолёгічнай барацьбы супроць нацыянал - сацыялістаў і нанясеньня паражэньня фашызму. З другога боку, наша праца сярод служачых вымагае асабліва шырокага размаху, бо тут, між іншым, для нацыянал-сацыялізму маюцца аграмадныя рэзэрвы.

Па другое, цяпер, як і раней, **галоўнай перашкодай** па шляху рэвалюцыйнай вызваленчай барацьбы нямецкага пралетарыяту зьяўляецца **сацыял-дэмакратыя** і ў першую чаргу «левая» сацыял-дэмакратыя. Без перамаганьня гэтай галоўнай перашкоды, без зьнішчэньня гэтага **небясьпечнейшага ворага ў лягеры самаго пралетарыяту** партыя і рабочая кляса ніякім чынам ня зможа перамагчы ў барацьбе супроць фашызму і супроць капіталістычнай сыстэмы наогул. Рэзалюцыя студзеньскага пленуму нашага ЦК дзеля гэтага ў пытаньні аб барацьбе супроць сацыял-фашызму робіць значны крок наперад. Рэзалюцыя гаворыць у гэтым сэнсе наступнае:

«У варунках гэтага бушаваньня сярод сацыял - дэмакратычных прыхільнікаў, у варунках крызысу рэфармісцкай тэорыі перад намі вырастае ва ўсім сваім аб'еме рашаючая задача **зьліквідаваць масавы ўплыў сацыялдэмакратыі** і зьліквідаваць **саюз сацыялістычнай моладзі...** як масавую арганізацыю, задача стварыць **адзіны фронт** з сацыял-дэмакратычнымі рабочымі і пралетарскімі членамі саюзу рэспубліканскага тьцягу».

Мы ў далейшым больш падрабязна разгледзім тыя прадпасылкі, якія ў цяперашні час дадзены для такой сьмелай пастаноўкі задач ў барацьбе супроць сацыял-фашызму. Палітыка адзінага фронту ў адносінах да сацыял-дэмакратычных рабочых становіцца рашаючай з

пункту гледжаньня заваяваньня галоўнейшых пластоў пралетарыяту. Зьяўляецца ва ўсякім выпадку ясным, што толькі ў сітуацыі, у якой партыя на падставе агульных фактараў клясавага разьвіцьця здолее ўзяць наступальны і рэвалюцыйны курс, партыя ў той жа час будзе здольна паставіць у парадак дню задачу зьліквідаваньня масавага ўплыву сацыялдэмакратыі і зьліквідаваньня сацыялістычнай арганізацыі моладзі, як масавай арганізацыі.

У сувязі з гэтым лёзунгам ЦК адначасова высунуў лёзунг **падваеньня членскага складу партыі разам з выжываньнем цякучасьці членскага складу.** Тыя буйныя посьпехі, якія за апошнія тыдні як непасрэдна перад пленумам ЦК, гэтак у асаблівасьці пасьля яго паседжаньня партыя змагла зарэгістраваць ва ўсіх вышэйпаказаных галінах, ужо сьведчаць аб тым, што сьмелая пастаноўка задач, дадзеная ЦК, цалкам адпавядае варункам рэвалюцыйнага ўздыму ў Нямеччыне. Бязумоўна пры гэтым партыя сутыкаецца з вялікім лікам **перашкод і цяжкасьцяў,** якія яна патрафіць перамагчы толькі ў працэсе барацьбы ўсёй партыі на падставе сапраўднай **бальшавіцкай самакрытыкі.** Але ў гэтым-жа выражаецца толькі абвастрэньне клясавай сітуацыі, якая разам з больш высокімі задачамі рэвалюцыйнага руху ў той жа час цягне за сабой больш моцны напор на яго ва ўсіх галінах і на ўсіх фронтах клясавай барацьбы. Асаблівае значэньне ў сэнсе галоўных недахопаў і слабасьцяў партыйнай работы маюць, па-першае, **недастатковая колькасьць і вельмі слабае палітычнае жыцьцё фабрычна-заводзкіх ячэяк,** па-другое, ужо памянёная вышэй цякучасьць **членскага складу** і, нарэшце, **недастатковыя лічбы тыражу партыйнага друку.**

Палепшаньне **кіруючых палітычных органаў** партыі і рэвалюцыйнай прафапазыцыі і стварэньне **новых кадраў** для ажыцьцяўленьня павялічваючыхся задач рэвалюцыйна-клясавай барацьбы таксама стаяць у парадку дня. Работа сярод **моладзі і жанчын** палепшылась, але ўсё-ж патрабуецца значнае ўзмацненьне. У яшчэ большай меры гэта адносіцца да нашай работы ў вёсцы, дзе мы павінны ажыцьцяўляць вельмі дыферэнцыяваную работу сярод **сялян і сельска-гаспадарчых рабочых.** Ва ўсіх гэтых галінах паседжаньне ЦК зьявіцца адпраўным пунктам для асноўнай праверкі партыйнай работы ў мэтах выжыцьця слабасьцяў і недахопаў.

Калі мы з паказаных вышэй у асноўных рысах важнейшых рашэньняў апошняга пленуму зробім агульныя вынікі, дык пацьвердзіцца тое, што мы сказалі ў пачатку адносна высокапалітычнага значэньня гэтага пленуму для нямецкай партыі і для ўсяго нямецкага пралетарыяту.

Наша партыя, якая вырасла ў сэнсе сваіх сіл і дасягнула большае сьпеласьці на глебе палітычнага і арганізацыйнага досьледу, здае сабе справу з усёй сур'ёзнасьці сітуацыі і **вялічэзнага значэньня тых баёў, якія ў бліжэйшы час чакаюць нямецкі пралетарыят.** Яна усьведамляе сабе ўсю тую гістарычную адказнасьць, якая на яе кладзецца. І з вытрывалай рашучасьцю яна праводзіць тыя мерапрыемствы, якія здольны паскорыць і паглыбіць рэвалюцыйнае разьвіцьцё ў Нямеччыне і тым самым наблізіць час перамогі пралетарскай рэвалюцыі ў Нямеччыне...

---

**Студзеньскія пастановы ЦК КПЗБ.**

# Аб задачах і тактыцы партыі ў кіраўніцтве сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам у ЗБ.

1. Паглыбленьне палітычнага крызысу фашыстоўскай дыктатуры і нарастаньне рэвалюцыйнай сытуацыі ў Польшчы, а таксама набліжэньне моманту нападу фашыстоўскай Польшчы і міжнароднага імпэрыялізму на СССР выклікае рэзкае абвастрэньне клясавай барацьбы і новыя формы гэтай барацьбы супроць буржуазна - абшарніцкай эксплёатацыі, супроць фашыстоўскай акупацыі. Сыгналам гэтага зьяўляюцца ў першую чаргу падзеі на Зах. Украіне, дзе барацьба шырокіх працоўных і эксплёатаваных мас сялянства прыняла формы масавага стыхійнага падпалу абшарніцкіх, кулацкіх і асадніцкіх гаспадарак, разгрому паліцэйскіх вучасткаў і ўрадовых установаў, а ў паасобных выпадках узбройнага адпору фашыстоўскім карным экспэдыцыям. У Зах. Беларусі барацьба гэтая ня прыняла такіх рэзкіх форм. Аднак, значнае абвастрэньне выступленьняў сялянскіх мас супроць падатковых экзэкуцыяў, шарваркаў і фашыстоўскай зямельнай палытікі, значнае напружаньне забастовачнай барацьбы сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых у шэрагу раёнаў, паасобныя крывавыя сутычкі сялянскіх мас з паліцыяй (Алекшыцы), факты адпору фашыстоўскаму тэрару ў часе выбараў і паасобныя факты падпалаў абшарніцкіх і найбольш зьненавіджаных агентаў фашызму (Палесьсе, Лідчына, Беласточчына) — зьяўляюцца **яскравымі паказчыкамі росту рэвалюцыйных настрояў і актыўнасьці мас, а таксама абвастрэньня форм сялянскага і нац. вызваленчага руху.**

2. Эканамічнае і палітычнае становішча ў вёсцы стварае ўсе неабходныя прадпасылкі для бурных рэвалюцыйных выбухаў і вострых форм барацьбы. Паглыбленьне аграрнага крызысу, які выражаецца ня толькі ў зьніжэньні цэн на збожжавыя прадукты, але і на прадукты жывёлаводзтва, далейшае узмацненьне часова паслабленага на час выбарнай кампаніі падатковага прэсу, паскараюць у небывалым тэмпе працэс руйнаваньня і паўпэрызацыі шырокіх мас сялянства, якія задыхаюцца пад ярмом беззямельля, беспрацоўя і голаду, узрастаючага ярма недаімак і павіннасьцяў, квотніцтва і прыгоннай эксплёатацыі. Клясавы антаганізм паміж эксплёатаваным сельска-гаспадарчым пралетарыятам, напоўгалоднымі і пазбаўленымі магчымасьці стасаваць свае рабочыя рукі масамі вясковай беднаты, з аднаго боку, і ўзмацняючай свае драпежніцкія апэтыты кучкай абшарнікаў, кулацкай і асадніцкай верхавіны вёскі, з другога, усё больш завастраецца і агаляецца, знаходзячы свой выраз у больш вострых формах клясавай барацьбы ў вёсцы. Узмацненьне нацыянальнага прыгнечаньня і фашыстоўскага тэрару, праявіўшыяся ў зьнішчэньні ўсіх легальных масавых арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху, у абвастрэньні палёнізатарскага націску, у масавых арыштах і грашовых штрафах, у нападах і сваяволі паліцыі і фашыстоўскіх арганізацый дзейнічаюць у тым-жа напрамку. Цынічны гвалт і мэтады голага тэрару ў часе выбарнай кампаніі яшчэ больш узмацнілі гэтыя антаганізмы і нянавісьць шырокіх мас да фашыстоўскай акупацыі.

3. Разам з гэтым, адным з важнейшых фактараў уздыму рэвалюцыйнай хвалі ў Заходняй Беларусі зьяўляецца шпаркі тэмп сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР, вялізарныя посьпехі ў галіне сацыялістычнай перабудовы вёскі на падставе калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва, як клясы, у галіне палепшаньня становішча шырокіх мас сялянства, а таксама ў галіне будаўніцтва пралетарскай

па зьмесьце і нацыянальнай па форме культуры. Ва ўмовах надзвычайна сільна ўзросшых сымпатый мас да СССР і яскрава выяўленага імкненьня іх да аб'яднаньня з БССР, выяўленыя шалёныя падрыхтоўкі польскага фашызму да нападу на СССР і роля ў гэтых рыхтаваньнях беларускага нацыянал-фашызму ў ЗБ, контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў БССР, дзейнічаюць, як адзін з найбольш моцных фактараў рэвалюцыйнай актыўнасьці мас на барацьбу супроць фашыстоўскай акупацыі, у абарону СССР.

Раскрытая ў БССР змова контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якія складалі непарыўную частку беларускага нацыянал-фашыстоўскага фронту, і арганізацыйна зьвязаныя з групай Луцкевіча—Астроўскага, асабліва яскрава выяўляе той факт, што беларускі нацыянал-фашызм зьяўляецца аднэй з важнейшых апор фашыстоўскай акупацыі ў ЗБ і актыўным арганізатарам вайны супроць СССР у мэтах паняволеньня БССР. Гэта роля беларускага нацыянал-фашызму, усё шчыльней зрастаючагася з польскім фашызмам і ўсё больш непасрэдна кіраванага праз фашыстоўскую дыктатуру, вынікае з супольнасьці клясавых інтарэсаў беларускай буржуазіі і кулацтва з буржуазіяй пануючай нацыі, дзякуючы агульнай пагрозы іх панаваньню з боку бурна нарастаючай рэвалюцыйнай хвалі ў Польшчы і ЗБ, з боку аграмадных посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, у прыватнасьці БССР.

4. Вынікі выбарнай кампаніі сьведчаць аб скарачэньні сацыяльнай базы фашыстоўскай акупацыі ў Зах. Беларусі. Уплыў прывадных пасаў фашызму да мас — у выглядзе сацыял-, нацыянал- і народніцка-фашыстоўскіх партый—рэзка скараціўся. Пасьпяховае дэмаскаваньне фашыстоўскіх манэўраў у мэтах распаду нац. вызваленчага руху, яскравыя факты падтрыманьня з боку беларускага нацыянал-фашызму фашыстоўскага ўраду значна перашкаджаюць беларускаму нацыянал-фашызму магчымасьць маскавацца ў рэвалюцыйную вопратку. Усё гэта разам з глыбокім эканамічным крызысам і моцнымі ўдарамі, нанесенымі парлямэнцка-дэмакратычным ілюзіям, звужвае манэўраныя магчымасьці фашызму, усё больш затыкае рэзэрвовыя кляпаны для выхаду накапіўшайся рэвалюцыйнай энэргіі ў масах і ствapae прадпасылкі для нямінучых рэвалюцыйных выбухаў.

5. Перспэктыва высокага рэвалюцыйнага напружаньня ў вёсцы, стыхійных рэвалюцыйных выбухаў, вострых форм барацьбы аж да партызанскіх выступленьняў, у варунках уздыму рэвалюцыйнай хвалі і нарастаньня рэвалюцыйнай сітуацыі ў Польшчы, у варунках навісшай пагрозы вайны супроць СССР, ставіць перад нашай партыяй, як неадкладную актуальную задачу, ўсямернае узмацненьне кіраўніцтва барацьбой сялянскіх мас і шырокім нацыянальна-вызваленчым рухам, узмацненьне арганізацыі гэтай барацьбы, ахопу яе нашым уплывам і накіраваньне ў рэчышча барацьбы за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры. Чым шырэй і глыбей наш уплыў у масах, чым мацней сувязь з масамі, чым грунтоўней наш арганізацыйны ахоп, чым больш канкрэтна і непасрэдна наша кіраўніцтва штодзённымі бойкамі мас, тым хутчэй і лягчэй партыя зможа стаць на чале ўсякіх стыхійных форм барацьбы, тым вышэй будуць формы барацьбы мас, тым шырэй будзе разгортвацца фронт рэвалюцыйнага наступу, тым больш гарантыі, што партыя наша не паўторыць памылак, праробленых у часе падзеяў на Зах. Украіне.

6. Уся партыя павінна яскрава уявіць сабе тое, што ступень і формы стыхійных выступленьняў мас могуць быць самымі рознастайнымі, нечаканымі для нас; формаў гэтых нельга ўкласьці ў раней ўстаноўленыя схемы і формулы. Задача нашай партыі—стаць на чале рознастайных форм стыхійнага руху мас, апанаваць яго і ўзьняць на вышэйшую ступень арганізаванай барацьбы. Было-б буйнейшай палітычнай памылкай, мяжуючай з здрадай справе пралетарскай рэвалюцыі, ігнараваньне гэтых форм барацьбы і нейтральныя адносіны да іх; найглыбейшым незразуменьнем рэвалюцыйнай сытуацыі было-б ня бачыць у гэтых формах барацьбы праяўленьня рэвалюцыйнай актыўнасьці мас. Барацьба сялянскіх мас, барацьба супроць акупацыі і нацыянальнага прыгнечаньня па-

вінна быць шчыльна ўвязана з барацьбой пралетарыяту за ўладу і яго штодзённай барацьбой. З гэтай мэтай неабходна, каб кожнае абвастрэньне барацьбы сялянскіх мас знайшло безакладны водгук у выступленьнях рабочае клясы і наадварот. Выступленьні сялянскіх мас за зямлю, супроць падаткаў, супроць акупацыі неабходна спалучаць з эканамічнымі і палітычнымі стачкамі, дэманстрацыямі і т. п. у гарадох, з забастоўкамі батракоў і сэзонных рабочых. Узмацоўваючы гегемонію пралетарыяту ў кіраўніцтве сялянскім і нацыянальна-вызваленчым рухам, партыя павінна зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне работы па арганізацыі сельска-гаспадарчых рабочых і пашырэньню свайго ўплыву сярод іх, як неабходнага варунку ажыцьцяўленьня гэтай задачы.

Партарганізацыі больш чым калі-небудзь павінны ўзмацніць сувязь з масамі, чуласьць да ўсіх драбнейшых працэсаў, якія адбываюцца ў масах, і безадкладна рэагаваць на іх, разьвіваючы ўсякае выступленьне мас на грунце іх штодзённых патрэб у барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры і контррэвалюцыйнай вайны супроць СССР, якую фашызм падрыхтоўвае.

Выходзячы з вышэйпаказанага, разьвіваючы рашэньні V зьезду КПП і IV пленуму ЦК КПЗБ, ЦК ставіць перад партарганізацыямі на бліжэйшы пэрыяд наступныя задачы:

1. **Разгарнуць шырокую кампанію супроць інтэрвэнцыі ў абарону СССР.** Барацьба супроць інтэрвэнцыі, у абарону СССР і БССР павінна быць падставаю ўсіх акцый, якія разьвівае наша партыя. У ходзе гэтых акцый партыя павінна яскрава і выразна паказаць масам, што ўсякае новае ярмо, якое накладае на іх фашыстоўскі ўрад (падаткі, шарваркі, павіннасьці і г. д.), усякае праяўленьне абвастрэньня фашыстоўскага рэжыму, нацыянальнага прыгнечаньня і тэрару, непасрэдна зьвязана з узмацненьнем арганізацыі вайны. Вайна нясе сьмерць і калецтва мільёнам рабочых і сялян, новае ярмо падаткаў і павіннасьцяў. У Зах. Беларусі, якая зьявіцца тэатрам будучай вайны, вайна азначае зруйнаваньне і зьнішчэньне сотняў тысяч бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак, рэквізыцыю іх інвентару і маёмасьці, мілітарызацыю ўсяго насельніцтва для абслугоўваньня фашыстоўскай арміі (абозы, рыцьцё акопаў, збудаваньне драцяных загарадак, ахова мастоў, чыгунак і г. д.), палявыя суды і пагромы, карныя экспэдыцыі, гвалтаваньне і сваявольле фашыстоўскай арміі і банд паліцыі, жандармэрыі і вайсковых фашыстоўскіх арганізацый. Партыя павінна растлумачыць масам, што папярэдзіць ліха вайны магчыма толькі шляхам актыўнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і вайны, якую яна рыхтуе, шляхам ператварэньня імпэрыялістычнай контррэвалюцыйнай вайны ў вайну грамадзянскую і зваленьня фашыстоўскай дыктатуры шляхам узброенага паўстаньня. На падставе гэтага партыя павінна выясьніць масам усю шкоднасьць пасыўнага чаканьня вайны, якое толькі аблягчае фашыстоўскай дыктатуры яе падрыхтоўку і арганізацыю.

Неабходна асабліва выразна і яскрава паставіць перад масамі ролю беларускага нац. фашызму ў арганізацыі вайны супроць СССР і ўзмацненьні фашыстоўскай акупацыі на Зах. Беларусі, а таксама ролю яго ў барацьбе супроць пралетарскай рэвалюцыі ў Беларусі на баку нямецкага, французскага і польскага імпэрыялізму ў пэрыяд 1917—20 г.г.

2. Безадкладна прыступіць да замацаваньня і пашырэньня сувязяй сярод сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых, бяручы, як пункты апоры, мясцовасьці, якія былі ахоплены забастовачным рухам у мінулую летнюю і вясеньнюю кампанію. Партарганізацыі павінны дасканала вывучыць досьлед мінулых сельска-гаспадарчых забастовак, варункі работы і патрабаваньні батракоў і сэзонных рабочых, выкарыстоўваючы зімовы пэрыяд для падрыхтоўкі сельска-гаспадарчых забастовак вясной на больш шырокай базе бягучага году.

Выходным пунктам у гэтай кампаніі павінна паслужыць заключэньне новых калектыўных умоў у сельскай гаспадарцы, дзеля чаго партарганізацыі павінны безадкладна прыступіць да фармуляваньня патрабаваньняў сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых і стварэньня камітэтаў акцый з прыцягненьнем да гэтага самой рабочай масы. Трэба пра-

весьці рашучую барацьбу з ППС—і ББС-аўскай прафсаюзнай бюрократыяй, якая прадае за сьпіной мас інтарэсы сельска-гаспадарчых рабочых; выбіраць дэлегатаў для непасрэднага ўдзелу ў перагаворах з абшарнікамі і не прызнаваць здрадніцкіх умоў, заключаных сацыял-фашыстамі, і рашэньняў арбітражных камісіяў. У ходзе кампаніі неабходна прыступіць да рэарганізацыі рэвалюцыйнага прафруху сельска-гаспадарчых рабочых, абапіраючагася на шырокую сетку фальварачных камітэтаў і камітэтаў сэзонных рабочых.

3. Цэнтральнай кампаніяй для мабілізацыі сялянскіх мас павінна і надалей быць барацьба супроць падаткаў, павіннасьцяў і экзэкуцыяў. Падрыхтаваны партыяй грунт для барацьбы з падатковым уціскам пры дапамозе шырокай агітацыі і папулярызацыі лёзунгу «ні граша фашыстоўскаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрару і вайны», павінен быць выкарыстаны для арганізацыі масавага адмаўленьня ад плацяжу падаткаў, недаімак, пазычак і штрафаў і паўсямеснага адмаўленьня ад выкананьня шарваркаў і адпору экзэкуцыям. Арганізацыю неплацежу падаткаў неабходна паставіць, як канкрэтную задачу дня, у вёсках і раёнах, якія маюць ужо традыцыі гэтай барацьбы і дзе, дзякуючы як аб'ектыўных умоваў, гэтак і заўчасна шырока праведзенай агітацыі, варункі для гэтага дасьпелі. Адначасова з арганізацыяй адмаўленьня ад плацяжу падаткаў неабходна арганізаваць масы на актыўны адпор экзэкуцыям і фашыстоўскаму тэрару, зрыў драпежніцкіх ліцытацыяў сялянскай маемасьці. Асаблівую ўвагу належыць зьвярнуць на тое, каб ахопленыя неплацяжом падаткаў вёскі і раёны ня былі ізаляванымі, а барацьба гэта была пашырана на суседнія вёскі і раёны і знайшла моцны водгук салідарнасьці ва ўсёй ЗБ, а ў першую чаргу сярод прамысловага пралетарыяту ў форме мітынгаў, дэманстрацыяў і палітычных стачак у адказ на распраўы з боку фашызму з змагаючыміся сялянскімі масамі. Па меры таго, як адмаўленьне ад плацяжу падаткаў прыме шырокія памеры ва ўсёй ЗБ, а таксама ў выпадку буйных вострых рэвалюцыйных боек, ахапліваючых падставовыя асяродкі Польшчы і Заходнюю Украіну, партыя павінна прыступіць да арганізацыі паўсямеснага адмаўленьня ад плацяжу падаткаў і актыўнага масавага адпору экзэкуцыям.

Барацьба супроць падаткаў павінна быць шчыльна ўвязана з барацьбой супроць дарагоўлі на рэчы першай неабходнасьці (напр.: павялічэньне звыш чым у два раза цэн на запалкі і г. д.), супроць спэкуляцыі і ліхвярства, выкарыстоўваючага аграрны крызыс і падатковы ўціск для зьніжэньня загатоўчых цэн на прадукты бедняцкай і серадняцкай гаспадаркі і паняволеньня працоўных мас вёскі.

Адначасова неабходна разгарнуць шырокую барацьбу за дзяржаўную дапамогу за кошт абшарнікаў і капіталістых для сотняў тысяч беспрацоўных у вёсцы і галадуючых, арганізуючы дэманстрацыі і галодныя паходы і іншага віду масавыя выступленьні сялянскіх мас пад гэтымі лёзунгамі.

4. На падставе разгорнутай барацьбы супроць падаткаў неабходна ўзмацніць і абвастрыць формы барацьбы з усёй фашыстоўскай зямельнай палітыкай, за зямлю бяз выкупу, арганізуючы адпор мас пры правядзеньні камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў. Неабходна арганізаваць адмаўленьне ад выхаду на хутары, самавольнае карыстаньне сэрвітутамі, масавую—цэлымі вёскамі—рубку лесу і будаўнічых матар'ялаў як у сэрвітутных, так і іншага роду абшарніцкіх і дзяржаўных лясох, а з наступленьнем вясны масавы выпас жывёлы на ліквідаваных сэрвітутных выпасах і сенажацях.

У выпадку налажэньня праз адміністрацыю штрафаў і кантрыбуцыяў за самавольнае карыстаньне абшарніцкімі і дзяржаўнымі лясамі, адпор пры камасацыі, невыкананьне шарварак, за палітычныя выступленьні сялянскіх мас, а таксама пры ўвядзеньні кругавой парукі для уплаты падаткаў, пазык і г. д., пры ускладаньні на сялян аховы абшарніцкай і дзяржаўнай маёмасьці, неабходна арганізаваць адмаўленьне ад плацяжу штрафаў і кантрыбуцыяў і актыўны адпор пры спагоне іх, адмаўленьне ад выстаўленьня варты і г. д.

5. У працэсе разгортваньня гэтай барацьбы неабходна прыступіць да стварэньня шырокай сеткі сялянскіх камітэ-

таў барацьбы, як асноўнай формы арганізацыі сялянскіх мас у даных умовах. Сялянскія камітэты павінны быць арганізаваны явачным парадкам паўсюды, дзе разгортваецца барацьба сялянскіх мас супроць падаткаў, шарваркаў, экзэкуцый, камасацыі, ліквідацыі сэрвітутаў, за школу на роднай мове, супроць фашыстоўскага тэрару і г. д. Задача гэтых камітэтаў—кіраваць штодзённай барацьбой сялянскіх масаў, абапіраючыся на шырокія масы сялянскай беднаты і серадняцтва. Задача партарганізацый—кіраваць дзейнасьцю сялянскіх камітэтаў шляхам стварэньня ў іх трывалых і актыўных камуніст. фракцый, і накіроўваць штодзённую барацьбу сялянскіх мас у агульнае рэчышча рэвалюцыйнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры. Дзеля гэтага павінна быць выкарыстана таксама існуючая сетка выбарных і інш. камітэтаў у вёсцы. Партарганізацыі павінны імкнуцца каб сялянскія камітэты ня спынялі свайго існаваньня па сканчэньні данай частковай акцыі, працягвалі дзейнасьць і разгортвалі далейшую барацьбу на падставе патрэбаў і балячак працоўных мас, устанаўліваючы сувязь з іншымі сялянскімі камітэтамі для пашырэньня фронту барацьбы і каардынацыі яе (раёныя і акруговыя канфэрэнцыі камітэтаў барацьбы і г. д.).

6. Пасьпяховае ажыцьцяўленьне гэтых задач непарыўна зьвязана з арганізацыяй дружын масавай самаабароны з найбольш актыўных элемэнтаў пралетарыяту, сялянскай беднаты і серадняцтва. Арганізацыя дружын масавай самаабароны павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсіх вясковых арганізацый партыі і КСМ, у асаблівасьці жа ў мясцовасьцях, якія ахоплены шырокай масавай барацьбой супроць падаткаў і фашыстоўскай зямельнай палітыкі. Неабходна устанавіць шчыльную сувязь паміж асобнымі дружынамі самаабароны акаляючых вёсак і арганізаваць іх супольныя выступленьні для арганізацыі адпору мас карным экспэдыцыям, экзэкуцыям пры налётах паліцэйскіх і фашыстоўскіх банд на асобныя вёскі і г. д.

У шчыльнай ўвязцы з арганізацыяй дружын масавай самаабароны павінна быць надана асаблівая ўвага распрацоўцы і ажыцьцяўленьню канкрэтных мераприемстваў для кіраваньня і ахопу партыйным кіраўніцтвам партызанскага руху, які можа выбухнуць, як у варунках вайны, гэтак і ў выніку абвастрэньня форм барацьбы супроць акупацыі на фоне масавага рэвалюцыйнага руху ва ўсёй Польшчы. Партарганізацыі павінны ўявіць сабе, што на абвостраныя формы барацьбы сялянскіх масаў фашыстоўскі ўрад адкажа ўдзесяцяроным тэрарам, яскравы прыклад чаго мы бачым у карных экспэдыцыях на ЗБ у пэрыяд 1923—24 г.г., а таксама ў мінулым годзе ў Заходняй Украіне. Арганізацыя адпору мас узброеным сілам фашызму зьяўляецца дзеля таго ў сучасны момант аднэй з галоўнейшых задач нашай партыі.

7. Партыя павінна максымальна разгорнуць барацьбу на падставе штодзённых патрэб мас супроць узмацняючагася нацыянальнага уціску і фашыстоўскай акупацыі пад лёзунгам самавызначэньня аж да аддзяленьня і аб'яднаньня Зах. Беларусі з БССР. Барацьба гэта павінна разгортвацца на падставе шырокай кампаніі супроць разгрому арганізацыяў нацыянальна - вызваленчага руху, рэвалюцыйнай прэсы, супроць узмацняючагася націску полёнізацыі, супроць актыўных саюзьнікаў фашыстоўскай акупацыі — беларускіх нацыянал - фашыстаў. У сучасны момант увагу неабходна згуртаваць супроць новага паходу на ТБШ — гэтай адзінай масавай арганізацыі нац вызваленчага руху, паходу, які ідзе як па лініі разгрому арганізацый ТБШ, гэтак і новых спроб Луцкевіча — Астроўскага, каб апанаваць яго...

. . . . . . . . . . . . . . .

Адначасна неабходна разгарнуць шырокую кампанію за школу на роднай мове, барацьбы з фашызмам, клерыкалізмам, палёнізацыяй і нацыянал - фашызмам у школе. У разьвіцьцё рашэньняў IV пленуму, ЦК адзначае, што ў сучаснай стадыі разьвіцьця рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі формы гэтай барацьбы неабходна завастрыць, і таму лічыць не мэтазгоднымі формы, якія зводзяцца толькі да падаваньня дэкларацыяў аб адчыненьні школы на роднай мове. Неабходна арганізаваць у школах масавае адмаўленьне ад навучаньня на польскай мове, патрабаваць выкладаньня на роднай мове, а таксама арганізаваць

масавыя выступленьні супроць фашыстоўскага і нацыянал-фашыстоўскага настаўніцкага пэрсаналу. Цэнтр цяжару ў гэтай барацьбе павінен ляжаць у шырокіх масавых выступленьнях рабочых і сялян у форме мітынгаў і дэманстрацыяў, у адмаўленьні даваць сродкі на ўтрыманьне фашыстоўскіх і палёнізатарскіх школ, дапасоўваючы гэта з адпаведнымі выступленьнямі вучнёўскай моладзі і дзяцей. Гэта акцыя павінна быць таксама шырока разгорнута ў мясцовых самаўрадах, дзе трэба ўносіць адпаведныя прапановы і рэзалюцыі.

Абавстраючы формы барацьбы супроць нацыянальнага ўціску, партыя павінна ўсямерна пасіліць барацьбу супроць беларускіх нацыянал-фашыстоўскіх арганізацыяў, пранікненьня агэнтаў нацыянал-фашызму ў шэрагі арганізацыяў нацыянальна-вызваленчага руху, хістаньняў унутры яго, адбіваючых ціск нацыянал-фашызму на асобныя зьвеньні гэтага руху, а таксама з нацыянал-апартуністычнымі ўхіламі ў партыі і праявамі нацыянал-апартунізму на практыцы. Неабходна разгарнуць больш шырока выступленьні пралетарыяту, у прыватнасьці польскага і яўрэйскага, для барацьбы супроць узмацняючагася нацыянальнага ўціску і акупацыі; неабходна таксама дабіцца больш шырокага прыцягненьня рабочых у арганізацыі нацыяльна-вызваленчага руху.

8. Партыя павінна ўсямерна выкарыстаць бушаваньне ў нізавых арагнізацыях нацыянал-і народніцка-фашыстоўскіх партыяў для адрыву ад іх мас і стварэньня рэвалюцыйных масавых арганізацый. З гэтай мэтай неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на нізавыя апазыцыі ў шэрагах Строніцтва Хлопскага, як найбольш масавай народніцка-фашыстоўскай арганізацыі на ЗБ. Партыя павінна наладзіць сувязі ў гэтых апазыцыях, стварыць там сталыя апорныя пункты, каб абапіраючыся на іх, арганізаваць масавы выхад цэлых нізавых арганізацый з Строніцтва Хлопскага альбо масавыя расколы ў арганізацыях гэтых партый, на пляцформе рэвалюцыйнай барацьбы супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе агэнтаў — правадыроў нацыянал-і народніцка-фашыстоўскіх партыяў.

9. Узмацняючы барацьбу з сацыял-нацыянал - народніцка - фашыстоўскімі партыямі, як найбольш небясьпечнымі ворагамі ў барацьбе за масы, партыя павінна адначасова ўзмацніць барацьбу з непасрэдна фашыстоўскімі арганізацыямі ў вёсцы (Стралец, арганізацыі ББ, гаспадарчыя арганізацыі фашызму і г. д.), напружваючы ўсе сілы для разлажэньня, разьбіцьця і ізаляваньня іх ад мас. У гэтай галіне дзейнасьць нашай партыі была вельмі невыстарчальнай, шмат якія арганізацыі лічаць, што непасрэдна-фашыстоўскія арганізацыі ўжо здэмаскаваны перад масамі і не прадстаўляюць ніякай небясьпекі. Гэта ў корані памылковая ўстаноўка не забавіла даць адмоўныя вынікі, спрыяючы ў шэрагу месц узмацненьню непасрэдна-фашыстоўскіх арганізацый на вёсцы.

10. Вельмі слабы ўплыў нашай партыі сярод польскага і літоўскага сялянства вымагае рашучага пералому ў гэтай галіне работы. Падставовай прычынай гэтага зьяўляецца нацыянальная абмежаванасьць і сэктанцкая замкненасьць нашых вясковых арганізацыяў, якія не прабуюць нават выйсьці з сфэры беларускага і ўкраінскага сялянства. Сэктанцкая замкненасьць жывіць таксама існуючыя антыбатрацкія настроі, крыніцай якіх зьяўляецца націск кулацкай стыхіі на асобныя зьвеньні нашай партыі. Партыя павінна рашуча змагацца з усякімі праявамі шавінізму, нацыянальнай замкненасьці і сэктанцтва, якія пагражаюць асабліва вострымі вынікамі, дзякуючы непасрэднай небясьпецы вайны, калі слабасьць нашага ўплыву сярод мас польскага працоўнага сялянства стварае спрыяючыя ўмовы для вырашчваньня нацыяналістычных і шавіністычных настрояў для мабілізацыі мас на вайну супроць СССР і распальваньня нацыянальнай розьні.

ЦК высоўвае як ударную задачу перад АК Беластоку, Горадні, Вільні і Ліды ў бліжэйшы час пранікнуць у асяродзішча польскага і беларускага каталіцкага сялянства, а перад АК Вільня, Сьвенцяны— у асяродзішча літоўскага сялянства і арганізаваць барацьбу гэтых мас на падставе іх штодзённых патрэбаў.

11. ЦК ставіць перад усімі арганізацыямі задачу стварыць нарэшце рашучы пералом у галіне арганізацыі рэвалю-

цыйных фракцый у ворганах мясцовых самаўрадаў і кіраўніцтва іх дзейнасьцю на падставе рашэньняў IV пленуму ЦК КПЗБ. ЦК абавязвае ўсе АК і РК у кожнай сваей справаздачы спэцыяльна інфармаваць аб тым, што зроблена для ажыцьцяўленьня гэтай дырэктывы.

12. ЦК завастрае ўвагу ўсіх мясцовых арганізацый аб узмацненьні з іх боку кіраўніцтва нізавымі масавымі арганізацыямі, аб неабходнасьці неадкладнага палітычнага і арганізацыйнага рэагаваньня праз свае камфракцыі на ўсялякія скрыўленьні рэвалюцыйнай лініі ў гэтых арганізіцыях, а ў асаблівасьці-ж на барацьбу з нацыянал- і народніцка-фашыстоўскімі агентамі і рэнэгатамі ўнутры іх.

13. ЦК яшчэ раз падкрэсьлівае неабходнасьць узмацненьня кіраўніцтва з боку АК раённымі вясковымі арганізацыямі і ажыўленьня работы вясковых арганізацый, як партыйных, гэтак і камсамольскіх. Пералом, дасягнуты ў гэтай галіне ў некаторых акругах у час выбарнай кампаніі, павінен быць замацаваны і пашыраны. ЦК канстатуе недапушчальную слабасьць работы ў райкомах былой Віленскай акругі. Пастаўленае рубам IV пленумам пытаньне аб вылучэньні вясковага актыву з-пасярод сельска-гаспадарчых рабочых і вясковай беднаты дагэтуль таксама яшчэ не пастаўлена на мясцох ва ўсю шырыню.

Пэрпэктыва бурнага разьвіцьця рэвалюцыйнай хвалі ў вёсцы і абвастрэньня форм гэтай барацьбы — патрабуе узьняцьця ініцыятыўнасьці, актыўнасьці і самадзейнасьці мясцовых арганізацый, што непасрэдна зьвязана з вылучэньнем і выхаваньнем новых кадраў, моцна зьвязаных з масамі, з правільнай арганізацыяй дзейнасьці вясковых ячэяк і ўзмацненьнем кіраўніцтва імі з боку РК і АК. Разам з гэтым ЦК завастрае ўвагу партарганізацый на неабходнасьці пашырэньня сеткі вясковых партарганізацый, у асаблівасьці-ж у мясцовасьцях, якія маюць асабліва важнае значэньне з ваеннага пункту погляду і ў мясцовасьцях, якія могуць быць ачагамі партызанскага руху.

Падрыхтаваць свае шэрагі да варункаў вайны і абвостраных клясавых боек—асноўная задача нашай партыі, на ажыцьцяўленьне якой неабходна накіраваць усе сілы.

14. Аграмадныя недахопы і шэраг буйнейшых памылак, якія выявіліся ў рабоце нашых вясковых арганізацый, патрабуюць напружаньня ўсіх сіл партыі на перамаганьне гэтых недахопаў і выпраўленьне памылак на падставе бальшавіцкай самакрытыкі. Узмацняючы барацьбу з правым апартунізмам, як галоўнай небясьпекай на даным пэрыядзе, неабходна таксама бязьлітасна змагацца з праявамі лева-апартуністычных загібаў і сэктанцтва. Аднэй з прычын гэтага зьяўляецца вельмі марудны тэмп усьведамленьня лініі партыі вясковымі партарганізацыямі, шмат з якіх жывуць яшчэ ўстаноўкамі дадзенымі партыяй два гады таму назад.

Усьведамленьне ўсімі вясковымі арганізацыямі лініі партыі і бязьлітасная барацьба з усімі праявамі памылак, як правага, гэтак і левага характару, на падставе шырока разгорнутай самакрытыкі, партарганізацыі павінны паставіць як ударную задачу, без ажыцьцяўленьня якой немагчыма з посьпехам кіраваць насьпяваючымі буйнейшымі баямі.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ І БАРАЦЬБА.

## КАМПАНІЯ 25 ЛЮТАГА Ў БЕЛАСТОКУ.

### Ліст з Беластоку.

Падрыхтоўчая праца да 25 лютага пачалася ў нас за некалькі тыдняў да гэтага дня. Былі спробы праводзіць мітынгі пры ПУПП'е і каля фабрык. Каля фабрык Шапіра, Готліба і іншых сярод рабочых распаўсюджвалася партыйная літаратура.

Плян правядзеньня 25-га быў такі: з раньніцы вызначана была мабілізаваць усе сілы для арганізацыі мітынгу пры ПУПП'е і фарміраваньня дэманстрацыі. Пасьля абеду, калі зьмяняюцца рабочыя ў гуце, меркавалі наладзіць там масоўку і таксама пératварыць яе ў дэманстрацыю, скіроўваючы яе да бліжэйшых фабрык Шапіра, Готліба і Маліняка.

25 лютага ПУПП быў зачынены па прычыне „перарэгістрацыі кніг", але ўсе беспрацоўныя дасканала зразумелі сапраўдную прычыну закрыцьця. Баяліся выступленьня беспрацоўных, таму ўлады рашылі зусім не дапускаць да збору вялікіх мас беспрацоўных у адным месцы. З самай раньніцы вакол ПУПП'а было сканцэнтравана шмат паліцыі, наогул горад выглядаў, як вайсковы лягер.

Калі мы напярэдадні 25-га, позна ўвечары, даведаліся аб тым, што ПУПП будзе зачынены, мы ўсё-ж такі пастанавілі сканцэнтраваць усе нашы сілы каля ПУПП'а і клікаць туды беспрацоўных. Але гэта ў вялікіх разьмерах не ўдалося зрабіць таму, што нашая арганізацыя яшчэ не аказалася досыць згуртаванай і гнуткай дзеля таго, каб шпарка перабудавацца і пацягнуць за сабою масы

Галоўная наша памылка ва ўсёй падрыхтоўчай кампаніі да 25-га тое, што мы вельмі мала зрабілі для таго, каб арганізаваць масу, каб прасякнуць у самую глыбіню мас. Мы ўвесь час разьлічвалі на тое, што будзем мець ужо сабраную масу беспрацоўных пры ПУПП'е. Ясна, што прычына, якая выклікала гэтую памылку, гэта яшчэ нязжытае няверра ў масы і слабая яшчэ зьвязанасьць партарганізацыі з масамі.

Хаця ў ходзе гэтай кампаніі мы і мелі шэраг больш масавых выступленьняў беспрацоўных, аднак, пералом у бок масавай працы яшчэ ня зроблены. Справа пералому, справа работы ў масах і ў далейшым застаецца нашай асноўнай задачай.

На працягу ўсей кампаніі мы ня выбралі ні воднага камітэту беспрацоўных, не стварылі беспартыйнага левага актыву, не стварылі ў ходзе кампаніі дружын масавай самаабароны.

Нашы ячэйкі яшчэ не стаяць на неабходнай вышыні. Гэтыя асноўныя партыйныя зьвеньні яшчэ слаба зьвязаны з масамі іх фабрык і прадпрыемстваў.

Такую ацэнку кампаніі прыняў Гарадзкі Камітэт Беластоцкай арганізацыі і пастанавіў: мабілізаваць усе сілы нашай арганізацыі на тое, каб узмацніць працу сярод працуючых і беспрацоўных пралетарскіх мас Беластоку. Бальшавіцкай самакрытыкай мы выкрываем ўсе нашы памылкі і недахопы, каб з тым большай актыўнасьцю кіраваць рэвалюцыйнай барацьбой рабочых і быць арганізатарамі новага рэвалюцыйнага ўздыму.

Б.

## БОЛЬШ СІЛ НА ФАБРЫКІ І МАЁНТКІ.

### (Лідзкая акруга).

У Лідзкай акрузе ёсьць досыць значная колькасьць фабрык, на якіх працуе нямала рабочых. Гута „Нёман" (400 рабочых), фабрыка калёш (300 чалавек), хэмічная фабрыка (каля 100 чал.), шэраг тартакоў, фанэрная фабрыка ў Шчучынскім раёне—усё гэта тыя асяродкі, дзе наша партыя павінна быць рашаючай палітычнай сілай. Апроч гэтага ў акрузе маецца нямала маёнткаў і фальваркаў, дзе працуюць у страшэнных умовах абшарніцкай эксплёатацыі парабкі і сэзоньнікі.

Зразумела, што лідзкая акруговая арганізацыя, усе яе вясковыя і мястэчковыя ячэйкі, павінна сваёй баявой задачай лічыць заваёву менавіта гэтых рашаючых рабочых асяродзьдзяў акругі. Трэба прызнаць, што да гэтага часу гэтая задача яшчэ далёка ня выканана. Некаторыя мястэчковыя арганізацыі (Эйшышкі, Воронава і г.д.), сама гарадзкая Лідзкая арганізацыя не праяўлялі неабходнай актыўнасьці, каб пранікнуць на фабрыкі і заводы. З гутай „Нёман", якая ў свой час вяла працяжную гераічную барацьбу супроць фабрыкантаў і паліцыі, партыйная арганізацыя згубіла кантакт і ня мае яго да гэтага часу. Няма кантактаў і з чыгуначнікамі, якія ў Лідзе складаюць значны атрад рабочае клясы. Усе гэтыя недахопы зьяўляюцца важнейшымі ў працы Лідзкай арганізацыі.

Можна з задаваленьнем канстатаваць, што лідзкія таварышы зразумелі гэты недахоп і пачынаюць скіроўваць свае сілы ў бок вырашэньня задачы па заваёве рабочых цэнтраў.

Ужо кампанію „3-х Л" лідзкая арганізацыя праводзіла перадусім пад пунктам гледжаньня пранікненьня на прадпрыемствы, у маёнткі і вёскі. Арганізацыя пачала працу сярод беспрацоўных. Кіраўніцтва лідзкай арганізацыі высоўвае перад мясцовымі ячэйкамі і раёнамі задачу разгортваньня і кіраўніцтва штодзённай эканамічнай барацьбой рабочых і батракоў. Яно ўказала, напрыклад, эйшыскім таварышам на буйную іх памылку якая выражалася ў тым, што яны амаль ніякай працы па арганізацыі эканамічнай барацьбы рабочых мястэчка не вялі.

Ясна, што побач з вырашэньнем гэтай задачы лідзкая арганізацыя павінна значна ўзмоцніць сваю працу і сярод працоўных мас сялянства.

Трэба, каб лідзкія таварышы дзяліліся сваім вопытам з усей партыяй на старонках нашага партыйнага друку.

## АРГАНІЗАВАЦЬ СЯЛЯНСКІЯ МАСЫ НА БАРАЦЬБУ СУПРОЦЬ ШАРВАРКАЎ І ПАДАТКАЎ.

### (Ліст з Бярэсьцейскай акругі).

Незадаваленьне супроць падаткаў і шарваркаў у вёсках Бярэсьцейскай акругі аграмаднае. Падатковы ўціск, асабліва цяжкі таму, што сяляне павінны прадаць зараз у два разы больш хлеба, чым у мінулым годзе, каб заплаціць падаткі, а сэзонных прац ніякіх няма.

Нашы мясцовыя арганізацыі работалі ня ў кірунку мабілізацыі сялянскіх мас на барацьбу і арганізацыю выступленьняў, а шлі выключна па лініі голага прапагандызму. „Мы правялі за апошні тыдзень аграмадную работу"—заяўляе сябра Владаўскага райкому—„паўсюды правялі рэфэраты аб крызысе і падатках". Зразумела, што рэфэраты—рэч неабходная, але калі ўся масавая праца арганізацыі абмяжоўваецца толькі гэтымі рэфэратамі для вузкага кола слухачоў, дык гэта ўжо кепска.

З 9 раённых арганізацыяў у адным толькі Падгародзкім раёне ўвосень, яшчэ пры правядзеньні экзэкуцыі, сабралося 30-40 вясковых жанчын, якія далі адпор сэквэстратарам.

У Лышчыцкім раёне мясцовыя ўлады ўводзяць працу шарваркамі за падаткі.

У сяле Камароўка (Владаўскага раёну) з 150 сялянскіх гаспадарак—70 знаходзіцца напярэдадні ліцытацыі. Наша арганізацыя выкінула лёзунг неплацяжу падаткаў, як лёзунг непасрэднага дзеяньня.

Мы маем весткі, што гэтай вясной шарваркі будуць праводзіцца асабліва актыўна і ахопліваць вялікую тэрыторыю. У ваенных мэтах праводзіцца шасэ Бярэсьце-Янава праз Лышчыцы, у Тэраспольскім раёне—Тэрасполь-Кодэнь, у Владаўскім раёне—Палеміцэ-Кашары да Кобрынскага шасэ і г.д.

Арганізацыя наша праводзіць досыць значную работу па мабілізацыі сялянскіх мас на барацьбу за невыкананьне шарваркаў. У Высока-Літоўскім раёне было 4 масоўкі ў 4-х вёсках, на якіх пастаноўлена на шарваркі не выходзіць. Масоўкі праведзены ў Тэраспольскім і іншых раёнах. Акруговае кіраўніцтва партыі ўказвае раёнам і ячэйкам на неабходнасьць большай масавасьці ў барацьбе супроць шарваркаў і падаткаў.

## ДАСЯГНЕНЬНІ КОБРЫНСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ Ў МАСАВАЙ ПРАЦЫ.

Кобрынская партыйная арганізацыя шырока падрыхтавала кампанію „дня голаду". У выніку масавай працы арганізацый, кампанія ахапіла значны лік сялян і працуючых рабочых.

Сярод сялян акаляючых вёсак была арганізавана дэманстрацыя, у якой прыняла ўдзел шмат сялян і батракоў. Дэманстрацыя пайшла ў горад, па дарозе зьбіраючы з сабою ўсіх рабочых гуты. У горадзе дэманстрацыя рушыла пад ПУПП, дзе ў гэты час было шмат беспрацоўных, якія прышлі па закліку партыі разам з жонкамі і дзяцьмі. Адтуль усе, у колькасьці ля 1.400 чалавек рушылі з транспарантамі пад магістрат, кідаючы антыфашыстоўскія лёзунгі. Асабліва актыўна праяўлялі сябе жанчыны, якія з крыкамі „хлеба і працы" выбілі ўсе шыбы ў магістраце і з кольлем ў руках абараняліся супроць паліцыі.

Узмоцненыя атрады паліцыі пачалі разганяць дэманстрацыю. Паліцыя страляла ў дэманстрацыю і параніла некалькі чалавек. Арыштавана некалькі дзясяткаў рабочых і сялян. У горадзе і акаляючых вёсках сярод рабочых, батракоў і сялян узбураны рэвалюцыйны настрой.

Кобрынская арганізацыя павінна і надалей разгортваць масавую кампанію, уцягваць у яе новыя масы працуючых і беспрацоўных, сялян і батракоў, павінна завастраць клясавую барацьбу супроць фашызму і сацыял-фашыстаў.

## ВІЛЕНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ВІТАЕ ЦК КПЗБ.

Дарагія таварышы! Пленум Віленскага акруговага камітэту КПЗБ пасылае бальшавіцкае прывітаньне цьвёрдаму змагару і кіраўніку шырокіх працоўных мас Заходняй Беларусі — ЦК КПЗБ. АК з задаваленьнем вітае пастанову аб калектыўным кіраўніцтве. Калектыўнае кіраўніцтва ёсьць неад'ёмным варункам яшчэ большага згуртаваньня нашых партыйных арганізацый, убаяўленьня нашых шэрагаў, узьняцьця кожнай ячэйкі на ўзроўні фактычнага кіраўніка барацьбой на сваім вучастку, сцэмэнтаваньня нашых шэрагаў у барацьбе супроць правага ўхілу Кастшэвы, Варскага, Бранда, як галоўнай небясьпекі для партыі на даным этапе, таксама як і супроць ультра-левых адхіленьняў ад партыйнай лініі.

АК зварочваецца да ўсей партыйнай арганізацыі і КСМ з заклікам: сьмела выкрываць усе слабыя і хваравітыя месцы ў нашай агульна-партыйнай працы і пры дапамозе шырока разгорнутай бальшавіцкай самакрытыкі зьнішчыць усе нашы недахопы як у працы АК, райкомаў і гаркомаў, таксама і ў працы ячэяк.

Віленскі АК быў, ёсьць і застанецца вернай апорай ЦК КПЗБ у яго барацьбе з рознымі ўхіламі ад лініі партыі і пад кіраўніцтвам ЦК—АК выканае ўсе ўскладзеныя на яго задачы.

З камуністычным прывітаньнем

Віленскі АК КПЗБ.

## ЗЬВЯРНУЦЬ УВАГУ ЎСІХ ПАРТЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ НА ПРАЦУ МОПР'у.

Трэба прызнаць, што праца Мопраўскіх арганізацый на Заходняй Беларусі церпіць ад шмат недахопаў і хібаў. Галоўным недахопам зьяўляецца недастатковая масавасьць мопраўскіх арганізацый, недастатковае разгортваньне ўнутры іх палітычнай работы, недастатковае ўцягваньне Мопру ў актыўную барацьбу супроць белага тэрару акупантаў.

Значная віна тут ляжыць і на партыйных арганізацыях, якія слаба кіруюць гэтай шырокай арганізацыяй рабочых і сялян і не зварочваюць на яе працу неабходнай увагі. У шмат якіх мясцох сярод партыйцаў укаранілася думка, што МОПР,—гэта толькі арганізацыя па збору сродкаў для палітвязьняў, хоць, да рэчы кажучы, і гэты бок працы нашага МОПР'у таксама зусім не задавальняючы.

Апошні нумар „Чырвонай Дапамогі" зьмясьціў шраг артыкулаў, якія ставяць перад МОПР'ам баявую задачу пералому ва ўсёй сваёй працы. Гэты пералом павінен выяўляцца ў тым, каб МОПР стаў сапраўды масавай арганізацыяй, каб ён здолеў разгарнуць шырокую масавую барацьбу супроць канкрэтных праяваў белага тэрару, за вызваленьне палітвязьняў, за арганізацыю шырокай матар'яльнай і палітычнай дапамогі масам палітзьняволеных.

Партыйныя арганізацыі павінны зрабіць усё неабходнае, каб дапамагчы гэты пералом зьдзейсьніць у найхутчэйшы час. Трэба з усёй сілай ударыць па недаацэнцы працы МОПР'у, што мае месца ў шэрагах паасобных нашых арганізацый.

## З Ь М Е С Т:



---

